Л. К. Цітова

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
агульнаадукацыйных устаноў з беларускай
і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2009

УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я721
Ц74

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра бел. мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (заг. кафедры, канд. філ. навук, дацэнт *П. В. Васючэнка*);

настаўнік бел. мовы і літаратуры выш. катэгорыі сярэдняй школы № 141 г. Мінска *І. Г. Казелька*;

метадыст І катэгорыі навучальна-метадычнага аддзела Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў аграрна-прамысловага комплексу Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта *А. М. Градзецкая*;

канд. філ. навук, дацэнт *М. Ф. Шаўлоўская*

На вокладцы фрагмент рэпрадукцыі карціны
У. Хадаровіча «Сакавік»

**Цітова, Л. К.**
Ц74 Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання. У 2 ч. Ч. 2 / Л. К. Цітова. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. — 192 с.
ISBN 978-985-465-495-9.

**УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 83.3(4Беи)я721**

**ISBN 978-985-465-495-9 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-465-494-2**



# СЦЕЖКАМІ ДЗЯЦІНСТВА

Сцежкі маленства, сцежкі маленства!
Вы — лекі ад розных людскіх калецтваў.
Па вашай траве, па вашых росах
Часцей бы ступаць нам нагою босай,
Часцей бы да вас нам усім прычашчацца,
Ад бруду ўсялякага ачышчацца.
Лячыцца вашых крыніц чысцінёю
Ды матчынаю слязою святою.

*Кастусь Цвірка*

ЯКУБ КОЛАС

## Дарэктар[1]

*(Урыўкі з паэмы «Новая зямля»)*

...На ніцях белай павуціны
Прывозяць восень павучкі.
Яе красёнцы, чаўначкі[2]
У моры лесу мільгатнулі
І лісце ў багру апранулі,
І з кожнай лісцевай галоўкі
Глядзіць твар восені-свякроўкі.

---

[1] *Дарэ́ктар* — хатні настаўнік у дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы.

[2] *Чаўначо́к* — дэталь у ткацкім станку.

Павее ветрык — шурхнуць травы:
Няма ў ім ласкі, ні забавы.
Не — то не шолах каласочкаў,
Не смех блакітных васілёчкаў
У межах росных збажыны;
Не — то не музыка вясны,
А ціхі жаль і нараканне,
З жыццём і з сонцам развітанне.
Шыбуюць гусі ў край далёкі
І жураўлі ў той самы край.
— Бывай жа, лецейка, бывай!
Бывайце, родныя валокі[1]!

— Ну, — кажа раз Міхал, — як будзе?
Ўжо вучаць дзеці ў школцы людзі;
Пара б і нашым за навуку...
Аддаць у школку іх — не ў руку:
Давай харчы, наймі кватэру... —
І бацька тут, як на паперу,
Стаў вылічаць расходы, страту
І кончыў тым: лепш к сабе ў хату —
Не трэба й кланяцца Яхіму —
Наняць дарэктара на зіму,
Ну хоць бы Яську Базылёва.
— Дамо рублёў тры і — гатова!
А хлопец спрытны да навукі.
— Ну, Яська майстар на ўсе рукі:
Як да сярпа, так і да кнігі.
Але ці будуць хлопцы слухаць?.. —
Тут вочы ўніз спускае Ўладзя
Ды слова ўставіць смеласць мае:

[1] *Вало́ка* — тут: прасторы, краявіды.

— Я больш забыўся, як ён знае...
— О, ты разумны! Ты ўсё ўмееш,
А пяць ды два не зразумееш, —
Спыняе бацька грозна сына. —
Але вучыцца мне без дуру,
Ўсё разумець павінны самі! —
І бацька ўсіх абвёў вачамі,
Кіўнуў выразна на аборку[1].
На тым і скончылі гаворку.
Яшчэ дарэктар не з'явіўся,
А Ўладзя хлопцам пабажыўся,
Што ён за вуха ўзяць не дасца...
Няхай лепш возьме яго трасца[2]!

У дзве нядзелькі па пакровах[3]
Прывезлі Яську ў лапцях новых;
За ім два боты без абцасаў —
Насіў іх Яська з даўніх часаў,
Ад брата «Кіксы» дасталіся —
На ўсякі выпадак нясліся.

— Ну, вось дарэктар вам, глядзеце! —
Міхалківае тут на Яську, —
За кнігі заўтра і за ўказку,
Бо грошы бацькавы — не смецце,
Каб мне вучыліся старанна!
Не патураць ім анізвання! —
Міхал звярнуўся к «дарактору»:
— А не паслухае каторы —

---

[1] *Або́рка* — невялікая тонкая вяроўка.
[2] *Тра́сца* — ліхаманка, малярыя (хвароба).
[3] *Пакро́вы* — тут: пара восені.

Цягні за вуха на калені:
Знайду лякарства я ад лені!
А будзе йсці навука туга,
Падгоніць бацькава папруга[1]! —
Стаялі хлопцы і маўчалі,
На Яську зрэдку паглядалі;
А сам дарэктар, з вузел ростам,
Ў сваім уборы бедным, простым,
У зрэбных портках[2] і кашулі,
Стаяў, як бы яго прыгнулі,
Такім мізэрным[3] і маўклівым,
У халаце суконным, сівым.
Счакаўшы трошкі, ён ачнуўся,
Прыйшоў у памяць, азірнуўся.
Ён знаў усіх, і яго зналі;
З Уладзем колісь сябравалі,
Але цяпер не тыя ча́сы —
Рабіць нязручна выкрунтасы,
Бо цвёрда помніць, ведаць трэба:
На ім ляжыць цяпер вучэба.
Ён толькі летась скончыў школку
І веды меў у адну столку,
Ды й тых патраціў з палавіну,
У поле гонячы скаціну.
Таксама хлопцы разважалі
І, як трымацца з ім, не зналі:
Ці мець яго запанібрата,
Ці лепш з ім быць далекавата.
Уладзік зараз — шмыг у дзверы!..

---

[1] *Папру́га* — рэмень.
[2] *По́рткі* — штаны.
[3] *Мізэ́рны* — тут: невысокі, хударлявы.

Алесь за комінак схаваўся,
Адтуль на Яську прыглядаўся
І думаў там сабе без шуму
Якуюсь смешную, знаць, думу,
Бо зрэдку ўголас усміхаўся.
Яшчэ раз Яська азірнуўся,
Павесіў шапку, распрануўся —
Як вузел, хлопец невялічкі!
Крыху маркотна[1] з непрывычкі,
Бо тут так ціха, глухавата;
Лясы, кусты і адна хата;
Тут жыць сапраўды страшнавата...
Папаўся ён тут, небарака!
А лес пануры і страхлівы.
Дарэктар наш быў палахлівы;
Няма ні веры, ні надзеі
На вельмі добрыя падзеі.
Эх, цяжка жыць тут будзе, цяжка!
І нават каецца наш Яська,
Нашто даваў ён сваю згоду.
Каб знаў, — не ехаў бы ён зроду...
У запек[2] Яська йдзе, садзіцца —
Да дзела ж трэба прыступіцца!
Хоць і папаў ён у няволю,
Але выконваў сваю ролю,
Бо так і гонар ты свой згубіш.
— Ну, ты, Костусь, чытаць любіш? —
Дарэктар Костуся пытае,
Абы хоць гутарка якая.

[1] *Марко́тна* — сумна, тужліва, журботна.
[2] *За́пек* — запечак, месца паміж сцяной і печкай.

— Люблю, але яшчэ не ўмею:
Складоў ніяк я не здалею.
— Ну, гэта, брат ты мой, паўгора:
Склады чытаць ты пойдзеш скора,
Абы каб літары нам знаць,
А на склады ўжо — напляваць:
Паслібізуеш[1] і нічога —
Не трэба розуму тут многа.
А як Алесь? — Алесь вучыўся.
Пісаць ён нават налажыўся[2], —
Гаворыць Костусь пра Алеся.
— Што ўжо з мяне вы смеяцеся? —
Алесь аклікнууўся ім з печы: —
Хоць і пішу, ды недарэчы;
Калі што й ведаў, то забыўся,
Бо ўжо даўно пісаць вучыўся.
— Цябе ж, нябось, вучыў Лапата, —
Ўступіўся Костусь зноў за брата, —
Ты ў школе быў, Алесь, паўгода,
Пісаў на дошцы «кучка», «мода»,
Пісаў і «конь», і «вецер вее»...
Не, — наш Алесь пісаць умее!
— Ну, гэта я-то трохі знаю,
Хоць часам сам не расчытаю,
Што напішу, — такі пісака,
Не расчытае і сабака. —
Алесь за бэльку сунуў руку,
Раз справа ходзіць пра навуку,
Дастаў сваю цятрадзь старую:
— Вось паглядзі, як я малюю,
Якіх я тут наставіў птушак,

---

[1] *Паслібізава́ць* — тут: папрактыкавацца чытаць.
[2] *Налажы́цца* — тут: навучыцца.

Каракуль розных, завітушак.
Вось гэта — «кучка», гэта — «мода».
А гэта — «конь», а тут — «калода». —
...Глядзелі ўтрох на гэты сшытак
І ўсё разгледзелі да нітак.
І хлопцы тут пасябравалі,
Язык і Яську развязалі,
Сышлі з навукі на другое:
Зайшла іх гутарка аб тое,
Чым гэты кут багаты, слаўны,
Сярод звяроў тут лось быў глаўны.
І вучням нават тут прыйшлося
Сказаць дарэктару пра лося:
Які вялікі ён, рагаты,
Паджары[1] і стрынгалztяваты[2],
Калі глядзець на яго ззаду,
А з галавы — раголь-грамада!
За ім шоў воўк, зайцы, куніцы
І многа ўсякае драбніцы:
Барсук, каза, лісы, вавёркі,
Тхары, і ласіцы, і норкі.

Дарэктар слухаў з захапленнем,
Дзівіўся розным тут здарэнням:
Як барсука ў Парэччы білі,
Як тут куніц, тхароў лавілі,
Які характар, нораў звера,
Якая воўчая манера;
Таго не чуў наш Ясь ніколі,
Хоць быў чатыры гады ў школе.

---

[1] *Паджа́ры* — сухарлявы, тонкі, худы.
[2] *Стрынгалява́ты* — высокі, танканогі.

А на канцы, як пра гасцінец,
Сказалі Яську пра звярынец,
Каб скончыць тым усе навіны.

Звярынец — загарад казіны —
Ўсё гэта панскія забавы.
І сам звярынец быў цікавы:
Высокі, зложаны з бярвення.
І такі моцны — на здзіўленне!
Каб воўк да коз не мог дабрацца
Ні праз той верх, ні падкапацца —
Не ўсунеш пальца там нідзе ты.
Адным крылом звярынец гэты
Сюды выходзіў на дарогу.
Займаў ён цэлую разлогу:
І лес, і луг, і часць крыніцы.
Улетку ў ім растуць суніцы,
Іх хлопцы бралі колькі шапак.
У ельняку з яловых лапак
Стаіць салаш, як тая хата.
Раней тут коз было багата,
Крыху наўперад, не ў іх часе,
Ды тая плойма ўся звялася;
Цяпер жа ёсць тут толькі сарна[1]
Ды даніель[2], казёл адзіны,
А рогі тыя, як галіны.
Адно здарэнне аб казле тым,
Што мела месца прошлым летам,
Апавядалі хлопцы Яську,
Як найцікавейшую казку.

---

[1] *Са́рна* — горная антылопа.
[2] *Даніе́ль* — адзін з відаў аленяў, лань.

А гэта справа так была.
Каня ў кампанію казла
Пускалі нанач у звярынец.
І вось які казёл злачынец:
З канём знаёміцца, сябруе,
Так след у след і спацыруе,
І разам ходзяць, і гуляюць,
І разам ночы каратаюць —
Ну, словам, сталі дружакамі.
Ад дружбы к гульням пераходзяць,
Ды тыя гульні часта шкодзяць:
Казёл каня штурхець рагамі!
Штурхель быў нагла-нечаканы,
І ў жываце каня — тры раны!

Ідзе-цячэ ў хлапцоў размова —
І Яська зрэдку ўставіць слова,
Пра сёе-тое распытае —
Размова ладная, жывая!
Страхоў такіх тут наказалі,
Што ў Яські коленкі дрыжалі...
Затым у запек йшлі і спалі,
Туды ж і Яську яны бралі,
Ён усярэдзіне лажыўся,
Ляжаў маўчком, не варушыўся,
Абы не легчы толькі з краю:
— Бо я з вас коўдру пасцягаю.
Якое ж будзе вам тут спанне? —
Казаў наш Яська ў апраўданне.

Мінула ночка. Дзень праз вокны
Знішчае цёмныя валокны,
На печ, у запек зазірае
І ночку з хаты выціскае.

У печы ўжо палаюць дровы,
І іх астатнія размовы
Так гучна, бойка застралялі,
Як бы паны запалявалі.
Хлапцы памыліся рупліва
І ўсе з дарэктарам пачціва
Пасталі ў рад прад абразамі[1].
— Маліцеся ж вы... са слязамі!
Каб даў Бог здольнасці, ахвоты
Да вашай новае работы,
Панятнасць добрую і памяць
Ўсё браць на розум вам і цяміць,
І каб да кнігі вас гарнула, —
Сказаў Міхал сынам прачула...
— А па сняданні — за навуку!
І не чакаць мне на пануку[2],
І самі знайце свой парадак,
Каб і да кніг, як да аладак,
Таксама дружна наляталі. —
Дарэктар, хлопцы — ўсе маўчалі,
Схіліўшы ўдумныя галовы,
Пакуль цягнуліся прамовы.
— А ты, дарэктар, ведай дзела:
Прыпры іх добра, як вужакаў,
Каб аж заенчыў[3] і заплакаў,
Каб у галовах іх кіпела!
Калі ж чаго не зразумее,
Або не ў часе задурэе,

---

[1] *Абра́з* — ікона.

[2] *Пану́ка* — прымус, заахвочванне да працы.

[3] *Е́нчыць* — тут: настойліва і жаласна прасіць пра што-небудзь.

Ці так падыме часам спрэчку, —
Стаў на калені і на грэчку! —
«Ого! — падумалі хлапяты: —
Няўжо дарэктар так заўзяты,
Што будзе права сваё правіць
І на калені штодзень ставіць?
Ну, што ж? Пабачым, памяркуем,
А здзеку, кпін[1] не падаруем...»

Але навука аказалась
Не гэтак страшна, як здавалась,
Дарэктар выдаўся мяркоўны[2]
І лепшы нават, як свой кроўны:
Умей з ім толькі пагадзіцца,
Раменным вушкам паддабрыцца
Ці падшыванку звіць на лапаць, —
За вуха ён не будзе цапаць,
Наадварот: тады ты — дока[3],
Ў навуцы пойдзеш ты далёка.
І толькі Ўладзя хібіў часта:
Задач ніяк не браў і — баста;
Як з ім дарэктар наш ні біўся —
Ні з месца, раз ужо спыніўся;
А не — на злосць яму гаворыць,
А то часамі з ім і спорыць
Ці проста дражніцца, смяецца
І ўзяць за вуха не даецца.
Тады дарэктар адступаўся
І да другога звярачаўся.

---

[1] *Кпі́ны* — злыя жарты, насмешкі.

[2] *Мярко́ўны* — памяркоўны, разважлівы, цярплівы, добразычлівы.

[3] *До́ка* — адмысловы майстар сваёй справы, надзвычай дасведчаны чалавек.

1. Хто такі Яська Базылёў? Як ён апынуўся ў сям'і Міхала?
2. Зачытайце радкі, дзе распавядаецца, як выглядаў Яська, калі трапіў у чужую сям'ю. Якія вывады пра характар хлопчыка можна зрабіць на падставе гэтага апісання?
3. Як адчуваў сябе Яська ў сям'і Міхала? Якое ўражанне аказалі на хлопчыка незнаёмыя мясціны і чужая хата? Якую выснову пра сваё далейшае жыццё на хутары зрабіў хлопчык? Падмацуйце свой адказ радкамі з тэксту. Разгледзьце на форзацах рэпрадукцыі карцін Уладзіміра Сулкоўскага «Мікалаеўская лясная камора» і «Вапельная гара ў Новым Свержані» (з серыі палотнаў «Радзіма Якуба Коласа»), на якіх адлюстраваны краявіды, апісаныя Якубам Коласам у творы. Якое ваша ўражанне ад гэтых мясцін?
4. Як сустрэлі Яся дзеці Міхала — Уладзік і Алесь? Прыгадайце, пра што размаўлялі хлопчыкі, знаёмячыся з Ясем. Што іх зблізіла?
5. Які наказ даў Яську Міхал? Як вы думаеце, ці мог Яська быць для хлопцаў сапраўдным настаўнікам?
6. Як ставіцца да хлопчыкаў аўтар? Прывядзіце выразныя доказы з тэксту.
7. Перачытайце апісанне восені ў пачатку твора. Якія змены ў прыродзе заўважае аўтар? Якім настроем прасякнута гэта апісанне? Паразважайце, ці сугучнае яно агульнаму настрою твора? Аргументуйце свой адказ.
8. Растлумачце паэтычны вобраз: *На ніцях белай павуціны // Прывозяць восень павучкі.*

**9.** Якой паўстае восень у наступных радках: *Не — то не шолах кала-сочкаў, // Не смех блакітных васілёчкаў // У межах роснай збажыны; // Не — то не музыка вясны, // А ціхі жаль і нараканне, // З жыццём і сонцам развітанне*?

**10.** Прыгадайце рэпрадукцыю карціны Уладзіміра Сулкоўскага «Бервянец. Восень» (ч. 1). Якой убачыў асеннюю прыроду мастак? Параўнайце вобразы восені, увасобленыя на мастацкім палатне і ў літаратурным творы. Што роднаснае ў абмалёўцы прыроды мастаком і паэтам вы заўважылі?

АЛЕСЬ ГАРУН

## Датрымаў характар

*(Абразок[1] у адной дзеі)*

АСОБЫ

З ю к — хлопчык 11 гадоў.
В і н ц у с ь — яго брат 10 гадоў.

Даволі вялікі, але пусты пакой. Проста ад публікі дзверы з шыбкамі[2] ўгары. У левай сцяне даволі высока ад падлогі акно на 4 шыбы. Апрача стала і 2 крэслаў — ніякай мэблі. Сцены голыя. На стале кнігі, сшыткі.

З ю к і В і н ц у с ь сядзяць каля стала.

В і н ц у с ь *(голасна ўздыхаючы)*. Гэта ўсё роўна, але каб мы вучыліся, цётка напэўна б

[1] *Абразо́к* — невялікая п’еса.
[2] *Шы́бка (шы́ба)* — шкло, застаўленае ў аконную раму.

ніколі нас тут не замкнула... У гэтым ты вінен. Ужо трэці дзень, як мы не хочам вучыцца.

З ю к *(устаючы)*. А я табе кажу: будзе памойму. Трэба толькі не траціць натуры[1].

В і н ц у с ь. Не ведаю, што гэта мае значыць «не траціць натуры», але ведаю, што ў сто разоў лепей было б цяпер гуляць, чымсьці тут сядзець. Бо гэта агромна нудна — сядзець пад замком за кару.

З ю к. Цётка, трэба сказаць, залішне строга з намі абыходзіцца, асабліва са мной. Мяне, у маім вяку, дазваляе сабе замыкаць у гэты абрыдлівы пакой. Табе ад гэтага нічога не станецца, ты яшчэ дзіця, але я. Я маю ўжо адзінаццаць гадоў.

В і н ц у с ь *(абражаны)*. А я дзесяць...

З ю к. Дзевяць і пяць месяцаў.

В і н ц у с ь. Ну, сем месяцаў што ж... дурніца...

З ю к. Ого! Гэта розніца. Па дзесяцёх гадох кожны мужчына ўжо дарослы. *(Трагічна.)* Але я не папушчу[2] ёй!

В і н ц у с ь. Цікавасць. Што ты зробіш?

З ю к. Першае: як толькі тата прыедзе, зараз яму ўсё раскажу, як тут без яго з намі абыходзіліся, як не шанавалі мяне, яго старшага сына... І хто: нейкая кабета, нейкая цётка, якая, можа, меней правоў мае тут распараджацца, чым я...

В і н ц у с ь. А другое?

---

[1] *Не тра́ціць нату́ры* — не губляць гонару, свайго аблічча, настойваць на сваім, рабіць па-свойму.

[2] *Не папусці́ць* (каму-небудзь) — не саступіць.

З ю к. Другое? *(Збіты запытаннем з тору[1].)* Потым пабачым.

В і н ц у с ь. Так... Але, бачыш, калі цётка тут усім у нас парадкуе, то, значыцца, ёй можна... Яна ж у нас ужо даўно, ад самай мамінай смерці, і тата ёй ва ўсім дае волю і цяпер. Тата ведаў жа, калі мы маемся прыехаць на вакацыі[2], і, калі выязджаў, пэўна ж прыказваў цётцы, як нас трымаць. А потым — старшыя заўсёды барзджэй[3] з сабой згаворацца, чым з намі, і нам яшчэ так можа дастацца, што хто яго згадае як!

З ю к *(неспакойна)*. Ты так думаеш?

В і н ц у с ь. Але, так...

З ю к. Э... хто там ведае...

В і н ц у с ь. Павер мне! Старэйшыя заўсёды разам.

З ю к. Гэта праўда. Але як быць, калі штодня тое самае? Цётка прымушае нас працаваць па дзве гадзіны кожную раніцу. Ці табе здаецца, што гэта мяне можа забаўляць?

В і н ц у с ь. Наогул мне нічога не здаецца.

З ю к. Блазнюк! То ж вялізнае надужыццё[4] цяпер нас змушаць да навукі. Вакацыі — зусім не пара для навукі.

В і н ц у с ь. Але, праўда. Толькі як мы добра папрацуем гэтых дзве гадзіны, дык потым цётка дае нам волю гуляць праз цэлы дзень, а як мы не вучымся, дык замыкае... Калі так далей пойдзе...

---

[1] *Збі́цца з то́ру* — разгубіцца ад нечаканасці.

[2] *Вака́цыі* — канікулы.

[3] *Барзджэ́й* — хутчэй.

[4] *Надужыццё* — тут: злоўжыванне ўладай; прымус.

З ю к. Слухай, Вінцусь, ці ты думаеш, што цётка... Куды цётка... Што яе муж, нябожчык дзядзька, вучыўся, калі быў такім маладым мужчынаю, як я?

В і н ц у с ь. Скуль жа мне ведаць. Але пані Прыборская, гэта з вялікім ружанцам[1], што так з цёткаю цалуецца, калі ні прыедзе, дык тая, я чуў сам колькі ўжо разоў, усё гаворыць цётцы: «Ах, пані муж быў вялікім чалавекам!»

З ю к. Ну, Прыборская... дужа яна знаецца ў гэтым... А мне здаецца, што дзядзька калі нават і вучыўся, дык ненашмат што яму навука прыдалася. Ён быў усяго толькі паслом.

В і н ц у с ь. А дзеля чаго гэта паслы?

З ю к. Не шмат дзеля чаго, ва ўсякім выпадку. Некалі я быў з таткам тамака, дзе яны працуюць. Мяне дык не адразу і пусцілі — нібыта малады яшчэ тады быў. Называецца гэта «ізба». Не вельмі важна і называецца. У ізбе гэтай вялізная саля[2], а ў ёй парасстаўляны сталы і лавы акурат як у школе. Усе паслы сядзяць у гэтай школе і адзін па аднаму ўстаюць адказваць свае заданні нейкаму лысаму пану ў акулярах.

В і н ц у с ь. Гэта, мусіць, іх прафесар?

З ю к. А ўжо ж. Ён даглядае за імі са свайго падвышэння і нават, калі занадта вялікі гармідар[3] паднімуць, звоніць у такі званочак, каб сціхлі.

В і н ц у с ь. А... а замыкаюць іх за кару, калі пачнуць залішне даказваць?

---

[1] *Ружа́нец* — шнурок з пацеркамі або вузельчыкамі для адлічвання прачытаных малітваў.

[2] *Са́ля* — вялікі пакой, зала.

[3] *Гармі́дар* — шум, гоман, беспарадак.

З ю к. Гэтага не ведаю... Але мусілі б, бо часамі ліха ведае якія штукі выпраўляюць. А потым... разумееш, п’юць толькі ваду, цукраваную ваду.

В і н ц у с ь. Як маленькія дзеці...

З ю к. Як дзеці... Ну хіба ж гэта не глупства — гэтыя паслы...

В і н ц у с ь. А ты чым будзеш, як будзеш вялікім?

З ю к *(з абурэннем)*. Я буду вялікім... але я ўжо вялікі — як на мой век. Хочаш хіба сказаць, як буду яшчэ старшым?..

В і н ц у с ь. Але...

З ю к *(важна)*. Напэўна яшчэ не ведаю. Змоладу я хацеў быць уласнікам цукерні... або ўласнікам крам з цацкамі, але цяпер аддумаў. Барздждэй што зраблюся міністрам...

В і н ц у с ь. Гэта? У Мінску?

З ю к. Сказаў! Скуль жа ў Мінску будуць міністры, калі ім няма тут чаго рабіць! Міністры жывуць толькі па вялікіх мястох. Ах, браце, што за пекная штука быць міністрам! Убранне, вышыванае золатам, капялюш такі... таксама з золатам...

В і н ц у с ь *(са здзіўленнем)*. Дык ты будзеш выглядаць бязмала як прыдзвер[1] у Гранд-гатэлю?

З ю к. Ого — шмат лепей! А потым буду мець шмат медалёў. Паначапляю ўсе іх на грудзі — паглядзіш, гэта будзе хораша выглядаць. І будуць да мяне зварочвацца: «Ваша Вяльможнасць, Ваша Эксцэленцыя». *(Паказваючы.)* «Ваша Вяльмож-

---

[1] *Прыдзве́р* — швейцар; чалавек, што стаіць ля ўвахода ў атэль, рэстаран, тэатр і сочыць за парадкам.

насць зволіць прыняць?» — «Хто гэта асмельваецца мяне турбаваць?» — «Гэта турэцкі паўнамоцнік і японскі імператар просяць іх выслухаць, Ваша Вяльможнасць». — «А, добра, гэта што іншае... хай пачакаюць, Яго Вяльможнасць вельмі заняты, паліць цыгару». *(Сядае на крэсле бокам да гледачоў і ўдае, як бы паліць.)*

В і н ц у с ь. А я зраблюся Генрыкам Сянкевічам, куплю сабе шмат паперы і напішу «Патоп», «Крыжакоў»...

З ю к *(смеючыся)*. Разумненькі. Даўно гэта ўжо і без цябе напісана.

В і н ц у с ь. Гэта нічога не шкодзіць, што напісана. Напісана, ды па-польску, а я напішу панашаму і потым усё іначай. Кміціца[1] я так доўга мучыць не буду. Данусі[1] не дам памерці, як гэта зрабіў Сянкевіч, але выдам яе за Збышку[1], а на Ягенцы[1] сам ажанюся...

З ю к. Глупотка. Гэнай жа Ягны няма, і не было яе ніколі.

В і н ц у с ь. Няўжо і не было? А ці ты думаеш, што гэта цяжка пісаць?

З ю к. Бадай што, і не цяжка. Іншыя пісьменнікі, глядзі, як памногу пішуць. Мусіць, каб было цяжка, то не здужалі б. Дый Сянкевіч, ён, кажуць, у школе найгоршыя адзнакі атрымоўваў.

В і н ц у с ь *(радасна)*. Акурат як я! І мне здаецца, што гэта не цяжка: трэба толькі паперы, пер'яў і атраманту[2]... нават і выдаткі[3] не вялікія.

---

[1] *Кмі́ціц, Дану́ся, Збы́шак, Ягéнка* — героі твораў польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча.

[2] *Атра́мант* — чарніла.

[3] *Выда́ткі* — расходы, затраты.

З ю к. А мыслі?

В і н ц у с ь. Што там мыслі.. Мыслі прыходзяць самі.

З ю к *(пераконаны).* Праўда. Ну, дык едзьма! *(Устае з крэсла.)*

В і н ц у с ь *(як бы просячы).* Але ведаеш што, Зюк... Хто ведае... Можа, твой міністр і не атрымліваў самых кепскіх адзнак... *(Зюк сядае.)* Можа б, мы павучыліся, бо калі так далей пойдзе, як за гэтыя тры дні... Ты ведаеш жа, што цётка дакляравала[1] нас адсюль не выпусціць, аж пакуль мы не скончым свае заданні — давай павучымся і скончым!

З ю к. Не. Я мушу ўсё падужаць[2] і ўсё вытрымаць. А, апрача таго, цётка павінна была параіцца са мной перад тым, як мяне сюды садзіць... Не — я страшэнна сярдзіты!

В і н ц у с ь *(падсоўваецца з крэслам да Зюка).* А калі не зробім заданняў? Дык будзем жа гэта сядзець аж давеку[3]?

З ю к. Ты заўсёды аб адным. Тым для цябе горш. *(Кладзе праз стол руку на плячо Вінцуся.)* Эх, Вінця, трэба быць смелымі, маладымі героямі, мучанікамі, а не баяцца таго, што будзем сядзець. Будзем, ну й будзем. Помніш, як у той кніжцы, каторую я браў з гімназіі, гэны малады мужчына? Вось дзе герой быў: прасядзеў у бакшце[4] трыццаць пяць гадоў, але не паддаўся.

---

[1] *Дакляраваць* — паведамляць, абяцаць.
[2] *Падужаць* — асіліць, вынесці выпрабаванні.
[3] *Давеку* — тут: надта доўга, да канца жыцця.
[4] *Бакшт* — астрог, вежа ў замку.

В і н ц у с ь *(жаласліва, напалохаўшыся).* Ой, не, Зючак, — я столькі тут не вытрываю, я барзджэй памру... *(Вымае з кішэні хустачку і падносіць яе да вачэй.)*

З ю к *(прысоўваецца з крэслам да Вінцуся і абнімае яго за шыю).* Вінцуська, братачка, не плач... Прашу цябе, не плач!

В і н ц у с ь *(хаваючы хустачку ў кішэню, глытаючы слёзы).* Я не плачу...

З ю к *(трошкі адхіляецца ад Вінцуся і рукой, каторай яго абнімаў, лёгка стукае па стале далонню).* Бачыш, трэба датрымаць сваё. Трымайся так, як я!

В і н ц у с ь. Бо ты зусім не ведаеш, Зюк, аб чым я думаю. Найгорш... найгорш было б прасядзець тут, у гэтым пакоі пустым, усю ноч...

З ю к *(уражаны гэтымі словамі).* Гм... Ліха! Я аб гэтым не думаў! *(Жыва.)* Але не можа быць, пад вечар нас выпусцяць, — бо што ж гэта было б? А ў канцы заспакойся, братачка, нас жа двое. Калі хто і нападзе, дык будзем бараніцца. От, каб мне сюды маю шаблю!

В і н ц у с ь *(занепакоены).* Ты думаеш, на нас нехта мог бы напасці?

З ю к. Гм-м... бачыш, ноччу ўсяго можна спадзявацца. Заўсёды лепш мець зброю.

В і н ц у с ь. Божухна! Астацца тутака на ўсю ноч?! Я ўжо не баюся трыццаці пяці год, бо татка ж раней прыедзе і нас выпусціць, ну... але і адну ноч... *(уздрыгвае).* Помніш тых бедных дзетак ангельскага караля, пра каторых мы чыталі?..

З ю к. Помню, помню. Гэта страшна... Папраўдзе, гэта кепская гісторыя — за кару сядзець пад замком. Можа, і праўда лепш было б вучыцца... *(Кароткая паўза. Вінцусь зноў выцірае слёзы. Зюк у задуме апусціў галаву, аж раптам, ускочыўшы, кажа.)* Слухай, Вінцусь. Пышны[1] план... Ведаеш, да чаго я дадумаўся?

В і н ц у с ь *(сумна паднімаючы галаву).* Што ж?

З ю к. А вось: дай адразу сабе паможам і цётцы адудзячым за яе дабрату...

В і н ц у с ь. Якім спосабам?

З ю к. Уцякаючы адгэтуль. Хай тады цётка нас пашукае. Што яна скажа, як татка, прыехаўшы, запытаецца: «Дзе хлопцы?» — «Няма...» — «Як няма, чаму няма?» Што яна адкажа, га? Добра?

В і н ц у с ь. Добра. А куды ўцячом?

З ю к. Пытанне! У Амерыку, вось куды. Будзем ездзіць тамака сабе на мустангах[2] і лавіць баволаў[3], хадзіць па сцежцы вайны, паліць люльку згоды[4], спаць пры агні, закрыўшыся самбрэрас[5]...

В і н ц у с ь. Аднак гэта не так проста туды ўцячы.

З ю к. Фю-ю! Нічога лягчэйшага: на першай станцыі сесці на чыгунку і — проста да мора, а

---

[1] *Пы́шны* — тут: цудоўны, надзвычай добры.

[2] *Муста́нг* — дзікі конь (на Амерыканскім кантыненце).

[3] *Баво́л* — буйвал.

[4] *Палі́ць лю́льку зго́ды* — прымірыцца, жыць у згодзе.

[5] *Самбрэ́рас* — шыракаполая шляпа.

там схавацца ў бочку або ў вугаль на параходзе, і праз дзесяць дзён будзем у Амерыцы.

В і н ц у с ь. А да станцыі як?

З ю к. Як — як?

В і н ц у с ь. Ну, як да станцыі дастанемся[1]? Трэба будзе ісці праз лес, а ў лесе нас ваўкі папераймаюць.

З ю к *(расчаравана сядае на крэсла).* Але, ваўкі, — праўду кажаш: гэта не зусім бяспечна. Але... Мы і не будзем уцякаць у Амерыку, схаваемся толькі дзе-небудзь.

В і н ц у с ь. Дзе?

З ю к. Дзе? У адрыне пад сенам. Прынамсі, будзем чуць, як нас будуць шукаць і як цётка плакаць будзе.

В і н ц у с ь. Але ж у адрыне пацукі.

З ю к. Што ты кажаш?

В і н ц у с ь. Праўда. Анадай[2] Палінар накладаў рэзгіны[3], — аж тут як ні выскачыць з-пад сена пацук, як ні пісне, як ні паляціць ды мне пад ногі скок! Аж я напалохаўся. Вось такі *(паказвае, расставіўшы рукі)* пацук!

З ю к. А... Гэта горш: з пацукамі не жарты... *(Задуменна.)* Бай! Не ўсё згублена. Ведаеш, дзе схаваемся, — на вёсцы, у нашай старой нянькі Алены. Помніш, як яна нас шкадавала?

---

[1] *Даста́цца* — тут: дабрацца.

[2] *Ана́дай* — напярэдадні.

[3] *Рэзгіны* — прыстасаванне з вяровачнай сеткі, нацягнутай на сагнутыя драўляныя дужкі, у якім носяць сена, салому.

В і н ц у с ь. А Алена нікому не скажа?

З ю к *(з пагардай)*. Алена — скажа! Ого — Алена скажа, выдумаў! Яна нас яшчэ мёдам частавацьме кожны дзень, бо ў яе сына калоды...

В і н ц у с ь. Во, гэта мне лепш падабаецца, чым Амерыка і пацукі ў адрыне, прынамсі, мёду наядзімося. Аднак... Цётка нас замкнула і ключ забрала, — як жа мы ўцячом?

З ю к *(паказваючы на акно)*. А во: прыставім стол і фю-ю на другі бок!

В і н ц у с ь. Не высака тут?

З ю к. Э, глупства. Я адзін выскачу, а табе прыстаўлю драбіну, і будзеш на волі.

В і н ц у с ь *(радасна)*. Слаўна прыдумана. Дай жа я табе памагу. *(Разам з Зюкам прымаюць усё са стала і падстаўляюць яго пад акно.)* Ну, лезь! *(Зюк праз стол узлазіць на падаконніцу і праз шыбу глядзіць уніз.)* Што, як?

З ю к. Не, не выскачыш, — высака занадта, небяспечна.

В і н ц у с ь *(узлезшы на стол, глядзіць праз акно)*. Высака.

З ю к *(злезшы на стол з акна, хмарна)*. Высака... *(Паўза.)*

В і н ц у с ь. А можа, і лепш, што высака... Бо нават пакуль мы і ў Алены знайшліся б, татка мог бы набрацца страху, а за што ж яго палохаць. Пойдзем лепш, Зюк, паставім усё на месца і будзем вучыцца.

З ю к. Пачакай, там нехта ідзе па сцежцы. Цётка і... за кустом не відна... Ага, і нейкі мужчына.

В і н ц у с ь *(стаўшы на пальчыкі)*. Дзе? Дзе? Зюк, дык гэта ж татка, татачка.

З ю к *(радасна)*. Праўда! Праўда! Божа мой, колькі часу мы ўжо не бачыліся? Якая гэта будзе радасць зараз пры спатканні!

В і н ц у с ь. А ведаеш, Зюк, аб чым тата цяпер з цёткай гаворыць?

З ю к. Аб чым?

В і н ц у с ь. Аб нас. І цётка, напэўна, ужо данесла тату, што мы ўжо трэці дзень не вучымся. І хто яго ведае, што тата яшчэ аб гэтым падумаў...

З ю к *(неспакойна)*. Так думаеш?

В і н ц у с ь. А пэўна. Слухай, няхай нас тата застане за працай: паставім усё на месца і пачнём вучыцца.

З ю к. Слушна гаворыш. *(Абодва саскокваюць са стала і даводзяць да пачатковага парадку. Ставяць на месца крэслы.)* Ну, я ўжо не зачну так другі раз...

В і н ц у с ь. Як і я. Гэта брыдка, што татусь нас тут застане, сорам! *(Сеўшы, бярэ граматыку і голасна цвічыцца[1] ў скланеннях.)* «Я буду пільны, ты будзеш пільны, ён будзе...»

З ю к *(піша з кнігі)*. «Праца ёсць школай для моладзі і аздобай[2] для старасці». *(Кінуўшы пісаць.)* Ах, чаму ж яны не ідуць?

В і н ц у с ь. Спяшайся з заданнямі, стары мармытун, — потым назюкаешся. «Я быў пільны,

---

[1] *Цві́чыцца* — тут: практыкавацца.

[2] *Аздо́ба* — тое, што ўпрыгожвае.

ён быў пільны... Я быў...» *(За дзвярыма галасы, пакручваецца ключ у замку.)* Не вытрымаю. *(Бяжыць і выскоквае проста ў дзверы.)* Татачка!

З ю к *(бяжыць за Вінцуком. Перад дзвярыма, абярнуўшыся да гледачоў, кажа).* Але хто мне выткне[1], што я не датрымаў характару?

К а н е ц

1. Які выпадак пакладзены ў аснову п'есы «Датрымаў характар»?
2. Якім вы ўяўляеце Зюка? Што галоўнае ў яго характары? Які найвялікшы клопат мае хлопчык? Як ён размаўляе з братам?
3. Якім паказаны Вінцусь у п'есе? Чым адрозніваецца ён ад брата? Параўнайце характары хлопчыкаў.
4. Як трымае сябе ў замкнёным пакоі кожны з братоў? Пра што яны мараць, якія планы строяць?
5. Што ў паводзінах і развагах хлопцаў падалося вам смешным? Чаму? Як аўтар ставіцца да сваіх герояў?
6. Прачытайце п'есу па асобах, пастарайцеся перадаць пры чытанні адметнае ў характарах кожнага з братоў.
7. Чаму, на вашу думку, п'еса атрымала такую назву?
8. Чым вонкава адрозніваецца гэты абразок ад тых твораў, што вы вывучалі раней?

---

[1] *Вы́ткнуць* — зрабіць заўвагу, папракнуць.

## ПРА ТЭМУ І ІДЭЮ ЛІТАРАТУРНАГА ТВОРА

Калі мы збіраемся прачытаць літаратурны твор, нас найперш цікавіць, пра што ён: якая эпоха, якія падзеі паказаны, пра якіх герояў распавядаецца. А таксама хто аўтар, які ўводзіць чытача ў непаўторны свет мастацтва. Тое, што ўразіла пісьменніка і што ён адлюстраваў, — гэта тэма твора.

Звычайна аўтар апісвае часы і падзеі, якія глыбока хвалююць яго, якія ён перажыў асабіста або добра ведае (быў сам непасрэдным сведкам альбо хто-небудзь пра іх вельмі цікава і падрабязна расказаў). Надзвычай вялікую ролю ў літаратурнай творчасці адыгрывае таксама творчы вымысел, фантазія пісьменніка, яго багатае ўяўленне, уменне прыдумваць і цікава апавядаць, каб не пакінуць сваіх чытачоў абыякавымі.

> Т э м а літаратурнага твора — жыццёвая з'ява або кола з'яў, пра якія ідзе размова ў творы.

Мастацкі твор па-сапраўднаму захапляе нас тады, калі цікавая не толькі сама тэма, але і тое, як раскрывае яе пісьменнік, якімі думкамі дзеліцца. Чытаючы літаратурны твор, мы спачуваем героям, радуемся або засмучаемся, хвалюемся і перажываем за іх, як за сапраўдных людзей. Пісьменнік заўсёды неабыякавы да таго, пра што піша: ён выказвае свае адносіны да герояў і да адлюстраваных падзей, каб данесці да чытачоў уласную пазіцыю, свае погляды і перакананні.

> І д э я — абагульненая думка, асноўны сэнс літаратурнага твора, які ўвасабляецца праз тэму, вобразы герояў, апісанні і карціны. Ідэя — тое, што аўтар хацеў сказаць сваім чытачам, дзеля чаго пісаў твор.

Згадаем казку Уладзіміра Караткевіча «Нямоглы бацька». Тэма твора — узаемаадносіны паміж дзецьмі і бацькамі, паказ жорсткага закона жыцця, якога трымаліся даўнія дзікія людзі. Асноўная думка (ідэя) казкі — сцвярджэнне дабрыні, увагі, спачування і міласэрнасці ў адносінах да састарэлых людзей, шанаванне іх вопыту, розуму, мудрасці.

Тэма і ідэя цесна паміж сабой звязаны. Ідэя твора найперш увасабляецца ў вобразах. Спасцігнуць яе можна толькі тады, калі мы прааналізуем паводзіны герояў, іх учынкі, разважанні. Сваю пазіцыю аўтар выяўляе праз агульную настраёвасць, выказаныя пачуцці, раскрыццё стану душы (у паэзіі) і праз паказ жыццёвых падзей, шматлікія апісанні: карцін прыроды і побыту, знешняга выгляду персанажаў, іх перажыванняў і душэўных пакут (у прозе).

**1.** Што такое тэма мастацкага твора?
**2.** Як выяўляецца асноўная думка (ідэя) твора?
**3.** Пра што расказаў Алесь Гарун у сваім творы «Датрымаў характар»? Сфармулюйце асноўную думку п’есы.
**4.** Паспрабуйце вызначыць тэму і ідэю твора, які вы самастойна прачыталі і які вам запомніўся.

ЯКУБ КОЛАС

# У старых дубах

*(Скарочана)*

Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся па беразе Нёмана.

Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш. Іх не чапала рука людская, толькі даўнія часы палажылі свой след...

У леце пачыналася ўжо тая ледзь значная змена, той паварот часу, калі жыццё прыроды ідзе на спад. Скошаны луг і паскладаныя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым паміранні. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або лянiва аглядалі лагчыны. Але было прыкметна, што не на пажыву пазбіраліся яны сюды, а для нейкай іншай справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, узнімаліся яны ўгару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны сплятаіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыллямі, плаўна і згодна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў... Асіраценыя старыя дубы ў чорных шапках буслiных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы.

На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасвіліся статкі. Там і сям сядзелі пастушкі. У кожным іх гуртку былі свае інтарэсы, свае забаўкі, гутаркі. Сонца даўно ўжо звярнула з поўдня, але свяціла яшчэ горача. У паветры было ціха, толькі звон летнікоў зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песню, і, здавалася, прырода была за-

калыхана гэтым крыху сумным звонам. Маленькія камарыкі-таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, як бы чыясьці нявідная рука трэсла ў паветры маленькую сетачку.

— Чаго яны таўкуцца тут? — спытаў Грышка Базыля і махнуў рукою па кучцы камарыкаў.

— Гуляюць, — кажа Базыль. — Ты думаеш, ім не хочацца пагуляць? Цяпер іх час, і гуляюць.

Базыль і Грышка — найлепшыя дружакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба — як запамятаюць. Дзве зімы ў школе сядзелі яны на адной лаўцы і трэцяе лета пасуць разам кароўкі.

Калі катораму маці дасць у торбачку сала, то гэтае сала разразалі папалам і пяклі яго на ражончыках[1]. А смачнае сала, спечанае над агнём у полі! Прыгнаўшы з раніцы, хадзілі разам лавіць рыбу і купацца. І ні з кім яны не злучаліся і, апроч свае кампаніі, другой не хацелі...

Палягуць часамі хлопцы пад дубам. Грышка ляжа на спіну і колькі мінут моўчкі ўглядаецца на дуб, пад якім яны ляжаць.

— Як ты думаеш, Базыль: ці ёсць на свеце такі чалавек, які б панёс гэты дуб?

Базыль акідаў вокам дуб і, крыху падумаўшы, казаў:

— А пэўна ёсць.

І тут жа расказваў свайму сябру здарэнне з якім-небудзь асілкам. Так, адзін селянін паехаў па хвою ў княжацкі лес. Ссек ён такую тоўстую хвою, што і два чалавекі не абнялі б яе. Узваліў на воз і паганяе каня. Конь — ані з месца! А якраз

---

[1] *Ражо́нчык (ражо́н)* — дубчык, востры кіёк.

надышоў ляснік. «Стой жа, — думае ён, — нідзе ты не дзенешся: не ўцячэш з гэтай хвояй», — і сам пазірае, што будзе далей. Чалавек гэты, нічога не гаворачы, выпраг каня, прывязаў яго да канца калоды і, сказаўшы: «Няхай жа будзе брыдка каню», — узяўся за аглоблі і пацягнуў калоду. Ляснік толькі галавою пакруціў — і слова не сказаў селяніну.

— Вось каб мы былі такія дужыя, усіх бы зарэчанцаў пабілі! — уздыхнуўшы, гаварыў Грышка.

— Вось дзіва! Што іх там біць...

Хлопцы сціхлі і задумаліся.

Было тут, у дубах, адно месца, дзе Базыль любіў сядзець, назіраць і думаць. Там, над абрывістым берагам Нёмана, стаяў стары прысадзісты тоўсты дуб... Ад доўгіх часоў бераг, падмываемы вадою, асоўваўся і агаляў тоўстыя карэнні старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся набок, а агалены і працягнуты над вадою яго корань здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб збіраўся перабрысці Нёман. Сеўшы на гэтым корані, Базыль пазіраў, як беглі дробныя хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раска: вада то ўздымала яе, то апускала.

Каля самага берага стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што борздзенька ківаўся пад напорам вады. І ніколі не меў спачынку гэты ражон: і ўдзень і ўночы ківаўся. Хіба, можа, зімою, як маразы скуюць лёдам ваду, адпачне гэты пахілак-ражон.

Базыль пазіраў і думаў.

А вакол было ціха, і Базылю здавалася, што ён чуе спевы гэтай цішыні. Доўга ён прыслухоў-

ваўся, але спевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала маркотна. Усё ішло, здавалася яму, сваёю дарогаю і жыло сваім жыццём.

А Грышка тым часам бегаў каля ракі. Якраз па тым баку ішоў з вудамі рыбак. Пабегаўшы па беразе яшчэ колькі часу, Грышка пайшоў шукаць Базыля.

Углыбіўшыся ў свае думкі, Базыль нічога не заўважаў і сядзеў усё на тым жа дубовым корані. Звесіўшы ногі над вадою, пазіраў ён уніз, як цёк Нёман. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні.

Аб чым жа думаў хлопчык?

Відаць, аб чымсьці важным і сур'ёзным, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі кудысьці ўглыб.

Схаваўшыся за куст, Грышка моўчкі наглядаў за сваім сябрам. І без усякай злой мыслі раптам вылецеў з-за куста і гукнуў на ўсю моц:

— Га-а!

Знячэўку Базыль так перапалохаўся, што ўвесь задрыжаў і падскочыў. Спужаўшыся, ён не мог ужо ўтрымацца і ссунуўся ўніз. На момант, зачапіўшыся лапцем за дубовы корань, павіс уніз галавою над гладдзю вады, а потым шугануў... і прапаў з вачэй. Нёман злёгку здрыгануўся, вада расступілася і дала няшчаснаму хлопчыку месца ў халодных сваіх нетрах[1], ды колькі кругоў пабегла па вадзе ва ўсе бакі. Разы два ці тры паказалася яго галава; рука нязграбна лавіла паветра; зрабіўшы паўкруг і захлёбваючыся, ён прапаў назусім.

---

[1] *Не́тры* — тут: бяздонне, надта глыбокае месца.

Грышка не ведаў, што так можа скончыцца яго дурасць, і падняў прарэзлівы крык і лямант[1]:

— Ратуйце! Утапіўся! Гвалт, людзі, ратуйце!

Другія пастушкі збегліся на крык і далучылі свой лямант.

Рыбак падбег першы. Скінуўшы адзежу, адважна кінуўся ён у ваду.

Збегліся людзі.

Заламаўшы рукі, маці разрываючым душу крыкам галасіла і прычытвала. Як непрытомная, кідалася яна ў ваду, але яе трымалі мужчыны.

Сонца гэтак жа сама пазірала на гэтую з'яву; гэтак жа сама ціха было ў прыродзе, і ўсё жыло сваім жыццём. Старыя дубы стаялі спакойна, важна, як і заўсёды. Толькі галкі, спуджаныя людскім крыкам, пазляталі з дубоў ды сіваваронкі з сярдзітым краканнем кружыліся над дуплістымі дзеравякамі, як бы злуючыся на тое, што патрывожылі іх прывольны спакой, і ззялі на сонцы сваім зялёным пер'ем.

Базыля выцягнулі і адратавалі, але пасля такога здарэння ён стаў ціхім і яшчэ больш задуменным.

?

1. Якое ўражанне зрабіла на вас апавяданне Якуба Коласа?
2. Якім вы ўяўляеце Грышку, а якім — Базыля? Падмацуйце свой адказ прыкладамі з тэксту.
3. На чым грунтавалася сяброўства хлопчыкаў, такіх розных па характары?

---

[1] *Ля́мант* — моцны, прарэзлівы крык.

4. Чым выкліканы, на вашу думку, неабачлівыя паводзіны Грышкі на беразе Нёмана? Ацаніце яго ўчынак.
5. Прыгадайце, якім апісваецца Нёман у творы? Як сродкі мастацкай выразнасці дапамагаюць пісьменніку ў стварэнні вобраза славутай ракі? Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Уладзіміра Сулкоўскага «Высокі Бераг». Звярніце ўвагу на каляровую палітру карціны. Параўнайце вобразы Нёмана, створаныя мастаком і пісьменнікам. У чым, на вашу думку, сугучныя гэтыя вобразы, чым яны розняцца?
6. Якой паўстае прырода ў апавяданні? Які настрой пануе ў наваколлі? (Звярніце ўвагу, што апавяданне пачынаецца і заканчваецца апісаннем спакою і сцішанасці ў прыродзе. Да таго ж, аўтар двойчы зазначае, што ў прыродзе *ўсё жыло сваім жыццём*.) Вызначце мастацкую ролю пейзажу ў творы.

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

## Васількі

Стаяў той асабліва прыгожы дзень, якія бываюць звычайна ў канцы жніўня месяца, калі даўно скончана жніво, звезена жыта ў гумны і над апусцелым полем дружна ўзлятаюць стайкі шпакоў — прадвеснікаў блізкае восені. Зямля здаецца лёгкай, бязважкай, яна ўся дыхае цішай, спакоем. Усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчасты край лесу, і бялявы дымок далёка-далёка, дзе пра-

ходзіць чыгунка. Нават бачыш, як трапечацца зжаўцелы ліст на бліжняй бярозе, як высока-высока ў небе ляціць няведама куды самотная павуцінка.

Над купчастай імшарынай пацешна ўзнімаецца бусел, паважна ляціць над полем, выцягнуўшы ўперад сваю задуменную дзюбу.

— Наш бусел! — ганарыста гаворыць Міколка.

— Хваліся! — смяюцца хлапчукі. — Што ні бусел, дык твой!

— А вот жа наш. Глядзіце! Хочаце аб заклад, на ўсе баравікі... — І Міколка ўзмахвае сваім кошыкам. Поўная ліпаўка[1] баравікоў — жаўцявых, чырванаватых, цёмных, нібы вылітых з медзі, — самыя што ні ёсць грыбы баравыя. Зверху лісты папараці, каб не трапіў пыл у кошык, ды некалькі запазнелых васількоў, якія сарваў Міколка на ўзмежку поля. Васількі — для сястрычкі. Яна хацела пайсці разам з ім у лес, але маці не пусціла: трохі прыхворвае малая.

— Ну што ж, спужаліся, грыбоў шкада! — наступае Міколка на хлапчукоў, размахваючы перад імі ліпавым кошыкам.

Бусел ляціць проста на высокую грушу-дзічку, што стаіць на ўскраі сяла, разгалістая, з буславым гняздом на самай вяршыні. За грушай Міколкава хата.

— Ага! Я ж казаў вам... — задзірыста гаворыць Міколка і пераможна шмыгае кірпаўкай носа, якая аж залаціцца пад ранішнім зыркім сонцам. Прыжмурыўшы вока, Міколка ўглядаецца ў

---

[1] *Лі́паўка* — кошык, зроблены з ліпавых пруткоў.

далёкую грушу, і лёгкая хмурынка прабягае па яго жывым твары.

— Ізноў нехта бусла пужае... Вот спаймаю каторага — дам!

Усе бачаць, як бусел наважыўся быў ужо сесці на гняздо, але раптам узляцеў угору і доўга лятаў, робячы ўсё большыя і большыя кругі, узнімаючыся вышэй і вышэй, пакуль не ператварыўся ў маленькую белую мецінку. І тая знікла, відаць, паляцеў бусел на сіні лес, што за ракой. Хлапчукі ўздыхнулі. Нехта задуменна сказаў:

— Вот бы самалёты такія пабудаваць, як буслы. Хочаш сесці на хвою, сеў на хвою, на дуба — на дуба, а то і на хату высокую можна сесці.

— Нашто табе такія самалёты?

— Немца каб біць зручней...

— То ж надумаўся... У нас яшчэ хітрэйшыя самалёты ёсць. Рр-а-аз — і няма сотні немцаў. Рр-а-аз — і другой нямашака... Немцы, яны хітрушчыя, а мы яшчэ хітрэй... — рэзка абарваў Міколка хлапчука, марыўшага пра такія дзівосныя самалёты, якія махаюць крыламі і садзяцца, дзе хочуць, як буслы.

Усе задумаліся.

Немцы. Ніхто з хлапчукоў яшчэ не бачыў іх. Праўда, ужо колькі дзён, як ціхімі вечарамі глуха гудзе зямля, і гэты гул нарастае штодня. А ўчора былі частыя ўспышкі на захадзе. Старэйшыя, калі лезлі і чапляліся да іх з пытаннямі дзеці, проста адказвалі:

— Гэта ж паблісківаюць заранкі...

— А чаму грыміць?

— Чаму, чаму... Навальніца будзе. Кладзіцеся спаць...

Хлапчукі, аднак, добра ведаюць пра гэтыя заранкі.

Самі ж яны, хлопцы, дапамагалі выганяць жывёлу, якую пагналі на ўсход, каб не дасталася часам дабро ворагу. Жывёлу пагнаў сам старшыня, Міколкаў бацька, ды яшчэ другія калгаснікі. Яны яшчэ не вярнуліся да хат. А перад гэтым прасачыў раз Міколка, як бацька яго разам з другімі дзядзькамі нешта ездзілі ў лес поначы і адтуль прыехалі з пустымі драбінамі. Вазьмі і запытайся тады Міколка:

— То вы гранаты і кулямёты вазілі ў лес хаваць, відаць, пад тыя старыя яліны... Ты ўсё прыглядаўся да іх, калі мы з табой былі ў лесе...

Бацька быў аж здрыгануўся неяк, пацямнеў тварам, але потым спакойна падышоў да Міколкі, гледзячы яму проста ў вочы — сінія, хітрушчыя, — сурова прашаптаў некалькі слоў:

— Ты глядзі ў мяне, паганец... Калі дзе-небудзь і калі-небудзь ты ляпнеш якое слова, то я... я выцягну доўгі твой язык і павешу цябе на гэтай вось штуцы... — бацька выразна паказаў на крук. Гэта быў звычайны драўляны крук, убіты ў сцяну яшчэ нябожчыкам дзедам. Крук быў смалявы, жоўты, як воск, адпаліраваны, як костка. Харошы быў крук, моцны. Зірнуў на яго спадылба Міколка, моўчкі адышоў ад бацькі. Кепскія жарцікі з ім, з гэтым старым партызанам. А харошы ўсё ж бацька... Трошкі пабойваўся яго Міколка, а любіў яшчэ болей.

...Хлопчыкі падышлі ўжо блізка да агародаў, як учулі плач на ўскраі вёскі. Прыслухаліся — плач раздаваўся і ў другім месцы, і ў трэцім...

— Галосяць... — спуджана сказаў адзін, і хлапчукі разбегліся, раскідаліся, як спалоханыя вераб'і, па сваіх агародах і загуменнях, кожны да свайго двара.

Міколка бачыў ужо з-за плота старую грушу на сваім двары. Паасобныя лісткі трымцелі і свяціліся, як медзь. Уся груша пад сонцам была радаснай і святочнай, ля буславага гнязда не змаўкаў вясёлы птушыны шчэбет: у шчылінах буславага гнязда заўсёды знаходзіла прытулак дробнае птаства.

Загледзеўся на грушу Міколка, спрытна пераскочыў праз плот. Некалькі баравікоў упала з кошыка. Ён падняў іх, старанна абцёр ад пылу, палажыў назад. Сінія васількі асцярожна схаваў за пазуху, вось будзе радасці малой, калі іх выняць знянацку. Намагаючыся надаць свайму твару самы сур'ёзны выраз сталага працавітага чалавека — хаця і крывіла вусны гэтая здрадніцкая дзіцячая ўсмешка, — Міколка ступіў крок, другі і раптам затрымцеў, як ліст, збялеў увесь.

Ля ганка, непадалёку ад грушы, ляжала маці на сырой зямлі. Адна рука была падкручана, другой яна прыхіліла і моцна прыціскала да сябе, нібы абараняючы ад каго, Міколкаву сястрычку. Твару сястрычкі не відаць. У мацеры ж такія дзіўныя вочы, нібы глядзяць і не бачаць яго, яе Міколку.

Ліпавы кошык ціха ўдарыўся аб зямлю, бязгучна рассыпаліся грыбы — колькі радасці было ў гэтых баравіках у лесе. Дзе ж падзелася, дзе памеркла гэтая радасць? І здаецца Міколку, нібы лес гудзіць страшна-страшна. Нібы хістаюцца

злосна дрэвы, нібы самая груша пахілілася раптам, хоча ўпасці на яго, прыціснуць да халоднага пяску. Страпянуўся Міколка, удыхнуў паветра глыбей і, упаўшы на калені, прынік да маці.

— Мам... а мам... ну чаго ж ты маўчыш?

Дакрануўся да матчынай рукі, яна была халоднай, як лёд, цяжкай.

Заплакаць бы Міколку, на ўвесь свет заплакаць. Ды чуе ён галасы ў хаце, чужыя словы. Хіба можна слёзы свае чужым людзям паказваць? Гулка бразнулі дзверы. З хаты выйшлі людзі. Яны груба адштурхнулі Міколку ад ганка. Яны нешта неслі, ці то матчыны коўдры, ці то новае бацькава паліто. Яны некуды спяшаліся, гэтыя людзі ў нязвыклым адзенні, у нязвыклым для Міколкі абутку. Нібы на конскіх капытах, паблісквалі цвікі на падэшвах іх ботаў.

«Немцы...» — мільганула страшная думка.

І ён не глядзеў на іх, не хацеў глядзець, пакуль не зніклі іх цяжкія крокі. Ён убачыў кроў. У крыві была рука сястрычкі. Міколку стала вельмі горача, падкошваліся ногі. Але ён устаў, выцер успацелы лоб, стараючыся зразумець, што ж адбылося з ім, што адбылося з маці, з яго маленькай сястрычкай. Узрушана шалахцела дзедаўская груша-дзічка, самотныя пчолы лятaлі, кружыліся вакол спелых груш-гнілушак. Трывожна шчабятала дробнае птаства, і толькі сонца спакойна ўгравала саламяную страху, чырвоныя вяргіні пад акном. А на сэрцы было пуста і чорна, нібы ўзяў хто маленькае Міколкава сэрца і выціснуў з яго ўсю гарачую кроў. Ды каменем навісла над ім неадчэпная думка: нешта ж трэба рабіць.

Нешта ж трэба рабіць... Ён перайшоў вуліцу, зайшоў на двор дзеда Нупрэя. То ж стары чалавек, яму год дзевяноста, ён дапаможа, параіць. Стары сядзеў на прызбе. Заўважыўшы Міколку, ён кінуўся завіхацца ля новага грабільна. Пачаў стругаць яго нажом і ўсё гэта рабіў з такім сярдзітым выглядам, што аж варушыліся, тапоршчыліся густыя сівыя бровы. Міколку стала нязручна. Ён маўчаў.

— Ну, чаго ты? — не гледзячы на яго, запытаўся дзед.

— Мамцы худа... Відаць, нежывая... Яна і сястрычка...

— А ты не пужайся... Мамку тваю немцы забілі... афіцэры. Ды не ў цябе аднаго...

— Што ж рабіць нам, дзеду?

Дзед Нупрэй так захадзіўся з нажом, што нечакана аж перарэзаў грабільна і, плюнуўшы злосна, кінуў яго за плот, узрушаны чымсьці, прысеў на прызбу.

— Вось што, братачка...

А гаварыў ён «братачка» толькі сталым ды паважным людзям, а не якому-небудзь падшывальцу Міколку.

— Садзіся вот... Ну, што мы з табой — адно старое, другое малое... ці мы што зробім? Пачакай вот — прыйдзе бацька твой. Мы дамо тады рады... ім... Ды ты пастой! Не хадзі туды... у хату. Начуй у мяне.

Але Міколка пайшоў. Стары праводзіў яго доўгім позіркам, сказаў сам сабе:

— Ну што ж... Упартае хлапчанё, у бацьку пайшоў. Няхай ідзе, хоць выплачацца малое...

І Міколка плакаў. Зашыўшыся ў каноплі, ён праляжаў усю ноч, пакуль не выплакаў усіх слёз. Не на людзях жа слёзы пускаць Міколку, яму ж трынаццаць год, ён жа мужчына. А раніцой бачылі людзі, што ён хадзіў чагосьці ў лес. Потым доўга распытваў старых, па якой дарозе і куды пайшлі немцы.

Потым доўга корпаўся ў хаце, збіраючыся ў дарогу. Цяжка было знайсці патрэбныя рэчы. Разбітыя талеркі, парваныя партрэты, адзенне, яго кніжкі, сшыткі — усё гэта ляжала параскіданым злой рукой на падлозе. Ён узяў сваю старую школьную торбачку, якую пашыла яму маці, калі быў ён яшчэ ў першым класе. Напакаваў яе, усунуў туды і стары абгрызены пенал, любімы сшытак. Пастаяў з хвіліну пад роднай грушай, клапатліва прыкрыў старэнькай, але чыстай скацеркай твары мацеры, сястрычкі і пайшоў, не азіраючыся, агароднай сцяжынкай.

* * *

Яго бачылі потым у мястэчку, праз якое праходзіў бальшак.

Ён стаяў, прыхінуўшыся да тэлефоннага слупа, усё ўглядаўся на дарогу. Нехта паспрабаваў пакпіць з яго: «Ці не ў школу ты, хлопча, сабраўся, дзе ж віданы цяпер тыя школы?»

Міколка нічым не азваўся на гэты голас.

Перад ім праходзілі ўзброеныя людзі — купкамі, калонамі, у адзіночку. Узнімаючы слуп пылу, імчаліся грузавікі, грукацелі гарматы[1] на камен-

---

[1] *Гармáта* — агульная назва артылерыйскай зброі (пушка, гаўбіца і інш.).

ным бруку. І ўсё — чужыя людзі, чужыя машыны, чужыя гарматы. Ён часам ажыўляўся на секунду, адрываўся ад слупа, але зноў шарэў запылены твар, бяссільна апускаліся рукі. І вось ён прыйшоў, гэты доўгачаканы час. Цяпер не можа быць ніякага сумнення: гэта яны, гэта тыя, што замучылі яго маці, яго сястрычку, адабралі ад яго светлае сонца.

Уперадзе коннікаў ціха пасоўваўся вялізны аўтобус. Яшчэ не выцвіў лак на ім, не пасцерліся незразумелыя жоўтыя літары і знакі. Праз адкрытыя вокны бачыў ён чорныя мундзіры, чорныя шапкі з чырвонымі кантамі. І на шапках і на мундзірах людскія чарапы, скрыжаваныя косці. Нехта з гэтых людзей гучна гаварыў, нехта смяяўся. П'яную песню цягнулі ехаўшыя ззаду коннікі, і песня была шэрай, як пыл, цяжкай, як камень на сэрцы.

Міколка падцягнуўся ўвесь, сцяўся ў пругкі камяк і ў імгненне вока апынуўся ля самых акон машыны.

— Наце ж вам... за маці, за сястрычку маю!

Ён проста перакінуў у акно нейкі скрутак, загорнуты ў газету. Асляпляючы слуп агню і жалеза адкінуў яго далёка на прыдарожны пыл. Выскаліўшы пеністыя храпы, уздыбіліся коні. Пазляталі шапкі з коннікаў, сёй-той бразнуўся вобзем. Чуліся разгубленыя каманды. З перакошанымі ад страху тварамі беглі салдаты з насілкамі, з лапатамі. Рэшткі[1] машыны дагаралі на дарозе, дыміліся, тлелі на каменні чорныя мундзіры. Да Міколкі

[1] *Рэ́шткі* — тое, што ўцалела, захавалася.

падскочыў спешаны коннік, сівы нямецкі вахмістр[1] . Ён выстраліў некалькі разоў у Міколку і потым, нібы спужаўшыся чагосьці, хутка схаваў у кабуру задымлены рэвальвер і, ссутуліўшыся, унікаючы[2] зірнуць у Міколкавы вочы, падаўся прэч, да тых, што расчышчалі дарогу, сям-там пасыпаючы яе жоўтым пяском.

Міколка не чуў гэтых стрэлаў, яму было ўжо ўсё роўна. Нерухомым позіркам ён углядаўся ў блакітнае неба, нібы прыслухоўваўся да былых сваіх думак: аб нянавісці, аб помсце. Застылы твар стаў калючым, суровым, нібы пражыў Міколка доўгія дзесяткі год, усё перажыў, усё пабачыў на свеце. І толькі на вуснах засталіся — ні агонь, ні жалеза не змаглі іх сцерці — сляды ўсмешкі, слаўнай, дзіцячай.

Побач ляжала яго торбачка з раструшчаным пад салдацкім ботам пеналам. Ды выпалі з-за пазухі і ляжалі ў пыле запазнелыя восеньскія васількі.

Сінімі васількамі адцвіталі і вочы хлопчыка.

?

1. Падзяліцеся сваімі ўражаннямі ад прачытанага твора. Што асабліва ўзрушыла вас?
2. Дзе і калі адбываецца дзеянне? Якія падзеі ляжаць у аснове твора?
3. Звярніце ўвагу на апісанне летняга дня ў пачатку апавядання. Які настрой яно выклікае?

---

[1] *Ва́хмістр* — вайсковае званне ў кавалерыі.

[2] *Уніка́ць* — тут: імкнуцца пазбегнуць, не хацець рабіць (што-небудзь).

4. Пра што спрачаюцца хлопчыкі, вяртаючыся з лесу? Пра што яны мараць?
5. Як аўтар перадае моцнае ўзрушэнне Міколкі, калі ён сутыкнуўся з трагедыяй, што адбылася на падворку? Знайдзіце і зачытайце два апісанні грушы каля сялянскай хаты (калі хлопчык загледзеўся на дрэва, вяртаючыся дадому, і пасля таго, як зразумеў, што адбылося з маці і сястрычкай). Як дапамагаюць гэтыя карціны зразумець душэўны стан хлопчыка?
6. З якімі думкамі прыйшоў хлопчык да дзеда Нупрэя? Пра што сведчыць іх размова? Як пры гэтым трымаў сябе дзед Нупрэй?
7. Якое рашэнне прыняў Міколка, каб адпомсціць за маці і сястрычку? Як ён ажыццявіў сваю задуму?
8. Узгадайце фінальны эпізод апавядання. Якая роля ў ім мастацкіх дэталей — раструшчанага салдацкім ботам школьнага пенала і букеціка сініх восеньскіх васількоў?

РЫГОР БАРАДУЛІН

## Бацьку

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі.
Глядзіш удаль з-пад шкла партрэта.
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: «Сынок...»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярнуліся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе...»

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Грaзіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць шчырымі слязамі.

Не плакаў я — усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін — мужчына.
Не йшоў ты...
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз — еду я здалёк,
Чакаю ўсё — зайду, а маці
Мне кажа: «Пазнаеш, сынок?
Вось наша ўся сямейка ў хаце...»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай.

? 1. Якой тэме прысвечаны верш? Якія радкі найбольш выразна акрэсліваюць сыноўнюю любоў і павагу да бацькі, што загінуў у вайну?
2. Чым, на вашу думку, выкліканы шматкроп'і, якія сустракаюцца ў вершы надзвычай часта:
   а) моцным хваляваннем паэта;
   б) мноствам нахлынутых пачуццяў, успамінаў, разважанняў;
   в) імкненнем паказаць працягласць падзей па часе;
   г) разуменнем непапраўнасці страты;
   д) нежаданнем змірыцца з горам;
   е) надзеяй на доўгачаканую сустрэчу?
3. Як вы разумееце паэтычны вобраз: *Маці маладосць // Глыбей заворвалі маршчыны*? Якая яго роля ў вершы?
4. Паразважайце, ці выпадкова аўтар выкарыстаў у вершы форму звароту да бацькі? Форма непасрэднага звароту да загінуўшага ў вайну бацькі дае магчымасць:
   а) паспавядацца перад родным чалавекам;
   б) паскардзіцца на сірочае дзяцінства, распавесці пра свае крыўды і боль, доўгае чаканне і вымушанае дачаснае сталенне; пра адзіноту і смутак маці;
   в) выказаць сваю любоў; даць клятву шанаваць памяць усіх абаронцаў Радзімы.

Магчыма, у вас ёсць іншыя думкі? Якія?

5. Якія радкі перадаюць ідэю твора? Абгрунтуйце свой адказ.
6. Вывучыце верш на памяць.

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

## Мама

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны
        прыйшло
                дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых[1] забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.

А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі,
Прывычная да гора ўдава.

Ты прала кужаль[2], ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок».

І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —

---

[1] *Цыба́ты* — тут: высокі, хударлявы.
[2] *Ку́жаль* — тут: самаробныя ільняныя ніткі.

«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як калісь, мамаю назваў».

...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

**1.** Што хвалюе паэта? Ён засмучаны тым, што:
а) недастаткова цаніў маці пры жыцці;
б) імкнуўся ў юнацтве засведчыць сваю дарosласць;
в) саромеўся перад сябрамі выказаць матулі свае ласку і пяшчоту;
г) не здолеў абараніць яе ад жыццёвых нягод, выпрабаванняў;
д) мала дапамагаў маці ў штодзённай непасільнай працы;
е) не спрабаваў скрасіць яе адзіноту, самоту;
ж) заўчасна страціў маці;
з) не паспеў засведчыць ёй сваю любоў?

**2.** Чаму паэт называе маці *адзінокай*? Які сэнс ён укладвае ў гэта азначэнне?

**3.** Якія радкі верша сведчаць, што доля маці была нялёгкай, няпростай?

**4.** Як ставіцца маці да сына? Зачытайце адпаведныя радкі верша і зрабіце высновы.

**5.** Прасачыце, як пры дапамозе мастацкіх сродкаў раскрываюцца ў вершы асобы герояў?

**6.** У якіх радках верша выяўляецца запозненае раскаянне сына?

**7.** Якія думкі выклікаў у вас гэты верш?

## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

* * *

Прыйдзі аднойчы
ў вечаровы час,
Калі плывуць дымы,
як верасы,
Да кургана пясчанага,
што нас
Разлучыць назаўжды, —
Прыйдзі, мой сын.
Павер хвіліну нейкую,
што я
Жывы стаю між трапяткіх бяроз
І слухаю:
у праведных баях
Што ты здабыў?
Што ў сэрцы ты прынёс?..
Прыйдзі —
як ветру жніўнага павеў,
Каб нада мною дыхалі палі
І колас той звінеў — не адзвінеў,
Што к сонцу
на руках
ты ўзняў спяліць.
Прыйдзі —
як песня,
што табе збярог
Бацькоўскі край
і дбайна перадаў,
Прыйдзі —
як рэха з тысячы дарог,
Дзе голас мой тваё сцягі гайдаў.

Прыйдзі —
як думкі вогненнай усплёск,
Як гром ракет, што ўзлёт твой акрыляў...
Прыйдзі,
мая надзея і мой лёс, —
І лёгкай будзе
для мяне
зямля.

1. На якія разважанні скіраваў вас верш, якія пачуцці абудзіў?
2. З якой просьбай звяртаецца аўтар да свайго сына? Чым яна выклікана?
3. Як паэт выяўляе сваю пяшчоту і любоў да сына, свае спадзяванні, што сын зойме вартае месца ў жыцці, вырасце прыстойным чалавекам, годна працягне справу бацькоў?
4. Пра што хацеў нагадаць аўтар свайму сыну? Чаму паэт называе сына «мая надзея і мой лёс»?
5. Якую ролю, на вашу думку, адыгрывае ў вершы шматразовы паўтор (рэфрэн) слова *прыйдзі*?
6. Прачытайце верш яшчэ раз. Паразважайце, што значыць для паэта сустрэча з сынам? Якія вобразы, створаныя пры дапамозе шматлікіх параўнанняў, сведчаць пра бацькаву мару? Раскрыйце мастацкі сэнс гэтых вобразаў.
7. Звярніце ўвагу на будову верша. Як, на вашу думку, гэта вершаваная форма «дапамагае» паэту выказаць свае пачуцці?

АНАТОЛЬ КУДРАВЕЦ

# Цітаўкі[1]

Рабілі заўсёды так: пад вечар, калі сонца садзілася за лес, а з лагчыны пачыналі напаўзаць халодныя цені, хто-небудзь адзін ішоў у будку да старога Агея. Будка стаяла пасярод саду, і з травяністай дарогі, па якой мала хадзілі і яшчэ менш ездзілі, яе можна было ўбачыць, толькі добра прыгледзеўшыся. Ды і будкі той была адна назва — два ўчарнелыя ад дажджоў саламяныя маты, звязаныя ўгары кручанай ракітай і састаўленыя так, што былі адначасова і сценамі, і дахам. Ад ветру, асабліва восеньскага, сцены затулялі слаба, але дождж даставаў там не ўсякі.

У будку ішлі быццам з якой патрэбай, а на самай справе — «загаварваць» дзеда. Трэба было прыдумаць нешта такое, што магло б «завесці» старога вартаўніка. Галоўнае, каб ён не адыходзіўся далёка ад будкі і каб пры ім быў Бобік — заўсёдны яго памочнік, караткахвостае звяглівае стварэнне з чорна-белай галавой.

Часцей за ўсё ў будку даводзілася ісці Кастусю. У яго не тое што была дружба з дзедам, але яму дзед давяраў больш, чым Мішку і Валіку. Можа, гэта было таму, што дзедава хата і іхні яшчэ без сенечак[2] дом стаялі насупраць — абапал нешырокай, як праціснуцца машыне, вулачкі, і

---

[1] *Ці́таўкі* — гатунак яблыкаў (буйныя кісла-салодкія плады).

[2] *Се́нечкі (се́нцы)* — трохсценная прыбудова да хаты з боку дзвярэй.

дзед часта, асабліва зімовымі вечарамі, бываў у іх. А можа, таму, што Кастусь быў самым цярплівым і ўважлівым дзедавым слухачом.

Відаць, у кожнага чалавека пад старасць набіраецца шмат цікавага і важнага і прыходзіць вострая неабходнасць расказаць аб усім гэтым каму-небудзь. Каму расказваць, часам бывае не так ужо і важна.

У старога Агея такая патрэба была. Калі на яго «находзіла», ён мог гаварыць цэлымі гадзінамі, быў бы толькі слухач.

Дзеду было за семдзесят. Ён добра памятаў яшчэ першую, «царскую» вайну, з якой прывёз Георгіеўскі крыж, потым «гражданскую», якую, калі верыць яго словам, ён прайшоў у сядле з галошам на адной назе і з лапцем на другой. У калектывізацыю кулакі спалілі яго новую хату і застрэлілі сабаку. Суседзі меркавалі, што сабаку наўрад ці збіраўся хто зводзіць, і загінуў ён праз свой язык. Гэта вайна зачапіла старога мацней: не вярнуўся з фронту сын, а жонку — добрую, рухавую Параску — расстралялі немцы дома. Нехта з «добрых» людзей падаткнуў[1], што стары ў партызанскім атрадзе.

У апошні час, асабліва калі цямнела і добра пацягвала вільгаццю, у старога, як нанятая, пачынала ныць спіна: даваў знаць застарэлы рэўматызм. Цягучы боль перадаваўся ў рукі і ногі, быццам выварочваў косці, і, каб не слухаць яго, трэба была якая-небудзь пільная[2] работа ці жывы чала-

[1] *Падаткну́ць* — тут: зрабіць данос, выдаць (тайну).
[2] *Пі́льны* — тут: неадкладны, вельмі патрэбны.

век, з якім можна было б перакінуцца словам, седзячы ля траскучага цяпла.

Восень была ў познім разгары, і людзі спяшаліся ўхапіць з поля ўсё, што можна было, і рэдка хто, калі часам здаралася ісці ў сяло лугам, заварочваў у сад.

Часцей за ўсіх прыбягаў на агонь Кастусь. Ён грэў над цяплом рукі, глядзеў у дзедаў рот з выкрышанымі жоўтымі зубамі, частка якіх хавалася за белымі, абвіслымі вусамі, грыз яблыкі і моцна рагатаў з кожнага, зусім нясмешнага дзедавага слова. Рагатаў, пакуль з-пад кузні не даносіўся прарэзлівы свіст. Кузня стаяла ў канцы сяла, і свіст часам паўтараўся некалькі разоў, быццам нехта ўдваіх перасвістваўся між сабой. Тады Кастусь раптам успамінаў, што даўно пара бегчы дамоў, што, мусіць, з поля прыехаў бацька і чакае яго...

Стары заставаўся з Бобікам. Той сядзеў насупраць дзеда і, адмахваючыся ад камароў, адчайна круціў галавой. Пры гэтым правае вуха яго, перакушанае іхняй — Кастусёвай — свіннёй, яшчэ калі ён быў слабым шчанюком, матлялася, якануча на ветры.

Кастусь бег да кузні, дзе, ведаў, чакаюць яго Валік і Мішка. Калі яны свісталі, значыць, набег удаўся, значыць, пазухі і кішэні ў іх набіты яблыкамі. Яны аж рыпяць, калі труцца адзін аб адзін...

Валік сустрэў Кастуся пасля паўдня ля магазіна, дзе таўкліся, чакаючы, калі прывязуць хлеб, хлапчукі. За плячыма ў яго быў вялікі мокры кош з наліплымі на дно і дужку водарасцямі, аса-

кой, шматкамі раскі. Чорная вада сцякала з каша і мачыла штаны — там, дзе яны, закасаныя вышэй каленяў, яшчэ не былі мокрыя. Усе ногі яго былі ў драпінах і гразі. Ён, відаць, і не спрабаваў іх абмываць. У левай руцэ, накручаная пляцёнкай на палец, маталася торбачка з падмочаным сподам. У ёй было нешта мяккае.

— Уюноў лавіў, — усміхаючыся ўсім ротам, паведаміў ён Кастусю. — На сажалках. Няма ні чорта, бачыш. Усяго штук дзесяць дастаў. Пакуль я прыйшоў, дык Яўмен Мікіцкі абнюхаў усе кусты. З паўпуда пацёг дамоў.

— А мяне не пусцілі. Свіней пасвіў, — уздыхнуў Кастусь.

— І добра. Усё роўна нічога б не налавіў, толькі б гразі набраўся.

Валік адвёў Кастуся пад ліпы, дзе нікога не было, і, шморгнуўшы аблупленым носам, ціха прагаварыў:

— Сёння зробім налёт на Агея. Цітоў налатошым[1]. Я знарок прайшоў два разы лугам, паўз канаву. Іх на вуглавой — аж голле трашчыць. Вялікія — во! Чырвоныя! — Пры апошніх словах зеленаватыя Валікавы вочы сталі круглыя і вялікія — па яблыку. — А, чаго ты маўчыш? Ты пойдзеш загаворваць яго, а я і Мішка падпаўзём ад канавы. Табе і быць там доўга не трэба будзе.

— Я не пайду сёння, — панура адказаў Кастусь. У яго ўсё яшчэ не прайшоў жаль, што яго не пусцілі на ўюноў.

---

[1] *Латашы́ць* — рваць без разбору, псуючы і спусташаючы.

— Чаму?

— Чаму, чаму? Дзед, мусіць, здагадваецца, хто трасе яблыкі. Пасля таго як абабралі апорт[1], ён цэлага паўдня сядзеў у нас. Гаварыў з татам, а пазіраў на мяне.

— Да каго ж яму ісці, як не да вас. Вы ж суседзі. І трэба ж яму на некага глядзець. А заўтра ці паслязаўтра цітаўкі пазнімаюць — і не пакаштуеш.

— А калі тата дачуецца?

— Адкуль? Што — я яму скажу? Ці Мішка? Толькі трэба да кіно паспець.

— Што, кіно прывезлі?

— А ты не ведаеш? «Тры мушкецёры». Я аб'яву расклейваў. Пеця гаварыў — во гэта карціна! Ведаеш, як там б'юцца! Р-раз — і ляжыць! Р-раз — і яшчэ адзін гатоў. Прасіў, каб яблыкаў прынеслі. Можа, бясплатна пусціць.

— Пусціць... Яму Маруся як пусціць...

— А што, ён ужо адзін можа круціць. Не век жа яму быць матарыстам.

— А калі пачынаецца?

— У дзевяць. Дык ідзём?

— Ладна. Толькі гэта апошні раз...

У канцы пасёлка паказваліся каровы, калі Кастусь, схапіўшы скібку хлеба, выскачыў з хаты на вуліцу.

— Нікуды не збягай. Прыедзе бацька — вячэраць будзем! — крыкнула, несучы з гарода бацвінне, маці.

---

[1] *Апорт* — гатунак вялікіх зімовых яблыкаў.

— Я зараз, — адказаў ён і залапатаў нагамі насустрач статку.

Каровы шарахнуліся назад, але там ішоў пастух Лёкса і шлеганулў іх пугай, і тады яны, таўхаючы бакамі адна другую, кінуліся паўз плот.

— Куды прэшся? Не бачыш, што каровы ідуць! — пачырванеўшы ўвесь, зароў на Кастуся Лёкса і нават замахнуўся пугаўём, але не ўдарыў.

— Я... на поле... — пачаў маніць Кастусь, але ўбачыў, што Лёкса не слухае яго, а падганяе кароў, і пабег далей. Але настрой яго, такі вясёлы і радасны перад гэтым, быў ужо сапсаваны. Параўняўшыся з кузняй, на дзвярах якой вісеў замок, ён перайшоў на роўны крок. А чым бліжэй дарога падыходзіла да саду, пераступаў нагамі ўсё цішэй і цішэй. Яму ўжо зусім не хацелася сустракацца з дзедам Агеем. Нават цітаўкі, вялікія, чырвоныя цітаўкі, такія сачаныя і жаданыя днём, цяпер здаваліся зусім нясмачнымі і непатрэбнымі. Але ж там, у лузе, ужо, мусіць, ляжаць Валік і Мішка. «Цітоў налатошым, — перадражніў Кастусь у думках Валіка. — Слова добра сказаць не можа. Усё «дастаў», «абнюхаў», «налаташыў»... І за што яго празвалі Царом? Цар, кацiныя вочы...»

Думаючы так, ён усё ж падыходзіў да саду.

Сонца зайшло, але было яшчэ зусім светла, а на тым месцы, дзе яно села, ружова палымнела цёплае зарыва. Зусім не верылася, што неўзабаве і вялікія хаты пасёлка, і гэтыя дрэвы, і ўся зямля схаваюцца ў мяккай чорнай цемры. Будуць ціха шапацець лісты ўгары і між імі, быццам у самім шапаценні, цьмяна блішчэць белыя плямы — яблыкі.

Ля будкі гарэў агонь. Жоўтае полымя яго — маленькае і ледзь прыкметнае — трапяталася, як лёгкая рызіна[1] на ветры. Дзед Агей у новых, але ўжо з выбеленымі расой насамі ботах стаяў пад рабінай і ламаў аб калена таўсты яловы лапнік. Ладная горка яго ўзвышалася ля будкі, шчацінілася пажоўклай ігліцай. Дзед, відаць, добра ўгрэўся. На старанна паголеных шчоках яго — заўтра нядзеля! — свяцілася кволая ружовасць, а абвіслыя вусы, якія наўрад ці чапалі калі нажніцы, хавалі добрую ўсмешку. Ён нагнуўся па новую лапку, і Кастусь убачыў, што за яго спіной, на абрэзаным сучку рабіны, як заўсёды, вісіць аднастволка. Нясмелыя жоўтыя зайчыкі ад агню скакалі па адпаліраванай да люстранога бляску ложы[2]. Навошта яму гэта ружжо? За ўвесь час, як тут старажуе, дзед з яго ніколі ні па кім не стрэліў. Трошкі воддаль ад агню сядзеў Бобік. Ён спачатку памкнуўся забрахаць, але пазнаў Кастуся і завіляў матузом хваста. Падняцца, аднак, паленаваўся.

Кастусь нерашуча спыніўся перад цяплом.

— Давай, бярыся за працу. Неча гультая корчыць, — весела кіўнуў дзед на лапнік.

Кастусю адразу стала лягчэй — і таму, што дзед даў работу і, значыць, мала ўвагі будзе ўдзяляць яму, і што ён сказаў сваё звычайнае і мяккае «неча». І Кастусь накінуўся на лапнік.

---

[1] *Ры́зіна (рыззё)* — падранае, зношанае адзенне; тут: старая ануча.

[2] *Ло́жа* — драўляная частка ружжа, да якой прымацаваны ствол.

А дзед слімачыў палец, з якога сачылася кроў.

— Бач, чыркануў вастраўём — і да крыві, — апраўдваўся ён. — Старая скура, а парвалася.

Ён пастаяў колькі часу, трымаючы перад сабой руку, пачакаў, ці выступіць яшчэ кроў, і калі не дачакаўся, пацягнуў з кучы новы сук і храснуў аб калена.

— Ты што, паглядзець, ці жывы яшчэ дзед Агей, а? — раптам павярнуў твар да Кастуся, і Кастусь улавіў у шэрых вачах яго вясёлую хітрасць.

— Н-не, я з поля... ад таты. Ён на Гараўшчыне... Сёння конча сеяць.

— Конча? Гэта добра... Паспяшаць трэба. Ды малаціць, пакуль Ілля[1] пагоду не папсаваў... — развіжліва пачаў ён. — Ну, ну... Хто так ломіць? Смялей. Рыўком трэба. Раз — і гатова. — Гэта пра сук, які Кастусь ніяк не мог асіліць. Сук гнуўся, балюча ўпіваўся ў калена, а ламацца не хацеў.

— А-а-а, няўмека! Дай сюды! — Дзед выхапіў сук у Кастуся, пераламаў і кінуў у кучу. І ўжо лагадней, памяркоўна: — Добра, хопіць. Усё роўна ўсю ноч смаліць не будзеш, а для вечара — досыць... Вячэраць будзем. А пакуль вазьмі яблыкаў — там, у саломе...

Кастусь прыгнуў галаву і ступіў у будку. Толькі цяпер, зірнуўшы з будкі, убачыў, што на двары сцямнела. Чарната падступала знізу. Яна зраўняла гурбякі, зусім схавала карэнні, а ствалы зрабіла тоўстымі і невыразнымі. Толькі шырокія

---

[1] *Ілля́* — старажытнае народнае свята дажджоў і навальніц.

кроны яблынь, як шапкі, ясна выдзяляліся на чыстым фоне неба. Там, дзе зайшло сонца, ужо расцягнулася, як доўгае пяро, сіняе воблака. Услед за ім, таксама аднекуль знізу, вырастала другое — яшчэ даўжэйшае і цямнейшае.

У будцы страшэнна пахла ўлежанымі яблыкамі, і ў Кастуся зрабілася кісла ў роце ад гэтага вострага паху.

— У нас сёння кіно будзе, — шарачы рукамі па саломе, паведаміў ён дзеду.

— Кіно... Некалі і я бегаў на яго... Ужо трыццаць год было, а бег, рот разявіўшы... Дзіва паглядзець. Як гэта жывыя людзі па сцяне ходзяць.

Дзед ускінуў некалькі лапак на агонь, і полымя з дымам і іскрамі шуганула ўгору і асвяціла ўсё ў будцы: салому, на якой дзед спаў ноччу, дзве скамечаныя пасцілкі, крысо старога парванага кажуха.

У самым кутку Кастусь знайшоў яблыкі. Гэта былі «ціты» — вялікія, чырвона-малінавыя. Яны, відаць, даўно ляжалі, бо былі халодныя і мяккія. Кастусь ведаў: націсні на каторы — палец улезе. Усадзіў зубы ў адзін з іх, другі узяў у руку. «Мусіць, з той яблыні, пра якую гаварыў Валік», — падумаў ён, але гэта думка чамусьці не спалохала яго.

— Ну як, можна есці? — спытаў дзед, не падымаючы вачэй ад складанчыка, якім счышчаў кару з лазовага дубчыка. Другі дубчык, акораны і завостраны, ляжаў ля яго ног.

— Ыгы, — поўным ротам адказаў Кастусь.

— А зараз мы павячэраем па-мужчынску. Ты не вячэраў яшчэ?

— Не паспеў, баяўся ў кіно спазніцца.

— Ну, кіно так рана не стануць круціць. Яшчэ даяркі кароў не падаілі.

Кастусь падышоў да рабіны, пагладзіў ложа аднастволкі. Трапяткія зайчыкі пераскочылі на руку, асвяцілі яе. За рабінай, прыгнуўшы да зямлі цяжкое голле, стаялі яблыні. Цяпер, калі зусім сцямнела, здавалася, што раслі яны вельмі густа. Недзе за імі, у рагу, расла і тая цітаўка. Кастусь прыслухаўся. Там было ціха.

— Ну, чаго ты там топчашся? Ідзі да цяпла, — падаў голас дзед. — Колькі паеў я гэтага сала, а такога, як еў у сорак трэцім, не даводзілася. — Ён ужо дастаў, мусіць, з будкі, палатняную торбачку, развязаў яе і выняў скрутак у прасаленай газеце. Разгарнуў газету. Там быў ладны — на паўдалоні — кавалак сала. Дзед адрэзаў два тонкія скрылікі, потым пакапаўся ў торбачцы і дастаў акраец хлеба.

«Наш», — з раптоўнай цеплынёй падумаў Кастусь, глянуўшы на акраец. Хлеб пёкся на кляновым лісці. Лісты ададралі, але на тым месцы застаўся след, як ад растапыранай гусінай лапкі. Нават вострыя тонкія пражылкі засталіся. Гэта ж ён, Кастусь, збіраў у лесе шорхкія[1], вялікія лісты, а маці засцілала імі под[2] печы.

— Бяры ражон... — Дзед працягнуў Кастусю дубчык і скрыль сала. — Ражон з сырой галіны лепш, чым з сухой. Сырая сама не гарыць, а сала ў той час паспявае. Хлеб вазьмі.

---

[1] *Шо́рхкі* — сухі, шурпаты, агрубелы.

[2] *Под* — ніжняя паверхня ў печы.

Кастусь узяў ражон, усторкнуў на яго сала і ўткнуў у полымя. Дзед сваё ўжо трымаў над агнём, пакручваў ражон у пальцах. І вось там, у агні, нешта запішчэла, засквірчэла, засіпела... Сала пацямнела і пачало слязіцца...

— Хватай барздджэй, ды на хлеб, а то ўцячэ ўсё! — закрычаў дзед на Кастуся, убачыўшы, што ў таго ўвесь тук[1] з сала збягае ў агонь. — Во гэтак, гэтак... — І сам прыціснуў свой скрылёк на хлеб. — Дык я ж гавару, ніколі я смачней нічога не еў...

Ён ужо адкусіў ад хлеба, ад скрыліка, старанна і доўга, напружваючы сківіцы, жуе. Дзед сядзіць збоку ад Кастуся, і таму добра відаць адна яго шчака. Кастусь глядзіць на яе і заўважае недалёка ад вуха волас, даўгі волас. Як толькі дзед пачынае напружваць сківіцы — волас варушыцца і ўстае, як жывы. Гэта вельмі смешна, і Кастусь смяецца, а потым гаворыць пра волас дзеду.

— Няўжо, — здзіўляецца той і мацае шчаку. — Не ўгледзеў... Так стараўся, думаў, што ўсё добра, хоць у сваты едзь, ажно вунь яно як. Канфуз выйшаў...

Ён яшчэ доўга мацае шчаку, потым махае рукой, борзда ўстае і трусіць да будкі. Адтуль вяртаецца, трымаючы ў пальцах цыбуліну з зялёным пер’ем.

— Чуць не забыўся... З цыбуляй гэта не тое, што смачна... З цыбуляй — гэта здароўе. Еш цыбулю — і здароў будзеш.

---

[1] *Тук* — растоплены тлушч.

У яго добрая прывычка, у дзеда Агея. Ён умее адначасова гаварыць і рабіць. Язык гаворыць, а рукі робяць. Вось яны адрэзалі карэньчыкі ў цыбуліне, адшчыкнулі пер'е, аблупілі галоўку, разрэзалі яе ўдоўж на некалькі долек.

— Ты школьнік, малы яшчэ, не разумееш... А я ўжо стары, ведаю... Хадзіў неяк у Дулебы. Дык доктар Загорскі — разумнік вялікі, а кажа: нельга вострага есці. Малако трэба, масла, садавіну. Алкаголь — барані божа! А тут: барані не барані... Ну, малако можна... А як без сала?.. Што гэта за работа, без сала?..

Ён зноў суе ў полымя ражончык, і адтуль зноў чуецца трэск: узрываюцца, падаючы на вуголле, шарыкі туку. Зноў смачна пахне паленым, да слёз шчыпле ў носе цыбуля...

— Ну, куды ты лезеш? Згарыш, дурань. — Дзед замахваецца на Бобіка, які падлез так блізка да агню, што да ўсіх пахаў прымяшаўся пах паленай шэрсці. — На во, лаві. — Дзед кідае кавалак хлеба ўгору, далей ад агню.

Бобік на ляту ловіць хлеб, прагна, не жуючы, глытае, ледзь не давіцца, доўга аблізваецца і зноў падступае да цяпла, нецярпліва ўпіваецца вялікімі, чырвонымі ад агню вачыма то на Кастусёвы, то на дзедавы рукі.

— Сем сутак акружэння... Сем сутак баёў. Страляніна то заціхае, то распаляецца. І мы ляжым у балоце, — спрабуе весці далей свой расказ дзед. Кастусь тым часам падкідвае некалькі лапак у агонь. — А на дварэ не тое што холад, золасць[1] страшная. Да касцей пранізвае...

---

[1] *Зо́ласць (золь)* — сырое, пранізліва халоднае надвор'е.

Перарваў расказ Бобік: забрахаў залівіста і працяжна — туды, за рабіну.

— На, еш, — Кастусь кінуў сабаку скарынку.

Бобік праглынуў яе, пастаяў, навастрыўшы вушы, і раптам кінуўся ў цемру.

— Чаго б гэта ён? — павярнуў галаву дзед. — Паглядзі, можа, ідзе хто?

Кастусь прыгнуўся да зямлі.

— Не, нікога не відаць.

А голас Бобіка чуўся ўжо ў самым рагу. Вось ён адчайна заякатаў, і ўслед за яго скавытаннем пачуўся глухі ўдар у зямлю, потым затарахцелі дробныя. Мусіць, нехта скочыў з яблыні і ўслед за ім пасыпаліся яблыкі.

— Э-э-э, дык вунь яно што!.. Ах вы, зладзеі! — прарэзліва закрычаў дзед. Ён кінуў на траву ражон і хлеб, сарваў з сука ружжо і, гарлапанячы на ўвесь сад, пабег.

Кастусь нейкі час нерухома стаяў ля агню. Што рабіць? Бегчы ўслед за дзедам ці заставацца ля будкі? Ён ускінуў на агонь ламачча і падаўся на сабачы голас.

Не дабегшы да рога саду, Кастусь зачапіўся за нейкі корч і расцягнуўся на ўвесь рост, балюча выцяўшы калена. Устаў, доўга цёр пабітае месца, потым паплёўся назад.

Сабака брахаў ужо недзе за пасёлкам. Відаць, хлопцы паспелі рвануць аж туды.

Не даходзячы метраў трыццаць да будкі, Кастусь убачыў дзеда. Той ішоў, сагнуўшыся, трымаючы абедзвюма рукамі падол кашулі. Убачыўшы Кастуся, жаласна і вінавата ўсміхнуўся:

— Яблычкаў сабраў... Буду частаваць цяпер...

— А дзе... ружжо?..

— А-а-а, ружжо? Там... стаіць... ідзі прынясі. — Дзед кіўнуў галавой назад, адкуль ішоў.

Ружжо Кастусь знайшоў адразу. Яно стаяла ля ствала цітаўкі. Іхняй цітаўкі. На зямлі бялелася абабітае лісце, цямнеў вялікі адарваны сук...

Калі Кастусь вярнуўся да будкі, дзед ляжаў ля агню на саломе, падбіўшы пад галаву кажух. Твар яго быў зусім белы. Дыхаў ён часта.

— Вам нядобра? Можа, доктара паклікаць?..

— Не, не трэба. Пройдзе... Гэта не першы раз. У баку нешта коле... І дыхаць не дае... Але яно пройдзе... Трэба толькі супакоіцца. А ты паспяшай — кіно пачынаецца.

Дзед гаварыў праўду. З пасёлка даносілася лапатанне рухавіка.

Кастусь падкінуў у агонь галля. Полымя рванулася ўгору, азарыла дзедаву галаву, будку. І Кастусю здалося, што дзед неяк дзіўна ўсміхаецца.

— Я скажу тату, што вам нядобра... Ён на матацыкле скочыць, прывязе доктара...

— І не думай... Мне ўжо лепей... Бачыш, я ўжо і сеў. — І дзед сапраўды сеў, апіраючыся слабымі рукамі аб зямлю. — Яно пройдзе. А ты ідзі. Вазьмі яблыкаў і ідзі.

— Я не хачу, дзядуля...

Кастусь адступіўся ад агню і ўбачыў Бобіка. Увесь мокры з галавы да ног, ён паспеў падабраць хлеб і цяпер аблізваў дзедаў ражон.

— У-у, гад! — замахнуўся на яго нагой Кастусь, але сабака з віскам паспеў адскочыць убок.

— Дык я пайшоў, дзядуля.

— Ідзі здароў, — адказаў дзед, і ў яго голасе Кастусю зноў пачулася тая ж усмешка.

Калі Кастусь падыходзіў да сяла, з-за кузні вынырнулі дзве постаці. Першым быў Валік.

— Ну, што? — насцярожана прашаптаў ён.

— А пайшлі вы! — у роспачы закрычаў Кастусь.

— Ціха, чаго ты крычыш? Пачуе хто-небудзь. Нікога не пазнаў?

— Пазнаў, і цябе, Цар, і Мішу. Усіх пазнаў... — Злосць на сябе і на хлопцаў сціснула яму горла, і ён заплакаў.

Потым пад ліпамі, куды яго завялі, ён сказаў, хліпаючы носам:

— Нікога ён не пазнаў.

— Дык чаго ты плачаш? Гэта ж добра.

— Добра?.. Ты ведаеш, ён хворы... Зусім хворы...

Кастусь не чуў, як Валік паклаў яму ў кішэню дзве вялікія мяккія цітаўкі — з тых, што не паспелі пагубляць, уцякаючы, не заўважыў, як яны абодва — і Валік, і Мішка — зніклі. Перад вачыма ў яго стаяў дзед Агей і яго незразумелая ўсмешка. Чаго ён усміхаўся?..

У кіно ў гэты вечар Кастусь не пайшоў.

?

**1.** Як склаўся лёс старога вартаўніка Агея? Падмацуйце свой адказ тэкстам.

**2.** Чым выкліканы частыя наведванні Кастусём дзеда Агея? Як трымаў сябе дзед?

**3.** Прыгадайце сустрэчу Кастуся з Валікам каля магазіна. Што прапанаваў Валік сябру?

Як Кастусь сустрэў гэту прапанову? Чаму ён потым змяніў сваё рашэнне?

**4.** З якім настроем увечары ішоў да дзеда Кастусь, што ён адчуваў?

**5.** Як сустрэў хлопчыка дзед Агей? Пра што расказаў яму, калі частаваў госця смажаным хлебам з салам? Як пачуваўся пры гэтым Кастусь?

**6.** Як паступова раскрываўся характар Кастуся? Прыгадайце асноўныя эпізоды апавядання і прааналізуйце іх.

**7.** Што адчуваў Кастусь пасля развітання з вартаўніком? Як трымаліся Валік і Мішка, калі прынеслі Кастусю на пачастунак крадзеныя яблыкі?

**8.** Чаму Кастусь не пайшоў з сябрамі ў кіно? Што азначала не зразумелая хлопцу дзедава ўсмешка? Выкажыце свае меркаванні.

## ПРА СЮЖЭТ ЛІТАРАТУРНАГА ТВОРА

Вы ўжо ведаеце, што ў апавяданні ці аповесці пісьменнік расказвае пра падзеі, здарэнні, якія адбываюцца з персанажамі, прычым гэтыя жыццёвыя сітуацыі заўсёды звязаны паміж сабой і падаюцца аўтарам у пэўнай паслядоўнасці: адна падзея вынікае з другой і ў той жа час служыць штуршком да наступнай.

> С ю ж э т літаратурнага твора — гэта паслядоўнае разгортванне падзей, у якіх выяўляюцца характары і ўзаемаадносіны герояў.

Сюжэт звычайна грунтуецца на *канфлікце* — на сутыкненні, супярэчнасцях характараў персанажаў (што тлумачыцца адрознасцю інтарэсаў, пачуццяў герояў і праяўляецца ў іх паводзінах, учынках, разважаннях, перажываннях).

У сюжэце мастацкага твора выдзяляюць некалькі ключавых момантаў — этапаў. Звычайна ў пачатку аповеду пісьменнік як бы рыхтуе чытача да ўспрымання падзей: знаёміць з месцам і часам дзеяння, з галоўнымі героямі — так званая *экспазіцыя* твора. Потым адбываецца падзея, якая «ўцягвае» герояў у асноўнае дзеянне. Гэта — *завязка* сюжэта. Далей дзеянне пачынае інтэнсіўна разгортвацца і, нарэшце, дасягае найбольшага напружання — *кульмінацыі*. Гэта самыя важныя падзеі ў лёсе герояў, яны выклікаюць у чытача найбольшыя хваляванні і перажыванні. Нарэшце асноўнае дзеянне набліжаецца да завяршэння і заканчваецца *развязкай*.

У сюжэце буйнога літаратурнага, тэатральнага або музычнага твора (аповесці, рамана, п'есы, оперы) могуць прысутнічаць таксама *пралог* — уступная частка, якая распавядае пра тое, што папярэднічала падзеям, адлюстраваным у творы, нібы настройвае чытача, гледача або слухача, і *эпілог* — заключная частка, у якой коратка паведамляецца пра далейшыя лёсы герояў.

Звернемся да апавядання Анатоля Кудраўца «Цітаўкі». Пачынаецца яно з аповеду пра звычку хлопцаў-дружбакоў наведваць старога вартаўніка дзеда Агея, каб разжыцца смачнымі яблыкамі з калгаснага саду. Гэта экспазіцыя твора. Эпізод су-

стрэчы і дамовы Валіка і Кастуся каля магазіна — завязка апавядання. Далей дзеянне паступова развіваецца: Кастусь, не дачакаўшыся вячэры, збіраецца ісці ў сад, па дарозе сустракае пастуха і маной канчаткова псуе сабе настрой і, нарэшце, прыходзіць да дзеда, вячэрае з ім і «загаворвае» яго. Момант, калі дзед Агей пагнаўся за злодзеямі і раптам адчуў сябе кепска, а Кастусю стала непамысна, сорамна і брыдка за сябе і сяброў, — самы напружаны. Гэта кульмінацыя сюжэта. Пасля яе дзеянне ідзе на спад і завяршаецца сустрэчай Кастуся з хлопцамі. Развязка апавядання — Кастусь сядзіць пад ліпамі і плача ад сораму за сябе і сяброў, ад спачування хвораму Агею, а перад вачамі ў хлопца — загадкавая дзедава ўсмешка.

?

1. Што такое сюжэт літаратурнага твора?
2. Якія асноўныя этапы выдзяляюць у развіцці сюжэта? Як называецца самы напружаны момант у развіцці сюжэта?
3. Прааналізуйце, як развіваецца сюжэт у адным з апавяданняў, якое вы прачыталі самастойна.
4. Прыгадайце цікавы жыццёвы выпадак, удзельнікам або сведкам якога вы былі. Ці магло б гэта здарэнне стаць сюжэтам для вашага аповеду? Паспрабуйце вусна або пісьмова аформіць уласную замалёўку, папярэдне прадумаўшы ўсе этапы яе сюжэта: экспазіцыю, завязку, развіццё дзеяння, кульмінацыю, развязку.

ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

# Страта

## 1

Як цяпер, помню: Бокуцi прыехалi ў нашу вёску ўвосень. У разлагоджаную, цiхую i сонечную часiну — у самае красаванне бабiнага лета.

Казалi, дагэтуль Бокуць-бацька працаваў у горадзе, быў на добрай пасадзе, але сам папрасiў, каб яго назначылi дырэктарам нашага саўгаса. Разам з iм заявiлiся яго жонка i двое дзяцей, хлопчык i дзяўчынка.

Дзяўчынка, Валя, была яшчэ маленькая, мела цi не тры гады, а хлопчык, Мiця, быў мой аднагодак, як i я, пяцiкласнiк.

Мiця адразу выдзелiўся сярод янкавiнскiх падлеткаў. Ужо нават тады, калi выходзiў з таксi, шпацыраваў з мацi ды з сястрою па вёсцы альбо калi iшоў першы раз у школу. На двары шчадрыўся яшчэ пышным цяплом верасень, мы, янкавiнскiя дзецi, былi яшчэ ў касцюмчыках, а Мiця апрануў ужо руды плашчык, начапiў на шыю шалiк адпаведнага колеру, на галаву — карычневую кепачку з чорным гузiкам наверсе, нёс у руцэ не ранец, як насiлi мы, а пакоўны чорны скураны партфель з металiчнаю акоўкаю на рагах. I яшчэ Мiця быў у акулярах, надзвычай белы; амаль усе гараджане, што прыязджалi да нас, мелi не чырвань цi ружовасць, як мы, вясковыя, але такой белiзны на твары дасюль мы не бачылi нi ў кога.

Адмысловае адзенне, партфель, акуляры рабiлi Мiцю сур'ёзным, разумным i сталым — ледзь не

маларослым дзядком. Усе ў вёсцы, хто спатыкаў яго на вуліцы, здзіўляліся, азіраліся не то з усмешкаю, не то з пачцівасцю на такога незвычайнага вучня, які ішоў у школу не адзін, а з маці, трымаючы яе пад руку. Кабета таксама мела на сабе адмысловыя, гарадскія, уборы — светлы плашч, жоўтую касынку на шыі, жоўтыя туфлі. На галаве ў яе красавалася прыгожая завіўка.

Міця з маці спачатку зайшлі ў настаўніцкую, а пасля ўжо наша класная кіраўніца прывяла навічка ў пяты «А». Як і заўсёды перад пачаткам урока, мы бегалі, штурхаліся, гаманілі, але пры Ірыне Вітальеўне і навічку пацішэлі, бачачы, што дырэктараў сын будзе вучыцца якраз у нашым класе: сын ранейшага дырэктара саўгаса, ганарлівец Артур, таксама вучыўся разам з намі і нямала папсаваў нам ды настаўнікам крыві. Які ж будзе гэты навічок, як ён пачне паводзіцца? Я здзівіўся, можа, больш за ўсіх: класная сказала, што Міця Бокуць будзе сядзець са мною на першай парце (мяне пасадзілі тут як летуценнага, не зусім уважлівага вучня, каб я заўсёды быў на вачах і каб настаўнікі ў любую часіну маглі перапыняць мае мары-мроі ды вяртаць да рэчаіснасці).

Калі пачаўся ўрок, я адчуў нейкую нядобрую насцярожанасць. Міця не толькі не загаворваў, але і зусім не зважаў на мяне; паклаўшы, як першакласнік, рукі на парту, выпрамлена сядзеў і не зводзіў вачэй з маладой настаўніцы беларускай літаратуры. Ці ён задзіраў па прыкладу свайго папярэдніка нос (усё ж гараджанін, дырэктараў сын, вунь адзін з усяго класа мае на руцэ гадзіннік!), ці хітраваў, ці на самай справе быў сур’ёзны,

глыбакадумны. Я час ад часу скасавурваў на яго вока, але ён па-ранейшаму быў непарушны, толькі, бадай, яшчэ болей ненатуральна белы, нібы не меў у сваіх жылах ні кроплі крыві.

Калі настаўніца задала нялёгкае, нават цяжкае для ўсяго класа пытанне, дык сярод нас не шмат знайшлося ахвотнікаў адказаць. Але Міця падняў руку, здаецца, не задумваючыся.

— Калі ласка, новенькі, адкажы, — усміхнулася настаўніца.

Ён устаў і, хвалюючыся, пачаў гаварыць. Гаварыў ціха, але абдумана, ясна і, галоўнае, як мне здалося, вельмі глыбока, нібы настаўнік. Я з нейкаю нават трывогаю адчуў: не, я так добра не адказаў бы, хоць быў, як казалі, «харошы» вучань. І Янка, наш круглы выдатнік, бадай, таго не ведае.

— Ды ты выдатна ведаеш тэорыю літаратуры, паэтычныя памеры! — усклікнула ўражаная маладая настаўніца. — Звычайна вучні гэта знаюць слаба.

— Я і сам пішу вершы... — прызнаўся, сумеўшыся, Міця.

Іншы вучань, канечне, у такую хвіліну ўспыхнуў бы чырванню, як паспелы памідор, а колер Міцевага твару амаль не змяніўся; толькі сямтам на шчоках заружовіліся тоненькія жылачкі.

— Дык ты, можа, прачытаеш тое-сёе сваё зараз? — папрасіла настаўніца.

— Не, — збянтэжыўся той. — Я пасля... Сшытак свой пакажу... Я якраз пішу па-беларуску...

— Малайчына! — пахваліла здзіўленая настаўніца. — Я з задавальненнем пачытаю твае вершы.

Пасля гэтых слоў у мяне, сказаць шчыра, аж сціснулася, замерла сэрца: вунь яно што! Міця — паэт! Вось чаму, мусіць, ён носіць акуляры, плашч, кепку, партфель! Паэт, відаць, не як усе — незвычайны. Ва ўсім. Міця, хоць і падлетак яшчэ, ужо таксама незвычайны. Можа, і таму, што гарадскі, больш і лепш нешта ведае. І я ад Міцевай перавагі востра адчуў сваю мізэрнасць. Я не маю такога гарадскога адзення, абутку, не ўмею так прыгожа гаварыць, хоць таксама пішу вершы, тое-сёе з іх надрукавалі ўжо ў школьнай насценнай газеце, але цяпер, можа, гэты навенькі адным якім вершам заслоніць мяне. Бадай, грэх — зайздросціць вельмі заўзята ці мець да шчаслівуца непрыязь, але не так і лёгка адолець свае ўзбуджаныя пачуцці. Як я ні затаіўся, але, мусіць, настаўніца заўважыла маю рэўнасць, мае пакуты, бо неяк нязвыкла ўсміхнулася, паківала галавою.

Тут жа, калі Міця пераможна, як герой, сеў, здарылася на першы погляд непрадбачанае, а на самай справе звычайнае для нашага класа і, можа, для ўсіх вучняў нашага ўзросту: нехта з задніх парт запусціў у Міцю кавалачак гліны. Камячок уцэліў Міцю ў вуха; ён уздрыгнуў, але не падхапіўся, не азірнуўся, а ўціснуў галаву ў плечы. Я аж пазлараднічаў: так табе, выхваляка, і трэба! Ведай, што ганарыцца вельмі не варта! Яшчэ праз хвіліну я заўважыў, што па яго белай шчацэ пакацілася буйная слязіна. Значыць, здагадаўся я, гэты навічок — не ганарлівец ды задзірака, як сын ранейшага дырэктара саўгаса, а цяльпук[1]. Як і наш

[1] *Цяльпу́к* — нязграбны, непаваротлівы; тут: спакойны.

аднакласнік Антон, які таксама не ўмее абараніцца, плача, калі яго хто-небудзь пакрыўдзіць.

Настаўніца заўважыла і кінуты камячок, і Міцевы слёзы.

— Хто зняважыў навічка? — ціха, але строга, спахмурнела запытала яна, здаецца, найбольш пазіраючы туды, дзе на апошняй парце на нашым радзе сядзеў пераростак Віця Шпак. — Ты, Віця?

— Не, — загуў той. — Чаму гэта ўсё я ды я вінаваты, калі што якое?!

— Нельга так, дзеці, — сказала настаўніца. — Трэба не засмучацца, а радавацца, што ў наш клас прыбыў добры вучань, выдатнік. Ад гэтага ўсім нам будзе толькі карысць.

Прамовіла і пільна зірнула мне ў вочы. Я не вытрываў яе красамоўнага позірку, апусціў галаву і густа пачырванеў: раптоўна мне стала горача ў шчокі.

## 2

У вольны час мы любілі гуляць у футбол. Любілі — нават не тое слова; лепш сказаць, мы самаахвярна, адрынута ад іншых захапленняў і ўцех ганялі мяч, адчуваючы велізарную страсць у гульні, забітых галах, у перамозе, а таксама адчуваючы моцную горасць ад прапушчаных галоў і прыкрых паражэнняў.

Нашы бацькі часта наракалі на такую нашу заўзятую захопленасць, бо мы хутка збівалі свой абутак, дралі адзенне, бывала, і скалечваліся, пераставалі быць памочнікамі пры доме — а, як усе ведаюць, работы па гаспадарцы ў вёсцы вельмі шмат, бацькі самі ўсяго перарабіць не могуць. Для

нашых бацькоў было, канечне, мала толку ад таго, што мы дацямна бегалі па футбольным полі, галёкалі, перажываючы то горыч, то прыемнае ўзрушэнне, але для нас, кажу, у гульні была вялікая радасць: мы не толькі загартоўваліся, але і добра навучваліся гуляць у футбол, усё часцей і часцей абыгрывалі футбольныя каманды з суседніх вёсак.

Вось і тады, неўзабаве пасля школы, да мяне зайшлі мае сябры Янка, Віця. Мы зашылі ў мячы дзірку (ні суравыя ніткі[1], ні дратва[2] не вытрымлівалі нашых бязлітасных удараў па сухім ці мокрым мячы, ірваліся), напампавалі паветра і рушылі на футбольнае поле.

У Засценку я заўважыў у садзе Міцю.

Бокуці пачалі жыць у хаце нашага чалавека, які на час аддаў саўгасу сваю гаспадарку і паехаў з сям'ёю на цаліну. У ранейшага гаспадара быў вялікі сад, дык вось цяпер на зялёнай атаве[3] на поплаўчыку пад ачахла зеленаватаю яблыняю антонаўкаю, пад якой ляжала нямала апалых яблыкаў, і быў Міця. У кепачцы, у плашчыку, ён сядзеў на нейкім дзіўным, здаецца, сплеценым ці то з карэнняў, ці то з дубцоў крэсле, гайдаўся ўперад-назад, трымаючы на каленях загорнутую кнігу. Вочы яго былі заплюшчаныя, твар задуменны — ён шчодра быў асветлены ўжо нізкаватым, крыху жоўтым, блеклым, але ўсё яшчэ лагодным сонцам.

---

[1] *Суравы́я ні́ткі* — грубыя самаробныя ніткі.

[2] *Дра́тва* — тоўстая насмоленая або навошчаная самаробная нітка для шыцця абутку, конскай вупражы і інш.

[3] *Ата́ва* — трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай.

Увесь зялёна-рудаваты сад быў азалочаны мяккім, пяшчотным і ў той жа час развітальным сумнаватым святлом. Восеньскія жаўтавата-рудыя ці чырвоныя мазкі на лісцях, на траве, а таксама паніжэлае, засмяглае неба, астылае сонца, лёгкае белае павуцінне ў паветры, апусцелыя палі — усё гэта выклікае ў душы харошую журботу. Міця, відаць, у гэтыя хвіліны якраз і быў у палоне нейкай узнёсласці ці занепакоенай задумлівасці.

Янка і Віця зірнулі на яго з вясёлым здзіўленнем; я душою адчуваў, што Міцю цяпер няможна непакоіць, але палічыў, што, можа, будзе лепш, калі паклікаць Міцю ісці разам з намі. Усё ж ён наш аднакласнік.

— Міця! — бадай забыўшыся пра сваю нядаўнюю рэўнасць, а таксама збянтэжанне, паклікаў я. Дзеці, як усе ведаюць, даволі хутка забываюць свае гаркоты, пакуты і слёзы, хутчэй, чым дарослыя, становяцца жыццярадасныя.

Міця ўздрыгнуў. Адплюшчыў вочы, учапіўся за ствол яблыні і запыніў крэсла. Хоць і быў на дварэ, але ўсё роўна твар, рукі яго бялеліся, быццам злепленыя са снегу.

— Хадзем з намі гуляць у футбол, — запрасіў я.

— Дзякую, — падняўся, прамовіў Міця. — Я яшчэ не ўсе вывучыў урокі.

— Ды нічога ж цяжкага не задалі, — сказаў я. — Усё лёгкае.

— Усё, і самае лёгкае, трэба вывучыць, зразумець вельмі ясна, — без крыўды, але па-сталаму сур'ёзна адказаў той. — Вывучыш, зразумееш — навучышся думаць, разважаць, усё будзеш схопліваць на хаду. Мозг свой трэба трэніраваць змалку.

— Ад вялікага розуму галава баліць... — уставіў слова перарастак (пяцікласнік-другагоднік) Віця, як кажуць настаўнікі, «заядлы абібок, вораг навукі».

Міця на гэты жарт нічога не адказаў, нібы і не пазважаў — як сталы ўжо чалавек.

— Хадзем, — зноў паклікаў я. — Калі не хочаш быць абаронцам ці нападаючым, дык можаш стаць варатаром. У нас якраз няма яго.

— Я не ўмею гуляць у футбол, — нечакана прызнаўся Міця і, здаецца, нават крыху збянтэжыўся. Можа, і за тое, што яго могуць палічыць за нейкага хліпака, а не за мужчыну. — А падругое, мне няможна бегаць, цяжка падымаць. У мяне лейкоз...

Я, канечне, як і мае сябры, не зразумеў, што такое лейкоз, але чамусьці ўсцешыўся, што не ўсё здольвае і ўмее наш навічок-выдатнік. Вось, бачыце, у такую прыгожую і захапляльную гульню, як футбол, гуляць не можа. А сапраўды, які гэта ты хлопец, мужчына, калі не ўмееш гуляць у футбол?

— Дык, можа, пабудзь у нас за суддзю... — паблажліва прамовіў я.

— Дзякую, — зноў пачціва адмовіўся Міця. — Я не ўмею і судзіць, бо не знаю правілаў. Гуляйце без мяне. Я яшчэ крыху пасяджу ды пайду ў хату.

— Беленькі... Смятаннік! — як мы адышліся, пакпіў Віця. — Сынок-пястунчык...

Я адчуваў, што Віця залішне зласлівы, але не заступіўся за Міцю. Бо не думаў асабліва пра гэта: усе думы былі пра футбол. Але нейкі гаркаваты след на душы застаўся.

Увечар, калі я, стомлены, вярнуўся дадому, дык якраз маці і бацька гаварылі ў хаце пра прыезджага дырэктара саўгаса.

— Надта ж белы іх хлопец, — пахітала галавою маці. — Мусіць, надта хворы ён.

— Кажуць, белакроўе ў яго, — адказаў бацька. — Не жылец ён на гэтым свеце. Рана-позна памрэ.

— Божа мой, божа! — забедавала спагадная маці. — Такі ж маладзенькі, ветлівы і, як кажуць, разумны, сталы, а гэтакі нешчаслівы... Вот гора дык гора для бацькоў...

Чуючы гэта, я, канечне, не ўсё разумеў, не так глыбока адчуваў Міцева і яго бацькоў няшчасце, як адчувалі мае маці і бацька, але і дзіцячым сэрцам усвядоміў: не буду злы, няшчыры ці помслівы да Міці. Нейкая незразумелая мне самому пяшчота да хворага навічка агарнула маю душу, здаецца, напоўніла яе нечым новым, больш змястоўным.

## 3

На ўроку матэматыкі, калі мы рашалі задачу, Міця нечакана нахіліўся да мяне.

— Давай, Стась, выйдзем на двор, — ціха прашаптаў ён. — Мне блажыць.

Падняўшы галаву, я ўбачыў: твар яго не толькі звыкла белы, але цяпер яшчэ і стомлена-спакутаваны, з нейкім ценем цяжкага болю ды страху.

Мы папрасіліся ў настаўніка і падаліся з класа.

— Калі я ўпаду раптам, дык ты не бойся, — сказаў ён. — У мяне часта кружыцца галава, бывае млосць, а то нават ідзе з носа кроў. Здараецца, зусім трачу прытомнасць.

Гэтая сталая гаворка пра страшныя выпадкі напалохала мяне, і я аж разгубіўся. Бадай, упершыню сваім яшчэ дзіцячым сэрцам адчуў тое, пра што раней, бадай, і не думаў, а калі і думаў, дык з не такім усведамленнем, — пра смерць. Адчуў яе пагрозны подых. У мяне аж сціснулася душа: сапраўды, як кажуць мае бацькі, чаму Міця, шчыры, далікатны, разумны хлопец, такі нешчаслівы? Адкуль, навошта прычапілася да яго такая страшная хвароба? Чаму яна ўвогуле ёсць? Я задаваў сабе гэтыя і іншыя пытанні, канечне, не знаходзіў на іх адказ, і гэта вельмі прыгнятала мяне. Здавалася, каб сказалі, што для Міцевага вылячэння трэба нешта аддаць — руку, нагу, вока, — дык я аддаў бы не задумваючыся. Я адчуў вялікі, небывалы дагэтуль прыліў спагады і шкадавання.

На двары, сонечным, але ветраным і пасцюдзянелым ужо, Міця запыніўся, прытуліўся да сцяны. Ногі і рукі яго трымцелі і, канечне, не ад холаду.

— Можа, на свежым паветры палягчэе, — прамовіў ён. — Можа, не самлею.

— А можа, я скажу настаўнікам, што табе блага? — запытаў я з трывогаю. — Няхай яны выклічуць па тэлефоне ўрача з Дзераўной.

— Не, не трэба, — адказаў ён. — Ніякі ўрач, нават прафесар ці акадэмік, мне надта не паможа. Я ў медыцынскім даведніку вычытаў, што мая хвароба невылечная. Ніхто яшчэ не ведае, адкуль і чаму яна бывае, як яе лячыць... — дрыготкаю рукою дастаў з кішэні пінжака два невялікія пачкі з надпісамі на незразумелай мне мове, адчыніў іх і ўзяў з кожнага ў рот па адной белай таб-

летцы. — А па-другое, ніхто не павінен ведаць, што я такі хворы... З-за гэтага мы нават пераехалі сюды... Таму я папрашу цябе: не гавары, калі ласка, нікому, што ты пачуў і ўбачыў. Я цябе паклікаў, бо думаў: упаду, як падаў ужо. Ды я табе веру...

Я падакляраваў, што буду маўчаць, не расказваць Міцевай тайны, хоць яна ўжо не была тайнай для нашай вёскі. Нехта быў у горадзе, неяк уведаў усё пра Бокуцяў і расказаў янкавінцам пра страшную Міцеву хваробу.

Неўзабаве, калі Міцю палягчэла, мы вярнуліся ў клас. Я з той часіны глыбока ў душы пачаў насіць Міцеў цяжкі сакрэт.

## 4

Мінула пагодная, а пасля і дажджлівая восень, настали сіберныя[1] халады.

Міця скончыў першую чвэрць лепш за нас усіх — толькі на «моцныя», як казалі, пяцёркі, пахадзіў пасля канікулаў у школу яшчэ крыху, недзе да паловы марознага, гурбістага снежня, і нечакана злёг у пасцель.

У яго часта, па некалькі разоў на дзень, пачала здарацца непрытомнасць альбо ішла з носа ці рота кроў: ён схуднеў, абяссілеў, аж пасінеў — з ложка не ўставаў.

За восень я прывык да стрыманага, крыху дзікаватага, але шчырага суседа па парце, дык цяпер кожны дзень прыходзіў да яго. Мы рабілі разам урокі, чыталі кнігі ці доўга гаварылі пра

---

[1] *Сібе́рны* — тут: вельмі моцны, рэзкі, люты.

раней прачытаныя раманы і аповесці, бывала, нават і спрачаліся — кожны з нас па-свойму разумеў тое, што было апісана ў прачытанай кнізе. Найбольш хвалявалі нас кнігі Аляксандра Дзюма, Жуля Верна, Джэймса Купера, Марка Твэна, Гарыет Бічэр-Стоў, Майна Рыда, Чарльза Дзікенса, Даніэля Дэфо, Пушкіна, Талстога, а з нашых, беларускіх, пісьменнікаў — аповесці «Дрыгва» Якуба Коласа, «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова і ўсе творы Янкі Маўра. Гэта значыць, нас вабілі прыгоды, небяспечныя, але цікавыя падарожжы ў незнаёмыя краіны, пошукі скарбаў, сутычкі з ворагамі, пагоні, подзвігі, высакародныя пачуцці, пазнанне свету, што быў далёка ад нас. Мы нават павыбіралі і прысвоілі сабе імёны, мянушкі герояў, што нам найбольш спадабаліся. Жартуючы, за вочы давалі іншыя імёны, мянушкі і нашым аднакласнікам. Ні Міця, ні я тады нават і не здагадваліся, што цікавае ёсць і паблізу нас: чамусьці здавалася, што яно, цікавае, было і ёсць толькі недзе далёка, а вось тут, на нашай зямлі, яго ці няма, ці ёсць вельмі мала. Яшчэ чыталі мы адзін аднаму свае вершы, правілі іх альбо нават і разам складалі доўгія ці кароценькія вершаваныя творы для нашай новай насценнай газеты. Трэба шчыра прызнацца: у Міці ўсё выходзіла хутчэй і лепш: ён і спрытней знаходзіў патрэбныя словы, рыфмы, і ясней, ямчэй выяўляў думку, і ўмеў сказаць пра звычайнае неяк вельмі ж незвычайна, хораша. Я часамі аж не даваў сабе веры: няўжо Міця ўсё гэта прыдумляе сам? А па-другое, уражваўся, што ён, мой аднагодак, думае зусім іначай, чым я, нібы зазірае ўжо туды, куды я яшчэ зазірнуць не магу.

Адыходзячы дадому, я браў яго сшыткі і назаўтра заносіў іх у школу, а пазней ужо іх, правераныя настаўнікамі, прыносіў Міцю.

## 5

На дварэ шалее завіруха (вые ахалоджаны вецер, бяжыць па заснежанай зямлі няўцямная замець, насыпаецца ў гурбы снег вакол плота і прыбудоў), але ў Бокуцевай хаце не холадна. Пакаёўка, цётка Гэля, яшчэ, мусіць, з раніцы напаліла стаяк[1], дык у хаце нават горача. За стаяком аж зазумкала ад цеплыні адна з самых неспакойных і шустрых мух, мусіць, падумаўшы, што прыйшла ўжо вясна.

Я сяджу на крэсле каля ложка, а на ложку ляжыць накрыты коўдраю Міця. Пад яго галавою горка падушак, падушка ляжыць і на яго грудзіне. На ёй — разгорнуты сшытак. Мы рашаем задачу — на пяць ці шэсць дзеянняў. Калі я не пачуў Міцевага голасу, падняў галаву, адарваўшы позірк ад свайго сшытка, што ляжаў на каленях, дык убачыў: Міця, закінуўшы галаву, ляжыць з заплюшчанымі вачыма. Лоб, шчокі яго ссінелыя, вочы запалыя, вусны пасмяглыя і таксама быццам пасінелыя, шыя худая, з вострым кадыком. Краёк грудзіны, што відаць праз расхінутую ля горла кашулю, белы-белы, як вымазаны крэйдаю.

— Давай крыху адпачнём, — ціха прашаптаў Міця слабым голасам. — Вельмі кружыцца галава. Можа, і ад таго, што ў хаце горача і я даўно

[1] *Стая́к* — тут: цагляная печка.

ўжо выходзіў на двор. — Перадыхнуў, а пасля папрасіў: — Толькі ты сёння маму не кліч... ёй і так цяжка...

Я, канечне, не ведаю, чаму Міцю раптоўна становіцца блага, але гэтая раптоўнасць заўсёды ашаламляе мяне: у апошні час яна ўсё часцейшая і страшнейшая. Мусіць, вось і зараз хлыне з носа ці горла кроў. Тут жа, бачу, Міця хапае з-пад падушак белы ручнічок, затульвае рот і паварочваецца на бок. Сэрца мае сціскаецца ад болю: ну чаму Міця так пакутуе, чаму і за што так яго нехта пакрыўдзіў, не даў здароўя?

Усё ж, думаю, трэба выйсці і паклікаць Міцеву маці, цётку Веру. Але я не паспеў нават падняцца, як яна, нібы адчуўшы душою бяду, заходзіць сама і подбегам кідаецца да ложка.

— Сыночак ты мой бедны... — як і кожны раз, пачынае плакаць яна. Бярэ ручнічок, выцірае сынавы вусны, шчаку і шыю. Ручнік усё больш і больш робіцца чырвоны, і гэтая непажаданая яркая пляміна на ім коле вочы.

— Можа, каб ты не напружваўся, дык усё было б добра. Не старайся ўжо так, сыночак, не адстаць ад іншых. Паправішся — хутка ўсё нагоніш. Ты ж кемны хлопчык.

Міця павярнуўся, лёг на спіну і заплюшчыў вочы. На яго лбе расою выступіў пот. Я адчуваю: мне трэба пайсці адгэтуль, пакінуць Міцю ў спакоі. Без мяне ён, можа, не будзе больш ні чытаць, ні пісаць, а прысне, адпачне.

— Стась, пабудзь яшчэ, — адчуўшы мой рух, ціха прамовіў Міця. — Зараз мы кончым рашаць задачу.

— Пабудзь, Стасік, — просіць услед за сынам і цётка Вера, садзіцца на ложку ля сынавых ног. — Толькі вы не рашайце ніякіх задач. Пасядзіце, адпачніце. А я вам зараз тое-сёе падсілкавацца прынясу.

— Не, мама. Задачу мы ўсё ж павінны кончыць рашаць, — не згаджаецца Міця. — А падсілкавацца сапраўды прынясі, калі ласка.

— Добра, сыночак, — кажа цётка Вера, выходзіць з залы і праз хвіліну вяртаецца з падносам. На ім у вазе горкаю ляжаць буйныя чырванабокія яблыкі, жаўтаватыя апельсіны (іх, апельсіны, я ўпершыню ўбачыў і пакаштаваў тут, у Бокуцяў), побач два кубкі з чаем, дзве лустачкі булкі, з маслам і чорнаю ікрою.

Мне і сёння няёмка: па-першае, як ні дакараю сябе, а з прагаю пазіраю на гэтыя дзівосныя цяпер, зімою, дары, а па-другое, ёсць адчуванне, што цётка Вера болей радавалася б, каб гэтак ахвотна і апетытна еў усё, як і я, і Міця. Ён звычайна есць мала, нібы праз сілу, хоць яго бацька дастае яму ўсё, што ён толькі не зажадае.

— Ешце, хлопчыкі, — кажа цётка Вера, падае Міцю, а пасля і мне чай і лустачкі. — Гэта ўсё дужа спажыўное[1].

Сказаць шчыра, чай я піў рэдка (піў малако ці ваду з вядра), гэтую ікру недалюбліваў за яе кісласць (у тыя разы, бывала, і згортваў яе ўпотай пальцам з лустачкі, выкідаў), але цяпер узяўся сілкавацца, каб і наталіць голад, і паддаць апетыту Міцю. Раней я першы з'ядаў усё, а цяпер ста-

---

[1] *Спажыу́ны* — тут: якасны, карысны, смачны.

раюся не спяшацца, хоць яблыкі, якія дасць цётка Вера пасля, мяне вельмі вабяць. Я адзін з'еў бы іх усе на гэтай вазе.

— Даядай, сыночак, — просіць цётка Вера, — не адставай ад Стасіка. Дык і ты будзеш гэтакі здаровенькі, крэпенькі, ружовенькі.

Пазней, калі мы перакусілі, рашылі задачу, я заспяшаўся дадому. Цётка Вера выйшла мяне праводзіць.

— Дзякую, дзіцятка, што ты прыходзіш, памагаеш Міцю, разганяеш яго сум, — прамовіла яна, прытрымаўшы мяне на ганку. Паклала мне руку на плячук, прытуліла. — Я і не ведаю, што мы без цябе рабілі б. Міця так прывык да цябе, так чакае... — усхліпнула. — Хоць ты і малы яшчэ, не ўсё разумееш, але ведай: Міцю нашаму вельмі блага... Дзяды, бацькі нашы, я, Мікалай Іванавіч — усе мы, дзякуй богу, здаровыя, а вось да Міці чамусьці прычапілася гэткая страшная хвароба... Ён змалку хварэе і хварэе, не бачыць дзіцячай уцехі, стаў дарослы... Ён усё ведае пра сябе, але, як сталы, умудроны які чалавек, трымаецца з усіх сіл, хоча быць такі, як і ўсе здаровыя дзеці... Сам бачыш: хвароба не зрабіла яго злым ці сумным. Наадварот, у яго гэтулькі дабрыні, шчырасці, што аж душа баліць: такі добры чалавек быў бы... Ён жа ўжо адабраў са сваёй бібліятэкі кнігі, а таксама асобныя свае дарагія яму рэчы, цацкі і наказаў *пасля* аддаць табе... На памяць... — Замаўчала, затуліла твар рукою, здаецца, мацней прыціскаючы мяне да сябе. Падштурхнула. — Ну, бяжы. Будзь здаровенькі, разумны, шчаслівы.

Заўтра зноў прыходзь, калі ласка. Мы будзем цябе чакаць. Я сёння гаварыла з тваёй маці, яна дазваляе, каб ты прыходзіў да нас, рабіў разам з Міцем уроки...

Расчулены словамі, а найбольш тым, чаго недагаварыла цётка Вера, а таксама яе болем, я пабег у зімовы цёмны вечар, адчуваючы, што нешта мяняецца і мяняецца ў маёй душы, прыходзіць тое, чаго я раней ці не ведаў, ці ведаў не ў такой меры.

## 6

Пад цяпло, перад маем, Міця памёр.

Хавалі яго мы ўсёй школай на нашых вясковых могілках, плакалі разам з дарослымі, шчыра шкадуючы, што пайшоў ад нас такі добры, але нешчаслівы хлопчык. Бокуці пазней, пасля пахавання, перадалі мне ўсё, што наказваў Міця. Я і сёння берагу тыя кнігі, што мы некалі любілі чытаць, а таксама Міцеву кепачку, яго пенал і любімы компас. Берагу як памяць, як даўнюю і, можа, яшчэ нязддзейсненую мару.

Прыязджаючы з горада, я кожны раз заходжу да Бокуцяў. Яны, цяпер пенсіянеры ўжо, сівыя дзед і баба, засталіся назаўсёды жыць у нашых Янкавінах, каб быць паблізу свайго любімага сына. Заходжу я і на могілкі, падоўгу стаю ля агароджы і помніка — з яго з лёгкаю журботнаю ўсмешкаю пазірае на мяне па-ранейшаму маладзенькі Міця, можа, здзіўляючыся, што я пасталеў ужо, нават крышку пасівеў і стаміўся.

Часамі, калі мне бывае нялёгка на душы, калі мне нехта зробіць прыкрасць ці калі я сам ашукаюся альбо зраблю ганебны ўчынак, я думаю: жыў бы Міця, дык ён памог бы мне лепш ва ўсім разабрацца. Нямала ў мяне знаёмых, сяброў, але Міця, можа, быў бы маім самым лепшым і надзейным таварышам.

**1.** Ад чыйго імя ў творы вядзецца аповед?
**2.** Як апісвае аўтар-апавядальнік сваю першую сустрэчу з Міцем Бокуцем? Што адчуваў Стась, калі пачаўся ўрок? Чаму ён так пакутаваў?
**3.** Чым адрозніваўся Міця ад вясковых хлапчукоў? Як яны ставіліся да навічка? Што ў ім здзіўляла аднагодкаў і вяскоўцаў?
**4.** Як успрыняў Стась навіну пра невылечную хваробу Міці?
**5.** Што зблізіла хлопчыкаў? Чым яны любілі займацца? Пра што марылі? Раскрыйце характары Міці і Стася.
**6.** Што мянялася ў душы Стася з абвастрэннем Міцевай хваробы? Кім стаў для яго Міця?
**7.** Падрыхтуйце вусную параўнальную характарыстыку хлопчыкаў Міці і Стасіка: паходжанне, знешні выгляд, захапленні, адносіны да вучобы, погляды на жыццё, стасункі з равеснікамі, бацькамі, настаўнікамі, заўчаснае сталенне, жыццёвыя лёсы.
**8.** Апавяданне падзелена аўтарам на часткі. Падбярыце загалоўкі да кожнай з іх. Складзіце план, падрыхтуйце сціслы пераказ твора.

ХРЫСЦІНА ЛЯЛЬКО

# Касцы

Касілі ўтрох. Першы, пускаючы касу на ўсе рукі, шырока і грузка ставячы ногі, ішоў Павел. Ледзь паспяваючы за ім, задыхана-часта жыхаў круглы, таўставаты Вінцусь. І ўжо неяк зусім асобна, астаўшыся далёка ззаду, няспешна клаў роўны пракос Мамонаў Яська. Мужчыны касілі супольна[1].

— Глядзі ты, не спяшаецца Мамон, ледзь ківаецца, думае, нехта за яго выкасіць, а ён гатовае возьме, — засіпеў Вінцусь, як толькі Павел прыпыніўся мянціць касу. Павел паволі павярнуў галаву: увесь чырвоны, Вінцусь стаяў за спінай і злосна лыпаў малымі круглымі вочкамі. Павел паволі сагнуўся, грабануў з пракоса жменю травы, выцер касу. Дастаў з кішэні мянташку[2], тады адказаў:

— Вы, брат, абое рабое. Ён ледзьве цягнецца, а ты лапочаш тут во без толку, траву псуеш. — І, падціснуўшы кассё пад паху, павёў колькі разоў мянташкаю, спрабуючы лязо, глянуў назад: метраў сто за імі, здавалася, не ішоў — плыў па лузе шчуплы, невысокі Яська.

Павел усміхнуўся, зноў глянуў на Вінцуся:

— Ты не сіпі, як гусак, а давай, мянці во, а то, глядзіш, Яська дагоніць — пяты абрэжа. — І павярнуўся да пракоса, лёгка, як гуляючы, пусціў

---

[1] *Супо́льна* — сумесна, разам.

[2] *Мянта́шка* — наждачны брусок, якім востраць (мянцяць) косы.

касу паўкругам. Вінцусь, зніякавелы[1] ад нечаканых Паўлавых слоў, стаяў нейкі час нерухома, а пасля апусціў касу, забыўшы памянціць яе, і, яшчэ больш злуючы, што не бярэ, пасунуўся следам.

Яська і праўда адстаў ад мужчын, мала ўжо і бачыў іх з-за высокай яму, маломў, па пахі травы. Штосьці дзіўнае рабілася з ім у гэтую раніцу. Ён і сам добра не разумеў сябе, адно пасміхаўся разгублена, слухаючы, як трапеча, шчасліва заходзіцца ў грудзях сэрца ад усяго, што бачаць вакол вочы.

З-за маладога алешніку ўставала сонца. За ровам, за гэтым цыбатым алешнікам, чуў Яська, прачыналася выспа[2]. Недзе ў самым глухім куточку яе, у ельніку, таемна застагнаў лясны голуб; мусіць, абуджаная ім, незадаволена-рэзка затрашчала сарока, гулка пераклікнуліся між сабою дразды.

Востра запах валяр'яннік. Сонца разам з расою ўзнімала, цадзіла над лугам церпкі, аж кружыла галаву, водар[3]. З высокай травы, з-пад самых Яськавых ног шэрымі камячкамі пырхала, разляталася ў бакі дробнае птаства.

Асцярожна, як баючыся парушыць цнатлівае хараство наваколля, апускаў Яська касу. Пакорліва паддаваліся, падалі ружовыя трапяткія маланкі, падатліва-мякка слаўся ў пракос духмяны аер, купчаста клалася густая, як сцягнуць касою, балаціна, пахла свежаю рыбаю, рачным глеем, водарасцямі.

---

[1] *Зніякаве́лы* — тут: разгублены.

[2] *Вы́спа* — невялікі, часцей пясчаны, востраў.

[3] *Во́дар* — прыемны пах, духмянасць.

Яська нерашуча спыняўся, зноў стаяў нерухома, глядзеў, слухаў. У нейкі момант са здзіўленнем адчуў, як нараджаецца, вырастае ў душы нязгода з настойлівым цягам Паўлавай мянташкі, што адбівала касу ўжо на другім канцы лугу, з няўмела-паспешлівым, прагавіта-жалобным гукам Вінцусёвай, якая пляскала недзе зусім блізка, за круглым лазовым кустом. З'явілася ў душы неадольнае жаданне спыніць іх, крыкнуць: «Чакайце, хлопцы. Пастойце. Гляньце, хараство якое!» Але тут жа ўявіў неўразумелы Паўлаў пагляд, рабы, насмешлівы Вінцусёў твар — не варухнуўся.

Нечакана прыйшло і працяло ўсю істоту вострае адчуванне імгненнасці гэтае прыгажосці. Ён неяк бездапаможна азірнуўся, бы хочучы знайсці абвяржэнне гэтаму адчуванню, убачыў доўгія роўныя стужкі пракосаў. Трава там была яшчэ свежая, жывая, але сонца ўзнімалася ўсё вышэй, промнямі цягнулася да пракосаў, пачынала сушыць. Тут жа ўсцешана падумалася, што ўсё так і павінна быць: выспелыя травы гінуць, каб даць месца новым, так на зямлі адвеку такі непарушны закон існасці ўсяго жывога на свеце. І ўсё ж здзіўлена заўважыў, што, зусім не супакоеная гэтай развагай, пачынае аціхаць, блякнуць у ім тая амаль дзіцячая радасць, якая так урачыста гучала ў душы цэлы ранак.

Сонца хілілася на захад, калі мужчыны адбівалі пракос ад рову.

Было ціха і душна. Прыпарвала. Плоймаю насіліся ў паветры камары, стогалоса звінелі, смоллю лезлі ў вочы, цялі ў спіну, блыталіся ў валасах. Не было ратунку. «Пэўна, на дождж, — падума-

лася Яську, — і расы во ні кроплі. Трэба не ўпусціць, дапільнаваць, як будзе садзіцца сонца. Яно і дождж не пашкодзіць. Хай бы прымяў траву. На сырую нічога...» Недзе на другім баку рова пачынаў дзерціся драч[1], па завоінах[2] заводзілі сваё вячэрняе крумканне жабы, за лугам, над поплавам, трывожна крычаў бакас[3], зманьваў, адводзіў кагосьад гнязда.

Зусім побач, амаль над вухам, лапатнула крыламі птушка. Яська прыпыніўся. З-за рова пераляцела дзікая качка, апусцілася на пакосе, каля лазовага куста, пасля хуценька прабегла колькі крокаў, схавалася за купінаю. Яська сачыў за ёю краем вока, баючыся павярнуць галаву. Нейкі час птушка пастаяла там, стаіўшыся, толькі раз-пораз вытыркала галоўку, цікавала за чалавекам.

Пасля, мабыць, упэўненая, што нічога не грозіць, асцярожна падала голас: «Крэ». Крыху счакаўшы, яшчэ і яшчэ. З куста, як пароль, пачулася такое ж асцярожна-ціхае «крэ-крэ». Качка яшчэ раз азірнулася і хуценька нырнула ў куст. Адтуль зараз жа данеслася радаснае, нецярпліва-маладое крактанне, якое марна старалася суняць асцярожна-разважлівае, самавітае.

«Вывадак», — па-дзіцячы радасна падумаў Яська. І тут жа, бы тая качка, пужліва павёў га-

---

[1] *Драч (дзярка́ч)* — невялікая лугавая птушка з пранэзлівым, скрыпучым крыкам.

[2] *Заво́іна (зато́ка)* — невялікі заліў.

[3] *Бака́с* — балотная, з доўгай дзюбай, птушка, якая ваганнем пер’я ўтварае гукі, падобныя да бляяння баранчыка.

лавою, азірнуўся: ці чуў яшчэ хто. Убачыў, як спыніўся, услухоўваючыся, Вінцусь, як перастаў касіць і запытальна глядзеў у бок куста Павел. Трывожнае прадчуванне прайшло па душы. Ён узняў касу, знарок звонка пачаў мянціць яе, а пасля, як ні ў чым не бывала, сагнуўся над пракосам. Пачуў, як зазвінела Паўлава каса, супакоіўся. Але тут жа здрыгануўся ад гучнага шлёпання. Ззаду, чапляючыся за купіны цяжкімі ботамі, бег Вінцусь.

— Вы што, паглухлі, не чуеце — качкі дзікія ў кусце, — закрычаў здаля, не дабегшы.

«Сам ты дзікі», — роспачна падумаў Яська, але сказаў іншае, спакойна-абыякавае:

— Якія тут качкі! Малыя зусім. Паляваць няможна. Хай растуць.

Вінцусь з лёту спыніўся, няўцямна лыпаў круглымі бліскучымі вочкамі, а пасля грэбліва махнуў рукою, не зважаючы на Яську, зароў да Паўла:

— Паўлюк, сюды, сюды давай. Смажаніна будзе. — І дзе толькі спрыт узяўся — загіцаў[1] па купінах да лазняку.

Яська бачыў, як няспешна выцер касу Павел, як азірнуўся вакол сябе, шукаючы што пад руку, не знайшоў, торкнуў касу ў зямлю, пачэпаў[2] да куста.

Дзіўную спустошанасць адчуў раптам у сабе Яська, адчуў, як становіцца чужою, абыякаваю да ўсяго душа. Ён нейкі час стаяў нерухома, як не

[1] *Гі́цаць* — тут: спешна, няўклюдна рухацца.

[2] *Чэ́паць* — марудна ісці, плесціся.

верачы, прыслухоўваўся да сябе і страпянуўся толькі, калі нечакана пачуў ціхае крэканне. Ратуючыся ад бяды, старая качка вяла між куп'я качанят да рова. Яны смешна валюхаліся, хуценька беглі за ёй, выцягвалі ўперад доўгія, тонкія шыйкі. Ужо ладныя, сытыя ад багатага навакольнага корму, але яшчэ не апераныя, убраныя ў мяккі шэры пушок. Адчуваючы, як цяплее ўнутры, Яська сцішана засмяяўся: «Абхітравала ты іх, мілая. Давай, давай, хутчэй хавайся».

Вінцусь з Паўлам трыбушылі лазняк. Чуваць было, як трашчала ламачча, як бурчэў незадаволена Павел і бажыўся, апраўдваўся перад ім Вінцусь. Урэшце вываліўся адтуль, скочыў на купіну, бы каршун, абмацваў вачамі куп'ё, шукаў здабычу. Нічога не ўгледзеў, крыкнуў:

— Ну, што там, Ясь? Мо выйшлі яны, га? Няма ў кусце, як скрозь зямлю праваліліся.

— Дзе табе выйшлі. Не відно нідзе. Шукай лепей. Пэўне, у лазняк зашыліся. — Як пацвярджаючы свае словы, Яська колькі крокаў ступіў туды, да лазняку, але Вінцусь яго ўжо не слухаў. Ён сам тут жа ўбачыў, як узбіраліся качаняты на бераг рова і там, за кустамі, плюхалі ў ваду. Бы сарваўшыся з навязі, Вінцусь рынуўся за імі, сігаў па куп'і так, што ўзляталі з-пад ног камякі гразі, скакалі вышай галавы. Яська адчуваў, што зноў вяртаецца ў душу тая ранейшая спустошанасць і робіцца страшэнна непрыемным і гідкім гэты круглы, як мяшок, чалавек. Ён адвярнуўся і ўбачыў, што проста да яго, пасміхаючыся, крочыць Павел. Урэшце параўняўся, як апраўдваючыся, сказаў:

— Збеляніўся чалавек. Мяса запрагнуў. Пайшлі паможам. Хай наесца.

Яська не варухнуўся. Ён бачыў, як колькі разоў, ідучы да рова, азірнуўся на яго Павел, на момант прыпыніўся, бы раздумваў, чакаў, а потым усё ж пашыўся ў лазняк. Чуў, як ужо там, у лазняку, дзіка залямантаваў, быццам палявалі на яго самога, Вінцусь.

Паволі заходзіла сонца, сядала за хмару і, ужо нябачнае, кацілася ўніз, хавалася недзе за высокім гарбом далёкага поплаву. Яська сачыў за ім, утрапёна[1] лавіў гукі, што далятаў з рова, чуў, як трашчыць там сухое ламачча, як плёхае, б’е крыламі па вадзе качка, ратуе дзяцей. Раз-пораз сюды, да яго, далятала, рэжучы цішыню адвячорка, яе адчайнае, адзінокае кракtanне, і тады адчуваў: штосьці пякучае праходзіла па душы, штурхала да рова. А ён, як не мог выбіцца з утрапення[2], усё стаяў, абапёршыся на касё, слухаў. Раптам, заглушаючы ўсе гукі, зноў заенчыў на рове Вінцусь: «Не шкадуй, Паўлюк, не шкадуй. Малацці. Каля цябе ж недзе. Пад ваду пайшлі. Да дна даставай...». Як толькі цяпер дайшоўшы да памяці, як толькі цяпер уразумеўшы штосьці для сябе неабходнае, Яська рэзка рвануў з твані[3] касу. Завярнуў яе за плечы і рынуўся туды, адкуль даносіўся крык і плёскат. «Я табе зараз дастану. Я цябе зараз накармлю». Лазняк чапляўся за касу, не да-

[1] *Утрапёна* — тут: прагна.
[2] *Утрапе́нне* — тут: здранцвенне, разгубленасць.
[3] *Твань* — балота, дрыгва; гразкае, багністае месца.

ваў бегчы. Ён кінуў яе, ухапіў тоўсты альховы сук, пабег далей. Паляўнічыя былі недзе недалёка, ён ясна чуў іх крыкі і шматгалосае качынае кракtanne. Раптам нешта ў тым баку гулка плюхнула, адчайна заенчыў Вінцусь, зноў моцна заплюхала ў рове вада, бы варочаўся там хтось вялізны і няўклюдны, затым зрабілася так ціха, што чутно было, як звіняць камары. Але тут жа, ірвучы гэту цішыню, над лугам панёсся рогат. Рагатаў Павел. Яська ўрэшце выцерабіўся з лазняку і ўжо мінаў алешнік, калі рогат нечакана знік. Яська зрабіў яшчэ колькі порсткіх крокаў і траха не наляцеў на Паўла, які стаяў за густым калінавым кустом. Павел уздрыгнуў, рэзка павярнуўся. Ледзь пераводзячы дух, Яська коратка кінуў:

— Дзе?

Павел моўчкі павёў вачамі. За некалькі крокаў ад іх, шырока расставіўшы ногі, недарэчна растапырыўшы рукі, стаяў Вінцусь. З адзення сцякала ў шырокія халявы гумавых ботаў рыжая балотная вада, твар, густа залеплены тванню, быў чорны. Ён заўважыў Яську, варухнуўся насустрач, падняў такую ж, да локця чорную, руку. За ружовую лапку Вінцусь трымаў мёртвае качаня.

Тут жа ўскінуў яго на далоні, загаварыў хутка, апраўдваючыся:

— Самае здохлае папалася. Тыя ўцяклі. Ну, нічога. Мае будуць. У суботу швагра прывязу. У яго двухстволка і ганчак ёсць. Прыхопім. Хітрыя. Без сабакі не возьмеш...

Яська моўчкі адвярнуўся. Праз лазняк, напрасткі пайшоў да пакосу.

Шарэла. Па лузе, над рэдкімі завоінамі, цёпла курэў туман. Трывожна крактала на рове, склікала распуджаных дзяцей старая качка. Спакойна, стомлена ляжаў скошаны луг, толькі ў самым куце сіратліва цямнеў пакінуты чуб травы.

Мужчыны вярталіся дамоў паасобку.

**1.** Якія пачуцці выклікала ў вас апавяданне?
**2.** Што за людзі былі касцы, якія касілі супольна? Якія выразныя падрабязнасці, дэталі сведчаць пра чалавечую сутнасць кожнага з іх?
**3.** Якім вы ўяўляеце Яську? Як ён адчуваў сябе на лузе, пра што думаў? Знайдзіце і перачытайце ўрыўкі з тэксту, дзе апісваецца яго незвычайны стан. Чым можна растлумачыць яго натхнёнасць, зачараванасць прыродай, яго паэтычнае ўспрыманне жыцця (прыродным характарам, асаблівым настроем, прыгажосцю і непаўторнасцю навакольнай прыроды ці яшчэ чым)?
**4.** Прыгадайце, каго з персанажаў прачытаных вамі твораў нагадвае вам Яська сваім паэтычным успрыманнем жыцця?
**5.** Як адрэагаваў кожны з касцоў на качыны вывадак. Растлумачце паводзіны герояў.
**6.** Звярніце ўвагу на надзвычай паэтычнае апісанне лугу. Якія сродкі мастацкай выразнасці дапамагаюць стварыць гэту карціну?
**7.** Перачытайце першы і апошні сказы апавядання. Як вы думаеце, ці выпадкова аўтар выбраў такі пачатак і канец? Выкажыце свае меркаванні.

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

# Былі ў мяне мядзведзі

*(Скарочана)*

Бацька мой быў ляснічы. І дзед быў ляснічы, і прадзед. І ўсе мае дзядзькі з бацькавага боку былі ляснічыя, лесаводы або яшчэ нейкім чынам былі звязаны з лесам і з навукай аб лесе. Стварылася вялізная лясная дынастыя[1], і нават мой малы пляменнік толькі і трызніць, што аб дзедавай прафесіі. З гэтай дынастыі адзін я, на гаротнае засмучэнне бацькі і дзеда, выявіўся вырадкам. Стаў мастаком-анімалістам. Тым, хто малюе звяроў.

Тата прымірыўся з гэтай здрадай толькі пасля таго, як па доўгім роздуме пераканаў сябе, што звяры — гэта таксама лес, што я аддаю перавагу замалёўкам у лесе, а не ў звярынцы. Ну, і яшчэ пасля таго — гэта, урэшце, справы не датычыцца, — калі работы мае да нябёс расхваліў славуты анімаліст Васіль Аляксеевіч Ватагін.

Дом мой вечна быў поўны рознымі жывёлінамі. Пад ложкам мелі кватэру вожыкі, чарапахі, марскія свінкі. На ўсіх падаконнях акварыумы з рыбкамі розных парод (за імі, досыць беспаспяхова, спрабаваў паляваць мой сіямскі кот Васіліск). У доме — а ён у мяне на ўскраіне — заўсёды было некалькі сабак рознай пароды. У розныя часы жылі ў мяне ваўчаняты, малыя лісы,

[1] *Дына́стыя* — некалькі пакаленняў, якія з роду ў род наследуюць адну і тую ж прафесію.

фенек[1], шчанюк гепарда[2]. Дый ці мала яшчэ чаго! Не было толькі таго няшчасця, якое здарылася з нямецкім пісьменнікам Бёлем: у маёй ваннай ніколі не жыў бегемоцік. А так усякай жыўнасці хапала. І так, наколькі я памятаю, было з першай хвіліны, у якую я пачаў усведамляць сябе.

Успамінаю стары-стары, з дубовых брусоў складзены дом лясніцтва наводдаль ад нашага, і як восенню ён бываў укрыты звонкім і спявучым чырвоным лісцем, і як пазней, у зазімкі, пяшчотна серабрыўся яго шчапяны дах. І гэтае срэбра дымела і выпаралася на сонцы, і рэдкія кроплі падалі на ўспацелыя халодным потам гарбузы ў падстрэшку...

Там мінула маё дзяцінства, і я ніколі не езджу туды. Бо ведаю, якой тугой сустрэне мяне гэты куток, у якім2 я ўжо нічога не пазнаю, калі нават і злітаваўся з яго агонь вайны. Але нават калі і злітаваўся — там набудавалі, перарабілі, высеклі і насадзілі, а я хачу, каб ён заставаўся такі, які ён стаіць у маіх вачах: самы найлепшы для мяне куток Беларусі, якая для мяне зноў-такі найпрыгажэйшая ў свеце зямля...

А пакуль што я не хачу ехаць туды. Больш за ўсё, шчыра кажучы, таму, што мне ўвесь час здаецца: вось прыеду, і выйдзе мне насустрач з лесу Бурык, Бурчынька, і засапе, і зарохкае, і будзе цягнуць таўшчэзную лапэту, кленчачы[3] цукерку.

---

[1] *Фе́нек* — жывёліна сямейства сабачых.

[2] *Гепа́рд* — драпежная жывёліна сямейства кашэчых.

[3] *Кле́нчыць (кля́нчыць)* — тут: настойліва выпрошваць.

Глупства, вядома. Мінула з таго часу трыццаць год, і мой звер, вядома ж, даўным-даўно мірна заснуў у нетрах (мядзведзі моцныя і таму маюць на гэта права), калі толькі яго не забіла вайна.

Яго прынеслі мне ўзімку саракавога года. Прынёс палясоўшчык з Румеля, мужык з чырвонымі шчочкамі, кучаравымі вялізнымі вусамі і саладзейшымі вочкамі колеру турэцкага тытуню[1].

Палясоўшчыкі ўспаролі мядзведзіцу — тады яшчэ паляванне на мядзведзяў не было забаронена, — забілі яе, двух медзведзянят пабралі сабе, а трэцяга занеслі бацьку.

Той паставіўся да ўсяго гэтага страшэнна няўхвальна. Ён цярпець не мог непатрэбнага «ляснога разбою», хаця б ён і не быў забаронены дзяржавай.

— Матку страляць. Падурэлі мужыкі.

— Дык... яно... чорт яе ведае, хто яно там сядзеў. А выскачыла, то было ўжо позна. Тут ужо ратуйся. Абуджаны мядзведзь усё адно прападзе.

— А я вось Піліповічу за гэта ўзгрэў дам. Не ведаць, дзе і які звер на ягоным участку.

— Дык малое ж усё адно шкада, — без усякай логікі сказаў румельскі палясоўшчык. — Не выкінеш жа на мароз.

— А які вы гэтаму малому лёс прысудзілі? — спытаў бацька. — Дзікі — хай бы сабе й жыў дзікі сабе на радасць. А так будзе ні хатні, ні дзікі. Будзе цягнуцца да людзей, палохаць іх. Скуль жа ім ведаць, што ён мухі не пакрыўдзіць?

---

[1] *Тыту́нь* — трава для курэння; табака.

Ну і нарвецца на кулю. Ці самім давядзецца застрэліць, ці ў звярынец здаць — таксама не цукар без свабоды.

Бацька трымаў у руках аблезлую зайчыную шапку і паказваў мне нешта жывое, што ляжала ў ёй.

— Шчанюк! — ахнуў я.

Шчанюк быў велічынёю з рукавічку, маленькі-маленькі, светлы. І вочкі былі ці то сінія, ці то проста з блакітнай каламуццю, як то бывае ў шчанюкоў. А дурныя ж дурныя!

— Якой пароды? — спытаў я.

— Мядзведжай пароды, — адказаў бацька. — Гэта медзведзянятка.

— Такі малы? Смяешся, так?

Я шмат разоў бачыў мядзведзяў і не паверыў яму.

— Э-ех, Сяргейка, розуму ў цябе, — сказаў стары ляснік Марка. — А яшчэ лесавік. Мядзведзі ж узімку не ядуць. Вось мядзведзіха такіх і нараджае. Малака ім з напарстак трэба, і яны ўсю зіму амаль не растуць. Іначай высмакталі б ушчэнт. Здохла б матка з голаду. Затое ўжо вясной, як выйдуць на лясны хлеб, пачынаюць як на дражджах расці.

Мядзведзіка занеслі ў хату, і там маці, узяўшы яго на рукі, пачала мачаць палец у цёплае малако і даваць яму злізваць. Язычок у таго быў шэры і толькі ледзь-ледзь ружовы. А пасля Марка вярнуўся з гарадка, з пакупак, і прывёз аранжавую, як апельсін, спрынцоўку, і тады справа ўвогуле пайшла на лад.

Мабыць, з той прычыны, што было ўдосталь покарму, мядзведзік не стаў чакаць вясны, каб пачаць расці. Распірала яго, сапраўды, як на дражджах. Хутка мы пачалі даваць яму ўжо і крышаныя яйкі і мёд, разбоўтаны ў вадзе. У гэтых выпадках ён асабліва чыста вылізваў сподак.

Спаў ён у маім мезанінным[1] закутку на старым кажусе, пасцеленым ля грубкі, але часамі ўначы пачынаў так жаласна енчыць і квіліць, сумуючы па чымсьці, што я браў яго да сябе ў ложак, пад коўдру, хаця рабіць гэта мне забаранялі. Трапіўшы туды, ён адразу супакойваўся і пачынаў цмокаць языком усё саладзей і саладзей, аж пакуль не засынаў, а тады ўжо толькі соп. А я баяўся толькі прыспаць яго, ненарокам наваліўшыся ў сне. Занадта ўжо ён быў малы.

Раніцаю бацька, каб не лезці па сходах, грукаў кіем у столь, і я хутка адносіў медзведзяня на месца... Часцей за ўсё ён і не прачынаўся пры гэтым.

А я, пасля ўсіх гэтых ненавісных умыванняў і парэчкавых чаёў, ставаў на лыжы і ішоў пяць кіламетраў у свой трэці клас. І заўсёды шкадаваў, што мядзведзь застаецца дома адзін. Узяць яго з сабой я, аднак, не наважваўся, інстынктыўна адчуваючы, што прысутнасць мядзведзя ў класе асаблівага захаплення ў настаўнікаў не выкліча.

Бурык рос, і ў маім пакоі зніклі аконныя занавескі, бо ён меў звычай караскацца на іх і гайдацца. І знікла сурвэтка са стала, бо ён двойчы

[1] *Мезані́н* — невялікая надбудова над сярэдзінай дома.

сцягваў яе разам з чарніліцай і сшыткамі. Сшыткі ён акуратна дзёр на часткі, седзячы, як чалавек, на падлозе, беручы карэнчык у рот, а астатняе давяршаючы лапамі. І мне давялося хаваць сшыткі, і чарніліцу, і кнігі, і туфлі, што, між іншым, мела вялікае выхаваўчае значэнне.

А Бурык раскашаваў у вялізным доме. Аднойчы забраўся ў камору, перакуліў на сябе банку з мёдам, а пасля высыпаў на сябе мяшэчак з мукой. Калі яго заспелі на гарачым[1], ён з дзелавітым буркатаннем аблізваў з сябе гэтую незвычайную бела-аранжавую кашу. Аблізваў плечы. Здымаў гэтую кашу з дзіцячага, амаль голага, круглага пуза. Перакульваўся на спіну і стараўся злізаць гэта яшчэ і з тоўстых голых пятак.

Матка ахнула, схапіла яго за вуха і павалакла на кухню мыць у балеі[2]. Я дужа баяўся, што бацька возьмецца за шпандыр[3], хаця ні мяне, ні сабакі, ні каня — нікога ён ніколі не біў. Так, матляне карбачом[4] над крыжам каня, і той слухмяна пераходзіць у намёт[5].

— Ты не бі яго, — сказаў я.

— А чаго яго біць, — спакойна сказаў бацька і нібы растлумачыў: — Мядзведзь. Узялі, то цярпець маем. Мёд — гэта ўжо вышэй за яго і за дысцыпліну. Ужо да гэтага, Сярожа, яго не прывучыш. Усё адно як дзённікі не дзерці. Праўда ж?

---

[1] *Заспе́ць на гара́чым* — застаць на месцы злачынства.

[2] *Бале́я* — вялікая нізкая драўляная або металічная пасудзіна для мыцця бялізны.

[3] *Шпа́ндыр* — рамень, раменны пояс.

[4] *Карба́ч* — пуга, бізун.

[5] *Намёт* — хуткі бег каня.

Аднойчы я назнарок пакінуў дзённік на стале. У дзённіку было першае маё «пасрэдна», адзнака, што адпавядае сучаснай тройцы. Карысці мне гэта не прынесла. Паршывец Бурык, як назнарок, падзёр у дробныя шматкі ўсе старонкі дзённіка, акрамя той, на якой была адзнака.

Я быў досыць праўдзівы хлопец, бо мяне ніколі не каралі звыш меры і патрабавалі «толькі не хлусіць». І тата ведаў, што я раскайваюся, а таму і перавёў размову на іншае:

— Таму і імя яму — мядзведзь. Мёд ведае. Ведае, дзе мёд.

...У тое лета я, ідучы з Маркам у лес, пачаў усё часцей і часцей браць з сабою Бурыка. Спачатку той баяўся лесу, ціснуўся да ног, але з часам пачаў прывыкаць. Нават мог знікнуць, але як толькі крыкнеш, з усіх ног валюхаў да цябе, смешна матляючы віслым задам.

Марка спецыяльна, на вачах у яго, адкідаў і перакульваў камяні і калоды, браў чарвякоў, што спяшаліся ў зямлю, ды лічынак і харчыў імі Бурыка. Той аж чамкаў. З месяц нічога ў нас не атрымоўвалася. І якая ж была радасць, калі ён упершыню паспрабаваў адцягнуць калоду. Невялікую. Ён быў гладзенькі, і сыты, і ўжо досыць моцны.

— Пакрыўдзілі мы яго, — сказаў Марка, — то трэба выправіць, як здолеем. Каб не збыткаваўся[1] з яго лес, як выпусцім.

Аднойчы я заспеў яго, калі Бурык знайшоў цецеручынае гняздо. Узяў адзін прыемны круглы

---

[1] *Збыткава́цца* — здзекавацца, насміхацца.

прадмет у пашчу — хутчэй як цацку — і выпадкова раздушыў. Выраз ягонай морды ў гэты момант немагчыма апісаць. Спярша нязмернае здзіўленне, — а куды тая цацка падзелася? — а пасля нечаканае ўразуменне, што гэта ежа, і смачная ежа...

Аднойчы Марка выкупаў мядзведзя ў Водры, а пасля падвабіў яго цукрам да бліжэйшага мурашніка. Паклаў цукар на ягоную макушку. Бурык палез па яго спачатку лапай, пасля мордай. Пасля пачаў адступаць і церці морду лапамі, і лізаць іх, і сліна, змешаная з цукровым сокам, цякла па лапах і жываце. І ён злізваў яе разам з мурашкамі. Марка зрабіў гэта некалькі разоў, і вось у адзін са днёў, калі Бурык раптам прыціхнуў у гушчары, дзед асцярожна паклікаў мяне.

Мядзведзік сядзеў ля мурашніка, слініў лапу і разграбаў гліцавую піраміду[1]. Трымаў там лапу і пасля аблізваў яе. Без усякага цукру.

...Да маліны яго і прывучаць не трэба было. Ён дужа цікава еў яе: абшморгваў разам з лісцем, соваў у рот, чамкаў, аж заплюшчваючы вочы ад асалоды, а пажмаканае лісце пасля выплёўваў.

Так мы пражылі лета. А за ім прыйшла восень з яе жалудамі і брусніцамі. І зноў засерабрыўся дах пуні, а Бурык стаў вялы і сонны і не хацеў гуляць са мной.

Адразу за нашай хатай ужо з год ляжала яліна-выварацень. Ніяк не даходзілі рукі распілаваць

---

[1] *Глі́цавая пірамі́да* — мурашнік; горка, курганок з сасновых шыпулек — гліцы (ігліцы).

яе. А пасля бацька забараніў. Таму што ў яму пад каранямі нанесла шмат сухой лістоты і аднойчы ён убачыў, як Бурык залез у гэтую яму і топчацца, і топчацца там. Бацька загадаў мне кожны дзень, як прыйду са школы, награбаць граблямі два мяхі сухой лістоты і высыпаць туды.

Пасля лістота стала мокрая, пасля змерзлая, жорсткая, як шкляная, аж звінела, а Бурык пачаў часцей і часцей знікаць. Спачатку на дзень, пасля на дзень і ноч...

Пасля ён залез на дзень у свой бярлог, але вылез, бо зноў стала цяплей. Пасля аж на тры дні. А аднойчы я з'явіўся са школы — якраз выпаў першы сухі сняжок — і не ўбачыў яго, а тата сказаў, што ўначы той канчаткова лёг і што непакоіць яго ані ў якім разе не трэба.

Паваліў, паваліў снег, засыпаў нашу сядзібу, пуню, яліны ў лесе, стагі і ядлоўцавыя хмызы. Уставалі і клаліся пры газавых лямпах. Вечарамі стралялі грубкі, і зменлівы, бягучы водбліск бегаў па старонках кнігі. І мне было шкада, што за сцяной, не так ужо і далёка, спіць у снезе мой звер. Хаця я ведаў, што ён добра ўпасвены, а ўкормленаму лёгка перажыць зіму.

Зрэдку я браў татаў бінокль і глядзеў на снежную гару вываратня: на цёмную адтуліну ў ёй і на лёгкі, амаль нябачны парок, што ў моцныя маразы віўся над дзіркай.

...Бурык устаў, калі снегу было ўжо куды менш, чым зямлі. Увесь нейкі нібы аблезлы, з праваленымі бакамі, з вострай, нібы ў беспароднай свінні, мордай. Я не бачыў, як ён устаў. Толькі

разрыты лаз пуста глядзеў. На ўсход, як заўсёды ў мядзведзяў. Бацька супакоіў, што ён не ўцячэ, што гэта ён проста пайшоў пагрызці крушынавай кары ці яшчэ чагосьці.

І сапраўды, на трэці дзень ён з'явіўся, крыху больш здзічэлы, але ўсё яшчэ свой. Мы далі яму хлеба, уціснуўшы ў бохан драбкі цукру, і ён захрубусцеў, як раней.

Цяпер ён часам знікаў на дзень, а то й на два, але заўсёды прыходзіў і канючыў[1] ежу, бо ў лесе яе было яшчэ мала. Але паступова ўсё больш прыгравала сонца, сонечна закалыхалася між дрэў мора заечай капусты, выпаўзлі мурашкі, пярэстымі, як у фіялкі, падкоўкамі лістоў рассыпаліся пад ярамі падалешнікі. Ежы стала болей, і ён еў і ў лесе, і ў нас.

Сярод усіх людзей ён па-ранейшаму адзначаў мяне. Нават узяў прывычку праводзіць мяне ў школу. Да ўзлесся. Страшэнна падрос. Калі ставаў на заднія лапы, быў ужо вышэйшы за мяне, і мне забаранілі дужацца з ім, бо ён у запале можа не суразмерыць сілы. Але ўсё адно мне было прыемна хадзіць з ім, ведучы яго за вуха, або паваліць і ўсперціся на яго.

Пэўна, не адзін чалавек шчыкаў тады сябе за руку, убачыўшы, як купаюцца ў Водры або разам выходзяць на адхон хлопчык і мядзведзь, якога хлопчык вядзе за вуха.

---

[1] *Каню́чыць* — тут: выпрошваць.

Аднойчы ён да паўсмерці спалохаў нейкіх баб, што збіралі для аптэкі познія смаржкі[2] і розныя зёлкі. І тады, каб не цягаўся за мной, вырашылі садзіць яго на ланцуг на тую гадзіну, што патрабавалася мне, каб дайсці да школы.

Тут і я зразумеў, што азначае ланцуг, калі выходзіў з лясніцтва, і неасцярожна азірнуўся, і ўбачыў ягоныя вочы і тое, як ён стаіць дыбкі і перамінаецца, і пераліваецца яго сытае, святлейшае колерам, пуза. І як ён цягне тоўстыя лапы. Не дай вам бог бачыць гэта, калі вы любіце звяроў і людзей!

І тут здарылася тое, што паскорыла нашу з ім разлуку.

Калі я адыходзіў, Бурык звычайна ляжаў, безнадзейна паклаўшы галаву на лапы. Я азіраўся, бачыў яго, наш двор, засыпаны жвірам, бэльку, што падпірала сцяну лядашчай пуні, і матку, якая стаяла на ганку, сыпала з рэшата зерне і клікала:

— Пылі-пылі-пылі-пылі!

Курэй у нас было шмат. І вось куры пачалі знікаць. Спачатку думалі: ліса. І толькі потым выявілі за сабачай будкай цэлыя курыныя могілкі. А пасля ўдалося падсачыць, як гэты паскуднік Бурык зграбае жвір, устае на заднія лапы і паволі высыпае яго з пярэдніх. Няма птушкі, дурнейшай за курыцу. Тыя падыходзілі, і тут мядзведзь, цвёрда ведаючы, наколькі дазволіць яму гэта лан-

---

[1] *Смаржкі́* — ядомыя грыбы, якія маюць зморшчаную карычневую шапачку.

цуг, рабіў кідок і жыва скручваў курыцы вязы[1]. А пасля закопваў за будкай...

— Звярэе, — сказаў бацька. — Ну, Сяргей, хочаш не хочаш, а час развітвацца. Іначай будзе паскудна. Можа быць бяда.

...Вырашылі адвезці яго ў пятніцу, а ў чацвер здарылася тое, пра што бацька казаў, збялеўшы: «Ну, пашанцавала».

Я пайшоў у школу, а хвілін праз дваццаць Бурыку ўдалося сцягнуць з сябе нашыйнік. Ці то зацягнулі не на тую дзірку, ці яшчэ што, але ён круціў-круціў галавою дый вызваліўся. А вызваліўшыся, кінуўся даганяць мяне. Як адчуваў, што гэта апошні паход... Узлессе толькі-толькі засвяціла наперадзе сонцам праз дрэвы, як я, азірнуўшыся, убачыў белы ажаролак[2] з клінам наперадзе і механаты зад, які матляўся з боку ў бок, і лапы, якія ён нязграбна выкідаў наперад.

Дагнаў і захукаў, засоп, забурчаў. І я вырашыў, што дазволю яму апошні раз давесці мяне да ўзгорка. Паклаў руку яму на загорбак і так, злёгку абапіраючыся, пайшоў далей. Так мы адышлі далёка ад лесу, калі я ўбачыў...

...Я не ведаў, што ў той дзень удалося вызваліцца не толькі аднаму Бурыку, што ў той дзень выкруціў з ноздраў кольца яшчэ й саўгасны бугай Гром. Проста выпаў вінт, яно распалася на два паўмесяцы ў выглядзе лацінскага «S», і Гром

---

[1] *Вя́зы* — шыя.

[2] *Ажаро́лак* — белая паласа вакол шыі.

датуль цёр пысай аб траву, пакуль не пазбавіўся ад адзінай рэчы, якой можна ўтаймаваць бугая, кольца, трымаючыся за якое нават сямігадовае дзіця можа весці жывёлу куды захоча.

Мой траюрадны брат Алік, сын дырэктара школы, і яшчэ два хлопцы пагналіся за ашалелай жывёлінай. Да таго часу Гром паспеў перакінуць на рогах цераз высокі хмыз пастуха, зламаўшы яму пяць рэбраў. Ад смерці таго ўратавала толькі тое, што бык, дзякуючы хмызу, згубіў чалавека з вачэй... І вось тры коннікі, сцёбаючы пугамі, дзве гадзіны ганялі быка, пакуль не загналі ў пустое гумно. Ім удалося зачыніць усе трое варот. Брат забраўся на бэльку, завязаў на ёй тоўстую вяроўку і пачаў спускаць другі яе канец, з бягучай пятлёй, туды, дзе соп, рыкаў і пароў паветра страшнымі рогамі бугай.

Брату пашанцавала закінуць пятлю на гэтыя рогі і зацягнуць яе, але тут звер, адчуўшы няволю, таргануўся, кінуўся наперад, і таўшчэзная вяроўка толькі дзынкнула, як перацягнутая струна. Брат, які ўсё яшчэ трымаўся за яе, ад рыўка не ўтрымаўся і ляснуўся з бэлькі проста пад капыты пачвары. На шчасце, бугай не зразумеў, што да чаго, і, не звярнуўшы на яго ўвагі, рынуўся наперад, высадзіў рогамі вароты і кінуўся бегчы.

...Калі я ўбачыў, як наперадзе паўстала воблака пылу, і, матляючы галавой, каб скінуць з рогаў пятлю, падскакваючы на ўсіх чатырох і дугою выгнуўшы над зямлёй хвост, імчыць на мяне вялізная, як зубр, чырвоная пачвара швейцарскай пароды, зразумеў: уцякаць не было куды. Ад лесу

я адышоў далёка. І вакол хаця б кусцік, хаця б яміна.

Я не спалохаўся тады. Проста ўсё ўва мне скамянела. Бугай спыніўся: заўважыў. Налітыя крывёй вочы глядзелі на мяне, пена валіла з пысы. Ён рыў капытамі зямлю і напружваўся. І ўсё ніжэй апускаліся вострыя і бліскучыя, нібы паліраваныя, канцы рогаў.

Кінуўся з дзікім рыкам.

Я паспеў адскочыць. І яшчэ раз адскочыць. І яшчэ. Доўга такая гульня цягнуцца не магла. Ногі ў мяне пачалі павольна млець. І тут, калі Гром у чацвёрты раз кінуўся на мяне, з нечаканай хуткасцю матнуўся на яго збоку, здавалася б, такі нязграбны, буры цень.

Бурык адвесіў цяжкай лапай удар па загорбку пачвары і раздзёр яго. Але нават не рана прывяла Грома ў прытомнасць. Ён урэшце заўважыў мядзведзя, зразумеў, з кім мае справу, адчуўшы ненавісны і страшны, дзікі, звярыны, лясны пах.

...Калі ўрэшце падскакалі коннікі, Гром адступаў, дрыжучы ад нянавісці і жаху, задкаваў, усё яшчэ капыцячы зямлю, але ўжо не асмельваючыся рынуцца наперад. Нізка рыкаў і адступаў перад зверам, які на задніх лапах наступаў на яго. Бугаю накінулі на рогі і на заднюю нагу распетлі і павялі. Бурык ішоў ззаду, як канваір, і давёў усю гэту мілую кампанію да кузні, дзе Грому зноў укруцілі кольца.

...Маці дазволіла адвезці мядзведзя толькі ў нядзелю, усе тры дні адкормлівала яго, як кабана, і калі мы вялі Бурыка ў машыну, цалавала яго ў морду і плакала.

Звера завялі па сходцах у кузаў. Бацька і я селі побач. Марка — у кабіне з шафёрам. Мядзведзь устрывожыўся было, калі затурчаў матор, але хутка супакоіўся. Глядзеў маленькімі вочкамі, як плылі назад лясы, і бліскучая, нібы цыратовая, цюпка[1] ягонага носа рухалася: чытаў баравыя пахі. Мне было да болю шкада расставацца, але я разумеў, што мядзведзя майго цягне да сябе падобных і яму там будзе лепей, чым сярод нас. Усё ж ён быў народжаны для свабоды.

Мы адвезлі яго за пяцьдзесят кіламетраў, у самы глухі кут, дзе найчасцей сустракалі мядзведзяў, выпусцілі, агладзілі яго і пайшлі да машыны. Некалькі разоў ён імкнуўся быў за намі, але пахі першабытнага лесу перамагалі, і ён усё аддаляўся. Бацька і Марка ўбачылі, як ён праводзіць нас позіркам, і далі ў паветра некалькі стрэлаў. Тады ён пабег трушком і знік сярод дрэў.

...Праз некалькі тыдняў немцы бамбілі гарадок. Першыя бомбы трапілі ў пошту, універмаг, тэатр. Палясоўшчыкі казалі, што звяры скопам перакачоўваюць ад шуму і ад дарог у нетры лясоў. І адзіным слабым суцяшэннем сярод усеагульнага гора мне было тое, што звер, якога я любіў і які ўратаваў мне жыццё, цяпер напэўна не пойдзе да дарог, на якіх выбухаюць бомбы і гудуць танкі, над якімі праносяцца на брыючым самалёты.

На другім тыдні вайны мы ўсе пайшлі ў лес.

---

[1] *Цырато́вая цю́пка* — тут: бліскучы, глянцавы кончык носа (*цыра́та* — тканіна, пакрытая з аднаго боку асобым саставам, які робіць яе непрамакальнай; кляёнка).

...Восенню сорак другога года мы з дзедам Маркам прабіраліся лясамі на сувязь. Абодва ў кужалі і шарачку[1], абодва з торбамі. Марка, што адпусціў сівую бараду, сапраўды быў падобны да старца, а я быў у яго павадыром. У нас і «легенда» была някепская. Бацька з маці «загінулі ад бомбы, а Марка, шкадуючы, падабраў мяне». Прыдрацца не было да чаго.

Лес быў увесь засыпаны звонкай сухой лістотай, залатой, іржавай, чырвонай, вішнёвай. Яна шастала пад нагамі і аж звінела, калі праносіўся подых ветру: мільёны лімонных і вінных матылёў узляталі ў паветра і мільгалі між дрэў.

І вось калі мы падыходзілі да яра ў вярхоўях Водры (з яра якраз выбівалася крынічка, што ўпадала ў яе), Марка раптам паклаў мне на плячо руку і спыніў.

Яр быў ледзь не па самы верх засыпаны лістотай. Зрабі крок — і ўтонеш. І дрэвы ўсё дабаўлялі і дабаўлялі ў яго золата і чырвані. І, мабыць, гэты шолах даў нам магчымасць падысці непачутымі так блізка.

На тым беразе адвальваў тоўстую, зялёную ад моху калоду магутны буры мядзведзь. Віслы зад, страшныя крываватыя пярэднія лапы, куды таўсцейшыя за заднія. І нават адсюль было відаць, як пераліваюцца мускулы на вялізным падвойным загорбку.

---

[1] *Шарачо́к* — грубая фарбаваная тканіна дамашняга вырабу; тут: вопратка, пашытая з ільнянога палатна, вытканага ў хатніх умовах.

Калі ён адваліў калоду, сеў і пачаў выбіраць з-пад яе нешта і чамкаць, я ўбачыў белы ажаролак, і радасць гарачай хваляй абліла мае сэрца: «Няўжо ён? Ой, не ён. Ой, вядома ж, ён!»

— Бурык! Бурчынька! — шэптам паклікаў я.

Марка паклаў мне далонь на вусны. І мядзведзь насцеражыўся, і сеў, і стаў паводзіць сваёй цюпкай, і зыркаць ва ўсе бакі. Але паветра веяла ад яго на нас, а заўважыць нас ён не мог (мядзведзі кепскавата бачаць). І я маўчаў. Тады ён выторгнуў[1], як мне здалося, амаль прызыўнае крактанне. Ласкавае, жаласнае, падобнае на мурканне. Ці, можа, я хацеў у гэта верыць?

Мы маўчалі, і паступова ён супакоіўся, даеў тое, пад калодай, і павольна, перавальваючыся, завалюхаў у нетры. Павеў ветру ўзняў між ім і намі чырвона-залатую сець. Пасля лістота пасыпалася з урвішча[2] на дно яра. Мяккім хвалістым вадаспадам. І лісце нібы празвінела наўздагон яму. А пасля стала ціха.

Мінула вайна. Я даўно скончыў мастацкі інстытут, і даўно працаваў, і дабіўся вядомасці. Калі часам даводзілася ўспамінаць пра тыя дні, я пераконваў сябе, што звер мой стаў мацёрым, магутным мядзведзем, «дзедам» і «прадзедам», патрыярхам[3] вялікай мядзведжай сям'і, і мірна заснуў ад старасці недзе на сонечным, укрытым кветкамі схіле.

---

[1] *Вы́таргнуў* — выкрыкнуў, гукнуў, азваўся.

[2] *Урві́шча* — тут: круты абрыў.

[3] *Патрыя́рх* — тут: пачынальнік роду.

1. Што расказаў пра сябе і сваю сям’ю аўтар-апавядальнік?
2. Дзе прайшло дзяцінства Сяргея? Як ён апісвае свой дом і лясніцтва?
3. Прыгадайце, як апынуўся Бурык у Сяргея. Чым быў асабліва ўражаны хлопчык пры першай сустрэчы з медзведзяняткам?
4. Як рос Бурык, чым любіў займацца?
5. Раскажыце пра дружбу хлопчыка з мядзведзем, успомніце смешныя здарэнні з Бурыкам.
6. Як прывучалі Бурыка да лесу, як ён там пачуваўся? Пра якія звычкі мядзведзяў вы даведаліся з апавядання?
7. Як вы думаеце, па чым сумаваў Бурык начамі? Пракаменціруйце словы аўтара: *Тут і я зразумеў, што азначае ланцуг...* Чаму было неабходна вярнуць падгадованага мядзведзя ў лес?
8. Прыгадайце апошнюю сустрэчу Сяргея з мядзведзем. Што перажыў пры гэтым аўтар?

## ПРА ЛІТАРАТУРНАГА ГЕРОЯ

У мастацкім творы звычайна дзейнічаюць літаратурныя героі (персанажы, дзейныя асобы), якія адрозніваюцца знешнім выглядам, узростам, паходжаннем, адметным характарам, паводзінамі, здольнасцямі і г. д. Дзейнымі асобамі мастацкага твора могуць быць жывёлы, звяры, птушкі і нават з’явы прыроды ці прадметы. Напрыклад, у апове-

сці Максіма Лужаніна «Добры хлопец Дзік» галоўным персанажам з’яўляецца няўрымслівы, разумны і надзейны сябар — сабака Дзік. Прыгадайце таксама казачных звяроў-музыкаў, маці-гару і яе дачушку-крынічку, Мароза — мастака і штукара, нябесны хор зорак. Казачныя персанажы надзяляюцца чалавечымі якасцямі: могуць быць добрымі, вясёлымі, сціплымі, сумленнымі, чулымі і, наадварот, бессардэчнымі, злымі, нахабнымі. Але найчасцей у цэнтры ўвагі пісьменніка — асоба чалавека.

> Л і т а р а т у р н ы  г е р о й — гэта мастацкі вобраз чалавека, які паказаны ў творы.

Мастацкую літаратуру нездарма называюць чалавеказнаўствам, мастацтвам стварэння характараў. Чытаючы літаратурны твор, мы шмат даведваемся пра героя: хто ён, як выглядае, чым займаецца, дзе жыве, з кім сябруе, пра што марыць, што адчувае, якія выпрабаванні выпадаюць на яго долю, якія радасці і няўдачы ён перажывае. Звычайна ў мастацкіх творах адны персанажы больш актыўна ўдзельнічаюць у падзеях, вакол іх закручваецца асноўнае дзеянне, пра іх больш падрабязна і дэталёва распавядае аўтар. Гэта *галоўныя літаратурныя героі*. Існуюць і *героі другарадныя*, пра якіх згадваецца менш, радзей, толькі ў некаторых эпізодах, і роля іх у выяўленні аўтарскай задумы значна меншая.

Характар героя раскрываецца найперш праз яго ўчынкі і паводзіны, пачуцці і перажыванні.

Каб вобраз чалавека быў больш наглядным, аўтар апісвае яго знешні выгляд, твар, жэсты, рухі, міміку, яго вопратку — гэта значыць дае *партрэт* літаратурнага героя. Узгадаем, як малюе Якуб Колас «дарэктара» Яську:

А сам дарэктар, з вузел ростам,
Ў сваім уборы бедным, простым,
У зрэбных портках і кашулі,
Стаяў, як бы яго прыгнулі,
Такім мізэрным і маўклівым,
У халаце суконным, сівым...

Праз гэта апісанне выразна выяўляецца не толькі знешняе аблічча хлопчыка, але часткова раскрываецца і яго ўнутраны стан, а таксама прасочваюцца спагадлівыя адносіны самога аўтара да разгубленага і зніякавелага «настаўніка».

Дапамагае ў спасціжэнні характару героя яго *мова:* размовы з іншымі персанажамі — дыялогі, яго разважанні пра іншых людзей і падзеі — маналогі. Больш поўна перадаць перажыванні і настрой дзейных асоб часта дапамагае апісанне прыроды ў мастацкім творы — *пейзаж*. Пейзаж бывае сугучны ўнутранаму стану героя ці кантрастны да яго перажыванняў, дапамагае чытачу ўявіць месца, дзе разгортваюцца падзеі, або служыць нібыта іх фонам. Але часам прырода можа існаваць у творы як самастойны мастацкі вобраз, асобна ад жыццёвых падзей і чалавечых перажыванняў.

Цэласнае ўяўленне пра літаратурных герояў мы атрымаем, калі ўдумліва, нетаропка прачытаем твор цалкам, не прапускаючы ні аўтарскіх апісанняў, ні дыялогаў, калі ўважліва прааналізуем усе эпізоды. Каб спасцігнуць мастацкі твор, неабходна ўсвядоміць пазіцыю самога аўтара — яго стаўленне да грамадскіх і гістарычных падзей, да жыцця ў цэлым. Аўтарская думка не ляжыць на паверхні, і толькі ўважлівы чытач можа зразумець яе.

1. Хто такі літаратурны герой? Дзеля чаго пісьменнікі апісваюць знешнасць (ствараюць партрэт) дзейнай асобы?
2. Якая роля пейзажных замалёвак у мастацкім творы? На матэрыяле асобных вывучаных твораў («У старых дубах» Якуба Коласа, «Былі ў мяне мядзведзі» Уладзіміра Караткевіча і інш.) прасачыце, як апісанні прыроды «ўдзельнічаюць» у раскрыцці характару героя, у выяўленні пазіцыі аўтара.
3. Чым адрозніваюцца галоўныя літаратурныя героі ад другарадных? Прывядзіце канкрэтныя прыклады, абапіраючыся на вывучаныя творы.
4. Як выяўляецца пазіцыя аўтара ў мастацкім творы?
5. Прааналізуйце адносіны аўтара да сваіх герояў на прыкладзе апавядання Хрысціны Лялько «Касцы».

МАКСІМ ЛУЖАНІН

# Добры хлопец Дзік

*(Урыўкі)*

## Што ж за ён быў, той хлопец?

Хлопцам назваў яго адзін малы чалавек з нашага двара. А быў гэта звычайны дваровы сабака.

Ніякі не медаліст і не нашчадак славутых сабачых радоў з дыпломамі і радаслоўнаю, вытокі якой губляюцца недзе ў абымшэлых ча́сах.

Затое — сябар! Мой асабіста, нашага дома цалкам, усяе вуліцы, дзе мы жылі, дый, можна сказаць, усяе ўсходняй ускраіны горада.

Дома мы яго лічылі за сямейніка, сціплага сваяка, што ўсё чыста разумее, усім спагадае, толькі параіць не можа, не ўмее гаварыць.

Хто ж былі мы, хатнія? Наташа, жончына сястра, з сваёю дачкою Інай, я з жонкай. Усіх нас, як і ката Хаму, Дзік ведаў па імёнах, склікаў за стол есці, зваў з двара ў кватэру, запрашаў да тэлефона, рабіў многа іншых далікатных паслуг.

Найбольш турбот у яго было са мною. Звыкшы, што ў хаце на мяне казалі Алесь, ён вельмі смешна схіляў галаву набок, прыслухоўваўся, чаму я абзываюся, калі госці кажуць Максім[1]. Найбольш блізкія яму былі словы Гаспадар і Гаспадыня, яны будуць часам ужывацца і далей. Не

---

[1] *Максім Лужа́нін* — літаратурны псеўданім (прыдуманае імя і прозвішча, якімі аўтары падпісваюць свае творы) пісьменніка Аляксандра Карата́я.

таму, каб падкрэсліць акалічнасці пяршынства ў доме ці, не дай бог, уласніцтва, не. У сабачай свядомасці, сцвярджаюць кінолагі[1], гэтыя словы замацоўваюцца адразу ж і назаўсёды, вызначаючы асоб, каго трэба слухаць і самаахвярна бараніць, чые волі нельга пераступаць.

## Легенда пра паходжанне

На хмурным і золкім лютаўскім досвітку нам у дзверы пастукаў Марат, сын шаўца Міколы, прагавіты да чытання падлетак.

Пераступіў парог, пазуха ў яго падазрона адтапырвалася.

— Прынёс,— коратка паведаміў Марат. І вылузаў са свае апранашкі шчанюка.

Шэры пушысты камячок скаціўся з хлопцавых рук на падлогу, падцiснуў хвосцік, быў памкнуўся падбегчы і не змог — таўсматыя лапы кепска трымалі сытае цельца і раз'ехаліся ў бакі.

— Вялікі сабака вырасце...— працягваў Марат з выглядам сур'ёзнага знаўцы, сам, відавочна, цешачыся з свайго ўдалага падарунка. — Лапішчы якія тоўстыя, гляньце. Шырокі ў косці — шпаркі ў росце, — хлопец паўтарыў улюбёную бацькаву прымаўку.

— А з якіх ён сабак?

— Сын англійскага дога і нямецкай аўчаркі.

Гэта прагучала так гучна, нібыта гаворка ішла не менш чым пра шлюб уэльскага лорда з баварскаю графіняю.

---

[1] *Кіно́лаг* — спецыяліст, які вывучае сабак, іх пароды, звычкі, паводзіны, умовы ўтрымання і развядзення.

Спакушаныя такою бліскучаю і бездакорна дакладнаю біяграфіяй, мы вырашылі павялічыць насельніцтва кватэры на адну сабачую душу, балазе[1] дадатковай плошчы для прапіскі не патрабавалася.

У нагрэтую шчанюком Маратаву запазуху перайшла кніжка пра Шэрлака Холмса, яна даўно пасміхалася хлопцу з мае паліцы.

Прызнацца, на нейкі момант у мяне варухнулася сумняванне: адкуль было Марату ў ягоныя адзінаццаць гадоў здабыць такія пэўныя весткі датычна сваяцтва дога і аўчаркі? Немалая частка хлопцавага маленства змарнела ў цёмным, згалелым за фашысцкую акупацыю горадзе. Ні людскай школы, ні бібліятэкі, ні зычлівага слова.

Само сабою выходзіла, што ён зараз, несучы нам сабачку, прыдумаў нешта кшталтам легенды, даўшы волю фантазіі, а на недахоп яе хлопцу скардзіцца не даводзілася. Пабыў нейкія паўгода з бацькамі ў партызанах і цяпер зачароўваў аднакласнікаў бляскам сваіх малаверагодных подзвігаў і колькасцю, зусім неверагоднай, знішчаных ім асабіста ворагаў.

Аднак, якім бы цемнаватым ні здавалася паходжанне шчанюка, зерне праўды ў прапанаванай нам біяграфіі было. Цераз год з шаравата-рудога камячка поўсці на таўсматых лапах вылюдзеў дужы, ростам з дога, пёс са звычайнай для гэтай пароды моцнай і шырокай грудзінай. А вушы ў яго — стаялі! І даволі прутка, як у аўчарак, праўда, адно крыху завальвалася набок, асабліва калі падыходзіў палашчыцца.

---

[1] *Балазе́* — тым больш што, добра што.

Такім чынам, былі ўсе падставы, не саромеючыся, пераказваць Маратаву легенду нават перад заўзятымі паляўнічымі, уласнікамі бясспрэчна чыстакроўных легашоў, пойнтэраў, сетэраў і ганчакоў.

## Як Брэх стаў Дзікам

Шчанюк змалку трымаўся вельмі салідна. Павольна хадзіў, бегаў трухам, не спяшаючы, таксама не хапаючыся еў. І галасу[1] без толку не падымаў, ніколі не заходзіўся брэхам ад першага шолаху за акном ці на гародзе.

Злавіўшы вухам шум ці гукі, пакуль чутныя яму аднаму, падымаў з падсцілкі галаву і клаў яе на лапы, каб расслухацца: абвяшчаць трывогу ці драмаць сабе паціху далей. Калі ўчуты шум не спыняўся, сабака падымаў галаву вышэй і коратка папярэджваў: «Боб-боў!» Так ён нібыта даваў знаць: я — напагатове, але не турбуйцеся, небяспекі блізка няма.

Другой ступенню зрыхтаванасці да абароны было нешта сярэдняе паміж «бб-боў!», «бб-бых!» і «бб-рэх!». Але сігнал падаваўся значна галасней і паўтараўся двойчы. Гэта азначала: парушэнне спакою набліжаецца, чуецца зусім выразна.

Сабака ўсхопліваўся на лапы, боўкаў разы тры і ваяўніча станавіўся каля ўвахода.

Усе гэтыя звычкі сабака захаваў і надалей: заставаўся няспешным на бягу і на ежу, легкаважных высноў наконт небяспекі не рабіў і лішняга галасу не ўчыняў.

---

[1] *Га́лас* — тут: бязладны шматгалосы крык.

У адным толькі быў скоры: збірацца гуляць. Зачуўшы ўлюбёнае слоўца і ўявіўшы, колькі прыемных нечаканак можа трапіцца падчас праходкі, ён ужо ўстояць на месцы не мог. Радасна цяўкаў і грудзьмі адчыняў дзверы ў калідорчык. А тут — стоп! Далей сам не вырвешся — знадворныя дзверы на зашчэпцы.

Не шкадуючы лап, сабака кідаўся ў пакой да вешалкі, дзе апранаўся занадта павольна, як на яго нецярплівасць, а часам і знарок, каб падражніцца, ягоны праважаты. Радаснае павіскванне рабілася настойлівым і, здавалася, пераходзіла ў слоўную просьбу: «Ды не марудзь ты, калі ласка! Уздзявай хутчэй сваё паліто, калі яно табе ўжо гэтак трэба, я ж і ў хаце і на дварэ ў адной адзежы бегаю!»

Пачуўшы паасобны сігнал «бб-баў!», звычайна гаварылі: «О, сабака зрабіў адзін брэх!» І далей: «Чуеце, падае трэці брэх. Трэба ісці паглядзець, што там».

Так пакрысе пачала ўсталёўвацца мянушка. Сямейная нарада памеркавала і ўхваліла:

— Брэх у яго прыемны, барытон[1] мяккі, хоць у салісты аддавай. Значыць, быць яму Брэхам.

З гэтым імем сабачка пахадзіў не вельмі доўга. Ён прыбываў у росце літаральна штодня, уздоўж шэрага хіба сталі значны тры цямнейшыя палосы, акурат як у дзікіх парсюкоў.

Паляўнічы Валянцін нядбала выслухаў цьмяную легенду аб паходжанні нашага выхаванца:

---

[1] *Барыто́н* — мужчынскі голас, сярэдні паміж басам и тэнарам.

— Нешта вельмі складана. А ці не свінячага ён заводу? Чысты дзік, — і тыцнуў пальцам на цёмныя палосы поўсці на спіне.

Усе дружна сталі пярэчыць: ні з характару, ні з выгляду наш мілы сабачка і блізка не стаяў да названай жывёліны, ні свойскай, ні дзікае.

Каля нас па суседству жыў Лявон, пяцікласнік. Ён упадабаў імя Дзік...

А «Дзік» — была знаходка! Тое імя, што трэба. Асцярожны, але не баязлівы, кемлівы, хада — спорная[1], слых — пашукаць трэба, усё гэта прыдаецца і дома і ў лесе, дзе птушкі і звяры трымаюцца ў заўсёднай асцярозе, каб не дацца ў крыўду дужэйшаму.

Дык чаму ж бы не ахрысціць яго Дзік?

## Здарэнне ў завулку

...Раніцай, зусім не падобнай на снежаньскую — снег падаў і раставаў пад нагамі, — яшчэ на прыцемку я выбраўся прайсці падыхаць паветрам. Ніяк не канчалася тэрміновая работа, трэба было прасвяжыць галаву.

Ставарышаваць мне адразу падручыўся Дзік, ён яшчэ не дацягваў да года, але выглядаў на дарослага пса.

Я адамкнуў варотцы і спыніўся, нічога не бачачы. Ліхтароў не было. Трымаючыся агароджы, намацаў нагамі тратуарчык і завярнуў за вугал. Дзік падбег да мяне ўсутыч[2] і мнагазначна цяўкнуў. Ён хацеў некуды адбегчыся і прасіў праба-

[1] *Спо́рны* — тут: хуткі, пругкі.
[2] *Усуты́ч*— вельмі блізка, ушчыльную.

чэння: пахадзі, маўляў, трохі адзін, мне тут трэба зазірнуць у адзін адрас, з знаёмымі панюхацца.

Дзік падставіў галаву мне пад руку: гладзь і май пэўнасць, я цябе хутка даганю. І растаў у тумановай вільгаці.

У баку хлебазавода пасігналіла машына, няйначай прасілася ў двор на загрузку. Значыць, хутка будзе выходзіць начная змена. І я пакіраваўся пад хлебазавод.

На скрыжаванні мяне схапілі ззаду за каўнер.

— Палітончык! — закамандаваў рыплівы голас. — Скідай і — носам да плота. Каб ні руху, ні гуку.

Тут не паспрачаешся! У яго ж, напэўна, ёсць зброя, дый напарнік, відаць, непадалёку. Але — паліто! Няхай старое, але перспектыў на новае не прадчуваецца.

Як не сваімі рукамі, павольна расшпіляў я гузікі. Думалася даволі рызыкоўна: пачну скідаць з рукавоў і накіну гэтаму д'яблу на галаву, а ну і забрытаю[1].

Раптам мой каўнер адпусцілі, той самы голас, але значна памякчэлы, папрасіў:

— Паклічце, калі ласка, свайго сабачку...

Я азірнуўся. Дзік, наш рахманы[2] і вясёлы шчанюк, прыціснуў да плота прысадзістага чалавека, паклаўшы яму лапы на плечы, рычаў і дабіраўся да гарлянкі.

---

[1] *Забрыта́ць* — тут: падпарадкаваць сабе.

[2] *Рахма́ны* — пра чалавека: дабрадушны, памяркоўны ў адносінах, згаворлівы; пра жывёл: ручны, свойскі, паслухмяны.

Вельмі хацелася блаславіць між вачэй прыпёртага, але нешта стрымала.

— Дзік, сюды!

Калоцячыся, напружаны да апошняй жылкі, сабака паслухаў. Чалавек не паспеў зрабіць кроку, як завыў немым голасам: Дзік ірвануў яго за сцягняк.

— Каму сказана: сюды? А ты — давай адгэтуль... І дарогу забудзь.

Чалавек пабег у завулак. Мне каштавала нямала высілкаў утрымаць сабаку за нашыйнік.

— Нікуды не пойдзеш, супакойся, — я пачухаў шэрую галаву за вушамі. — Ты маеш львінае сэрца. І гэта будзе адзначана ў летапісе нашага дома.

Калаціла нас абодвух больш ад узрушэння і неспадзяванасці, хоць і страху хапіла, не ўтаю. Праходка была сапсавана, хочаш не хочаш, вяртайся дамоў. Так мы і зрабілі. Прыйшлі і расказалі пра здарэнне: не так для выхваляння, як для навукі — вельмі рана і вельмі позна хадзіць аднаму не выпадае.

Сабака атрымаў дадатковы паёк з цялячых храшчыкаў, еў і час ад часу падымаў на мяне галаву. Нібыта запэўніваў: нічога не здарылася і не здарыцца, давай толькі гуляць усюды разам.

## Сварка з рудым сабачкам

Мы з Дзікам ішлі па вуліцы і спявалі. Да гэтага хіліў падтуманены маёвы ранак, неабуджаная цішыня ў горадзе.

Дакладней кажучы, спяваў адзін я, Дзік ступаў поруч, задзіраў галаву і... усміхаўся. Праўда, праўда, усміхаўся! Падціскаў ніжнюю губу і крыху па-

дымаў верхнюю: выскальваліся два рады іклаў[1], але не папярэджвальна і пагрозліва, а вельмі прыязна, акурат — усмешка.

Зараз гэтае пасміханне выяўляла высокую ступень задаволенасці самою праходкай, вясновай раніцай: цёпла, сонечна, чаму ж бы не заспяваць і сабаку!

За плоцікамі дамовых агароджаў ускраіны сінеў пахучы бэз, стаялі, як пад вянец убраныя, ігрушкі і слівы. Хораша ўсім!

Апрача ўсяго іншага, у Дзікавым запабяганні і падлашчванні[2] чулася просьба: «Можа, я пабягу наперад? Дазволіш, а?»

Сабака ўвесь час прыбаўляў кроку і падскокваў, мерачыся зазірнуць у вочы. Я рабіў выгляд, нібыта не заўважаю гэтых хітрыкаў. На вуліцы Дзік мусіў хадзіць пры назе, каб не нагнаць страху каму сустрэчнаму. Перасцярога амаль залішняя: ён быў не здольны зрабіць нічога некарэктнага[3]. На жаль, гэтага не ведалі пешаходы: палохаліся, кідаліся ўбок, а жанчыны падымалі крык.

Чаму ён прасіўся, было таксама зразумела. Парк, куды мы кіраваліся, абяцаў многа markdownрознай уцехі: бегай, колькі ўлезе, скачы, куды хочаш, качайся па траве.

Выйшаўшы на бакавую алею, я даў дазвол:

— Добра, паганяй!

---

[1] *І́клы* — зубы, якія знаходзяцца непасрэдна за разцамі.

[2] *Падла́шчванне* (ад *ла́сціцца*) — вымаганне прыхільнасці, ласкі, пяшчоты.

[3] *Некарэ́ктны* — тут: нядобры, непрыстойны.

Сабака цяўкнуў, лізнуў мне шчаку і знік...

Парк, у маладым, не густым яшчэ лісці, праглядваўся наскрозь. Я ішоў нібыта праз заслону тугога прахалоднага паветра ад рэчкі, куды падала неба, зліваласяз празрыстай парай над нягучнымі хвалямі. У вершалінах дрэваў свіціўся кволы блакіт, востра патыхала сырою карой, слаўся водар зямлі і падросшай за ноч травы.

Клікаць свайго спадарожніка не хацелася, навошта, — ён недзе недалёка, асочыць мяне сам. Каб і хацеў, не ўцячэш.

Пясчаная сцяжына падняла мяне на пагорак. З правай рукі, дзе да вайны стаяў дом Якуба Коласа, зарастала крапівою і палыном выгаралая сядзіба. Лявей тулілася некалькі драўляных дамочкаў, добры клопат і ўтулак так і павяваў ад іхніх белых аканіц, чысценькіх ганачкаў і аплеценых хмелем агародчыкаў.

Каля аднаго з такіх дамочкаў, умасціўшыся на вышараваных да васковага бляску маснічынах[1] ганка, ляжаў сабачка, зусім малы, на якіх пагардліва кажуць — псючок. Таксама чысценькі, мыты няйначай як увечары, ён быў пад колер падлозе і лаўкам ганка. Таму я адразу і не заўважыў яго. Не ўстрывожыла і псючка маё з'яўленне, ён пазяхнуў, паказаўшы ружовы язычок, і ўтуліў галаву ў лапкі.

Як на тое, сюды прыскочыў задыханы Дзік. Ён, відаць, ужо дасхочу налётаўся, нахлябтаўся вады з рэчкі — морда і лапы былі добра мокрыя — і прыбег далажыцца: я тут. Сабака клаўся

[1] *Масні́чына* — дошка ў насціле.

доле, усхватваўся, зноў клаўся, словам, выказваў самую непадробную радасць з нагоды нашай сустрэчы.

Але тут разлёгся востры, пранізлівы брэх. Рудзенькі псючок стаў на крывыя лапкі, распраставў грудзіну, гатовы легчы касцямі, а не пусціць небяспеку да свайго дома і сваіх гаспадароў. Напэўна, палічыў нашу прысутнасць за грабежніцкае ўварванне на падапечную яму прастору з нядобрымі мэтамі. Ды, мусіць, і Дзік здаўся яму нейкім страшыдлам.

Хоць мы і не выказвалі ніякіх агрэсіўных намераў, пільны вартаўнік брахаў і брахаў. І, па ўсім відаць, брыдка лаяўся на нас па-сабачы.

Дзік відавочна разумеў гэтае абзыванне, ён натапырыў поўсць на хібе і няголасна гыркнуў праз сашчэпленыя пашчэнкі адменных белых зубоў.

Каб не паджыўляць наспяваўшага канфлікту, я крыху адышоўся. Дзік забег наперад і стаў наўпоперак дарогі ў запытальнай паставе: «Ну што, так і пойдзем?»

Стала зразумела: зрабі я любы крок, скажы хоць якое слова — і з рудзенькага паляціць у паветра чыста вымытая і вычасаная шэрстка, а на жаласнае вішчанне абавязкова выбегуць гаспадары.

Таму я цвёрда забараніў:

— І не думай! — І пачаў сарамаціць: — Папершае, ён малы, а значыць, яшчэ дурань, па-другое: калі ён звычайны звяга, усё роўна тут яго права, ён на сваёй тэрыторыі. А што зрабіў бы ты, каб па нашым панадворку швэндаўся незнаёмы з сабакам?

Я сеў на лаўку непадалёку і заняўся купленай па дарозе газетай. Туды ж прысунуўся, як не сваімі нагамі, Дзік. Лёг, уткнуўшыся носам у чаравік, і ўздыхнуў.

Звычайна ён уздыхаў над міскай гарачай поліўкі — марудна астывае, ліха на яе! Цяжэйшыя ўздыхі пачыналіся пасля вымовы за чарговую правінку, скажам, за разлупленую панчоху лістаношы, не па злосці, праўда, яна прыносіла пах газетнай фарбы, якога сабака страшэнна не любіў. Уздыхалася яму і ад смутку: хацелася пабегчы за кім-небудзь з нас у магазін, а тут узялі і не пусцілі.

Зараз Дзікава ўздыханне азначала штосьці іншае. Магчыма, разгубленасць — што ж рабіць, той жа не ўпыняецца, брэша, а за што тут лаяцца, ніхто нічога дрэннага яму не ўчыніў. А можа, у сабакі было крыху крыўды і на мяне, на забарону заклікаць да парадку нахабніка.

Псючок, напэўна, разумеў усе перавагі свайго становішча: ён на сваім ганку, а ў сваім двары і трэска памагае. Няйначай нешта падобнае спакмячаў і Дзік: хто ж рызыкне рабіць напад на вартаўніка ў часе службы!

Тым часам мой сабака ўсё ўздыхаў і паглядаў то на мяне, то ў бок неўтаймоўнага брахуна.

Каб спыніць узаемнае псаванне сабачых нерваў, я ўстаў, хацеў перайсці на далейшую лаўку. Падхваціўся і Дзік, вільнуў мне хвастом і, угнуўшы галаву, на ўсю сілу прыпусціўся да звяглівага сабачкі.

«Будзе бяды!» — мільгнула думка, аднак адклікаць, спыніць сабаку я не паспеў, ён падбег пад самы ганак.

Брэх жоўценькага дасягнуў найвышэйшых нот трывожнага вакалу[1], Дзік пад носам у яго завярнуўся, уціснуў хвост і на такой жа хуткасці пачаў уцякаць.

Тут выказалася неадольная ўласцівасць сабачай натуры: глядзець на таго, хто ўцякае, і не кінуцца наўздагон — звыш сабачых сіл.

Жоўты сабачка кумільгом[2] скаціўся з прыступак і ўлёг за ўцекачом. Калі ён адбегся крокаў на дзесяць ад дому і, поўны ваяўнічага запалу, ледзь не хапаў Дзіка за ногі, той раптоўна стаў і спружыніў на лапах. Разявіў сваю велізарную пашчу — ад здзіўлення я не мог падаць голасу і заплюшчыў вочы, — але вельмі далікатна ўзяў малога за каршэнь, патрос у паветры і, не зрабіўшы ніякай шкоды, паклаў на траву. Той віскнуў і застаўся ляжаць на спіне з падагнутымі лапамі, што азначала поўную капітуляцыю[3].

Дзік і не падумаў гнюсіцца аб малога, крыху вінавата палашчыўся. Гэта магло быць перапрошванне: не ўшчувай вельмі, іначай не мог. Магло быць і выхвалянне: бачыш, як ёмка я правучыў гэтага драбняка.

Рудзенькі рызыкант, каб не нарвацца на горшае, падаўся, пабрэхваючы, пад ахову родных дзвярэй, а я паспяшаўся пайсці. Не столькі ўнікаў сутычкі з гаспадарамі пакрыўджанага, як не мог дайсці да ладу, што ж адбылося.

---

[1] *Вака́л* — спевы.

[2] *Кумільго́м* — кулём (перакуліўшыся праз галаву).

[3] *Капітуля́цыя* — прызнанне над сабой перамогі, спыненне барацьбы.

На завароце алеі — сабака не адбягаў і не адставаў ад мяне — я ўспомніў пра неаднойчы ўжываны сродак, які, аднак, дзейнічаў мацней за любое пакаранне.

— Глядзець на цябе не хачу. Не трэба мне такога сабакі, — пачаў я ўшчуванне.

Дзік на вачах набываў надзвычай пануры і прыгнечаны выгляд, яго прабіралі такім чынам за неэтычныя адносіны да гасцей або да суседзяў і за ўсялякія іншыя правіны. Сабака тады страшэнна засмучаўся, стараўся стаць непрыкметным, зашываўся на сваё месца за шафай, там клаў галаву на лапы і ўздыхаў таксама, як і тут, у парку.

Але цяпер ніякай правіны за сваёй сабачай душою ён не адчуваў, не адчуваў нічога такога і я, калі не лічыць здзіўлення ад вынаходлівасці правучыць нахабніка і забіяку.

Як відаць, сабака ўлавіў у маім голасе не грозьбу, не сур'ёзнае папярэджванне, а прытоены смех. Так яно і было. Перад вачыма стаяў пацешны малюнак няўдалай сабачай пагоні і расправы: жоўтыя лапкі недарэчна трапяталіся ў амаль паглынуўшай усё тулава жоўценькага пашчы і тыя ўцёкі сабачкі дамоў, азіраючыся, з брэхам і павіскваннем.

— І ўсё ж такі ты не дурань, Дзік! — я не датрымаў сур'ёзнасці. Сабака падскочыў, учуўшы іншы тон звароту, лізнуў мяне ў бараду і не даў дагаварыць, што ён самы прыемны і кемлівы з усіх знаёмых мне прадстаўнікоў ягонага роду.

Да Дзіка дайшло — яму нічога не пагражае. Сабака зноў зрабіў вясёлы падскок, прыгнуўся перада мною на выпрастаных лапах і выставіў наперад галаву, як робяць сабакі, запрашаючы

адзін аднаго на гульню: пабегаць і падурэць. Зараз было не да гэтага. Калі хто-небудзь з гаспадароў рудзенькага сабачкі бачыў развязку ягонай прыгоды, нас чакалі непрыемнасці і лішнія размовы. І мы падаліся дадому...

Лятучая нарада: слухаецца паведамленне Гаспадара пра паводзіны Дзіка. Удзельнічалі ўсе сямейнікі, толькі кот Хама спаў на канапцы, яму нядаўна не пашанцавала, але пагаварыць пра гэта будзе час.

Неяк само сабой атрымалася, што віноўнік размовы апынуўся ў цэнтры пакоя, людзі сядзелі наўкруга яго пры вокнах і стале. Калі завіталі Алік з Лёнем і занялі столак каля дзвярэй, кола амаль замкнулася, усе, з усіх бакоў утаропіліся на сабаку. Дзік адчуваў гэта — ніякавата ад такой пільнай увалі стала, ён устаў і паспрабаваў схавацца ад позіркаў за крэслам Гаспадыні.

— Сядзі, як сядзеў. І матай на вус!

Слухацца неахвота, але Дзік вяртаецца на ранейшае месца.

Напачатку, як некалі на ваенных саветах, пытаюцца погляду малодшых.

— Што вы пра гэта думаеце, хлопцы?

Лявон зноў пераступіў права на слова меншаму — брату. Алік вытлумачыў здарэнне даволі арыгінальна, але крыху прасталінейна, як дазваляў яму ўзрост.

— Дзік спачатку забаяўся, — сказаў хлопчык, — пасля яму стала брыдка перад вамі, і ён даў пытлю[1] таму злосніку.

---

[1] *Даць пы́тлю* — моцна правучыць, расправіцца (з кім-небудзь).

Лявон паправіў акуляры і, не абвяргаючы браціка, бо паважаў не толькі свае погляды, пачаў разважаць:

— Дзік зрабіў выгляд, што спалохаўся, вось і падмануў сабачку, спакусіў даганяць.

Нейкім чынам гэта пасавала да маіх назіранняў і да вычытанага з кніжак пра паводзіны сабак у розных абставінах.

— Дык ты думаеш, што Дзік умее разважаць? — спытала Ініна маці Наташа, па прафесіі настаўніца. — Выходзіць, ён склаў план аперацыі?

— Падобна, — крыху збянтэжыўся Лявон.

— Аднак жывёліны не надзелены здольнасцю мысліць. Вам ужо гаварылі ў школе пра ўмоўныя рэфлексы?

— Не, я сам чытаў крыху.

— І што ж?

Хлопец падняў на мяне акуляры:

— Ваш Дзік пярэчыць тэорыі ўмоўных рэфлексаў. І шмат у чым.

Гэта была праўда: сабака лавіў загады і просьбы не толькі зачуўшы слова, а з аднаго руху ці позірку, і не меў школы, не прайшоў ніякай дрэсіроўкі.

Мы гаварылі далей.

— Па-твойму, Лявон, акадэмік Паўлаў памыліўся? А яго доследы на сабаках пацвярджаюць гэту тэорыю…

— Так. Але, можа, тэорыя не распрацавана да канца…

Нешта падобнае здавалася часамі і мне. Аднак нейкі загадкавы момант у паводзінах аднаго сабакі не даваў ніякіх падстаў сумнявацца ў шмат-

гадовай рабоце вялікіх. Дый яшчэ быўшы амаль невукам у гэтай справе.

І ўсё ж, што адбылося ў парку? Як растлумачыць? Па Лявонавым: зрабіў выгляд, што баіцца. Што шкуматаць меншага і слабейшага ды яшчэ на яго ўласным парозе не дазваляе ніякая этыка? Нават сабачая.

Паколькі тое смешнае і нясмешнае здарэнне адбывалася ў парку амаль усутыч з колішняй сядзібай Якуба Коласа, было вырашана расказаць усё яму.

Што ён скажа?

Канстанцін Міхайлавіч слухаў усмешліва, хоць я і пабойваўся, што магу расхваляваць яго прыгадкаю пра мясціну, дзе некалі стаяў ягоны дом, пад дахам якога жыла ўся цалкам, не кранутая вайною і часам, сям'я. І, дарэчы, былі вартаўнікі, вельмі сімпатычныя сабакі.

На шчасце, сумныя прыгадкі абмінулі яго, а пасур'ёзнець Канстанцін Міхайлавіч пасур'ёзнеў:

— Можна сказаць, сабачая правакацыя. А можа, нават стратэгія: задуманы і складзены план аперацыі, як сарваць ворага з ягонай тэрыторыі і пакараць. І бліскучае выкананне...

## Дзік і кот Хама

Звычайна кот умошчваўся ў адчыненай фортцы дубэльтаў, так хараша гавораць сталяры на падвойныя рамы, сачыў, як чубяцца і сварацца на вішняку вераб'і, і ляскаў зубамі. Ад прагнасці, хутчэй ад звычкі сваіх продкаў — паляваць, лавіць жывое, у яго падрыгвала ніжняя сківіца.

Пераканаўшыся, што з форткі свежае дзічыны не здабудзеш, кот вылез на дах. Неасцярожны верабейка падскакаў заблізка да мызы драпежніка. Хама скочыў і не адзержаўся на слізкіх гонтах. Зляцеў далоў, а на лапы добра не стаў, не паспелі спружыніць, што звычайна ратуе катоў пры паданні, і таму пабіў нос, а таксама губы каля вусаў.

Дзік уважліва аблізаў яго, як і тады, калі ратаваў абсмаленага ў печы, і прынёс, узяўшы за каршэнь, пад самыя дзверы.

Наогул жа жылі яны ў згодзе. Неахвотна, праўда, Дзік даваў кату месца каля свае міскі, дазваляў пакаштаваць стравы. Хама шырока карыстаўся такім высакародствам і не мінаў выпадку паласавацца, хоць і не быў галодны, наогул атрымліваў куды больш смачных кавалачкаў.

Дапускаўся кот нават у сабачую кватэру, праўдзівей, на Дзікаву падсцілку. Скручваўся ў сабакі пры самым жываце. Зімою хата наша асабліва выстывала, тады абодвум спалася цяплей.

Дзік толькі аднаго разу пакараў ката, дый то якая гэта была кара, можна сказаць, папярэджанне, растлумачэнне, што не да твару рабіць прыстойнай хатняй жывёліне. Хама ў нас быў яшчэ навасёл, а да гэтага карміўся каля агульнага памяшкання рамесніцкага вучылішча. Па тых харчах меў і апетыт — непамерны, як на худое і няўдаленькае кацяня.

У доме чакаліся госці. Стол быў рассунуты, блішчэў посуд, нажы і відэльцы раскладзены з таго боку, як і належыць. Пачэснае месца займаў доўгі фаянсавы паўмісак. На ім красаваўся шчупак — фірменная страва Гаспадыні, яе сапраўдны гонар.

Жанчыны канчалі завіхацца ў кухні, я гартаў часопісы ў сваім пакоі, у сталовай заставаліся ці то сачылі адзін за адным, ці то моўчкі аглядалі сервіроўку Хама і Дзік.

Раптам пачуўся лёгкі скок, услед за ім мітусня і злоснае кацінае: «Вва-ў!» Мы вызірнулі: Дзік, падняўшыся на крэсла, цягнуў са стала Хаму, а ў таго на кіпцюры быў узнізаны шчупачыны хвост. Кот упіраўся і вольнаю лапаю даставаў сабаку па мордзе.

Засмуцілася, а пасля засмяялася і Гаспадыня, не зважаючы на пашкоджанае кулінарнае збудаванне.

— Маладзец, — пахваліла яна сабаку, паклаўшы на месца яшчэ непачэпаны кавалак рыбы, — без хваста ніякага выгляду. — А ты — благі, нявыхаваны кот, хам, хамуйла.

— І я тое скажу, — далучылася Наташа, — я ж яго сырою рыбаю накарміла. Яшчэ і гадзіны не прайшло. Еў, пакуль не адваліўся.

Ад таго часу, уласна кажучы, за катом замацавалася пэўнае імя. Дасюль яго клікалі: кіцка, каток, мурняўчык, пасля выпадку са шчупаком прыляпілася мянушка Хам, а з часам, калі правінка забылася, — сталі зваць Хама. Гэта вельмі пасавала да ягонай вусатай морды, дый сам ён разбыўся, ператварыўся з шэранькага камячка поўсці ў спаважнага і саліднага мурлыку.

Тады ж Гаспадыня, спярша пахваліўшы сабаку, падакарала яго:

— Ну, хто так робіць? Навошта было хапаць катка? Мог проста пастрашыць, турнуць яго ад стала. А з тваімі зубамі нядоўга і перакусіць тую лапу.

Тут было паказана, як добра выхаваны сабака павінен турнуць неслуха-ката. Хаму ўзялі за каўнер і лёгенька перасадзілі з канапы на падлогу.

— Бачыш, як трэба?

Дзік сачыў, насцярожваў вушы і, як ні дзіўна, прыняў навуку да ведама.

У далейшым паводзіны катка і блізка не дасягалі добрапрыстойнасці Дзіка. Хама мог разлегчыся без папытання на падушцы, нарабіць лапамі брудных слядоў на капе[1]. Часта блытаўся пад сталом у час абеду і ўздрапваўся на калені, не хаваючы чутных і праз адзежу пазуркоў.

Калі гэта было вельмі не да месца і не да часу, прасілі:

— Дзік, турні Хаму!

Сабака пераносіў ката ў парог і аглядаўся: калі хочаце, маўляў, магу і за дзверы выкінуць.

Часцей Дзік паводзіўся менш далікатна: спіхаў ката з крэсла ці з ложка мордаю і чакаў, ці не будзе загаду на большае.

— Дадай, дадай яму! — казалі, калі трэба было адчувальна пакараць кацінае самавольства.

Такая цырымонія была праароблена і ў той вечар, калі Лявон з Алікам прыйшлі да нас высвятляць, што кіруе паводзінамі сабакі. У прыватнасці, з ранішняй асадай туалета.

Хама і зараз дапусціў нетактоўнасць: палез лапай на талерку з-пад рукі ў Аліка. Пакаранне не замарудзіла. Сабака згроб ката і панёс пад дзверы, хоць і зарабляў ад таго поўху кіпцюрамі.

---

[1] *Ка́па* — пакрывала на ложак.

Здачы не даваў, але паклаў Хаму на падлогу і прыціснуў лапамі: шыпі ні шыпі, круціся ні круціся — не дапаможа! Хама быў вызвалены толькі пасля адпаведнай просьбы Гаспадыні:

— Годзе, сабачка! Дзякуй.

Дзік, здаволены падзякаю, абыходзіў па чарзе прысутных, яго хвалілі, гладзілі, і ён кожнаму рабіў лёгкі віль хвастом. Найбольшаму ж свайму прыяцелю, Аліку, не забыўся лізнуць у нос.

Паклычаны і абслінены кот касавурыўся на занадта стараннага ахоўніка парадку, калі той, палашчыўшыся да людзей, падбег павітаць і яго, кот стаў на задні лапы і плюнуў. Сеўшы ў зацішнае месца, Хама старанна ўмываўся то адной, то другою лапкаю, парадкаваў і прыгладжваў поўсць. Зрэшты, Наташа пачала ў кухні старацца для абоіх вячэры, а ў гэты час між катом і сабакам усталёўвалася добрасуседства і згода. Так было і зараз: Дзік і Хама падаліся падчышчаць свой посуд.

## Дзік адбірае аладку. Дзік гаворыць па тэлефоне

Мы часта гаварылі пра тое, што ён мае́ думкі чытае. Як мог Дзік угадваць з паўслова, што яму трэба зрабіць, дазнаваўся адкуль, што будзе рабіцца ў доме, можа, хто мае прыйсці, калі каго з хатніх спатрэбіцца правесці ў магазін ці на пошту. А разуменне ім зваротаў да сябе часам смяшыла, часам палохала.

Вярнуўшыся са школы, Іна ведала: яе чакаюць некалькі гарачых аладачак, першае падма-

цаванне, пакуль усе збяруцца на абед. Пачаставала была кавалачкам таго прысмака Дзіка, і ён упадабаў. Дзяўчынка бралася за полуднік, а ён сядзеў поруч і прасіў падзяліцца.

Прасіў літаральна, чаго не дазваляў сабе, калі сядалі есці дарослыя і госці. А тут неадрыўна глядзеў малой у вочы, нават пачэпваў спаднічку лапаю.

Аднойчы яна села за стол і ўткнулася ў цікавую кніжку, адсунула талерачку з аладкамі і толькі часам адшчыквала пакрысе.

Дзік заняў просьбіцкую паставу каля яе крэсла. Глядзеў, глядзеў, і без карысці, Іна нічога не бачыла, акрамя свае кніжкі.

Сабака ўстаў, перайшоў пакой і стаў каля канапы, дзе я праглядаў газеты. Хвост у яго пакрыўджана варушыўся, вочы глядзелі з дакорам то на мяне, то на нядбалую дзяўчынку. Прыніжаны выгляд яго нібыта падказваў мне: ну, хоць ты абзавіся, што я на свеце ёсць. І чакаю.

— Што, не частуе?

Каб ён мог гаварыць, дык, напэўна б, сказаў: «Так».

— А ты добра прасіў?

Умольная морда і шпарчэйшае вілянне хвастом як бы пацвердзілі: «занадта добра».

— А ты пайдзі яшчэ папрасі.

Дзік імгненна падаўся і зноў ператварыўся ў просьбіта. Паглядзеўшы, штурхнуў Іну носам у калена.

Я паўзверх старонкі наглядаў, што будзе далей. Сабака вярнуўся да мяне з яшчэ больш настойлівай просьбай памагчы. Паглядаў на мяне,

потым паварочваў морду на аладкі, нібы паказваў, чаго яму жадаецца і ў чым яму так несправядліва адмаўляюць.

Іна тым часам зразумела ўсё і ўключылася ў гульню. Павольна са смакам мачала блінцы ў смятану і ела, падражніваючыся. Адразала кавалак і падымала ўгару, нібыта збіралася падзяліцца з Дзікам. І раптам адсоўвала руку, ела сама.

Дзік устаў і, не вільнуўшы ёй хвастом, прыйшоў да мяне з крыўдай.

— Ну, што? Не дае? Дык ты вазьмі сам.

Усё астатняе адбылося ў адзін момант: падскок, лапы на стол, талерачка з аладкамі была не толькі падчышчана, але і вылізана.

Здаволеная морда пасміхнулася, а Іна заплакала. Не так шкада было свае страты, як спалохалася.

Давялося супакойваць, асушваць слёзы цукеркай. Дзік падаўся на сваю падсцілку і ляжаў ціхенька, ці не пачуваў сябе вінаватым.

Мы сталі асцерагацца. Стараліся не ўжываць сказаў, што маглі быць успрыняты сабакам як просьба ці загад і выкананы ў шкоду каму-небудзь. І чым далей жыў ён у нас, тым больш і хутчэй мы разумелі адзін аднаго.

Дзік страшэнна не любіў, калі я выязджаў з дому. А гэта здаралася даволі часта: то паклічуць на радзіму землякі, то захочацца зірнуць на асушанае Палессе, то з’явіцца патрэба з’ездзіць у Маскву.

За некалькі дзён да выезду сабака пачынаў відавочна засмучацца. Хадзіў за мною лапа ў ла-

пу, праводзіў на работу да брамкі і тут жа сустракаў. Ад дому далёка не адбягаўся, хіба што суправаджаў Наташу ў двор па ваду ці па хлеб.

Калі я ішоў працаваць у свой пакой, ён клаўся на парозе, і ўжо туды ніхто і кроку не ступі. Выключэнне рабілася толькі для Гаспадыні. Дый то пасля належнага ўшчунку: «Адсунься, дурань! Не з'ем я твайго Гаспадара, толькі кнігу вазьму!»

Сабака неахвотна даваў дарогу і зараз жа прымаў старое становішча: морда і пярэднія лапы ўпіраліся ў адзін вушак, а заднія і хвост — у другі: ходу няма. Ноччу для большай пэўнасці, што ўпільнуе, ціхенька перабіраўся да мяне на тахту, асцярожна скручваўся ў нагах: падрабляўся пад ката, якому часамі дазвалялася спаць на ложку.

Самыя галоўныя хваляванні і турботы ў яго пачыналіся, калі перад самым ад'ездам я развітваўся з усімі.

Адвітанне: «Бывай, Дзік!» — літаральна краіла яму сэрца. Ён млява падаваў лапу, журботна ўздыхаў, глядзеў убок. А пры ўваходных дзвярах нібыта ўрастаў у падлогу, не пускаў. Калі ж удавалася выслізнуць услед самому, не даваў сесці ў машыну, хапаў зубамі за рукавы і крыссё.

Каб пашанаваць сабачыя нервы, Дзіка пачалі выводзіць куды-небудзь далекавата, пакуль не паеду. Праўда, вярнуўшыся, ён адразу ж хапаўся выяўляць прапажу. Доўга і ўважліва аглядаў мой пакой, абнюхваў тэраску, дзе я трымаў старыя кнігі, тады пагаджаўся з лёсам. Чакаў.

Што ж, гэта ўласціва ўсім хатнім сабакам. А вось як ён выяўляў, што збіраюся ехаць? Прадчуваў? Ці надзелены жывёлы такімі якасцямі?

Мы меркавалі па-рознаму. Хутчэй за ўсё ён прыкмячаў, што ў доме пачынаюцца зборы. Дасталі з шафы і абцёрлі пыл з чамадана. Напрасавалі і наскладалі туды хустачак і кашуль. Вось адразу дзве прыкметы, а гэтага зусім даволі для пільнага вока…

## Развітальнае слова

Відаць, нехта пацікавіцца, а які ж лёс сустрэў Дзіка ў далейшым.

Можа, ён вызначыўся нейкім асаблівым учынкам, за які ўзнагароджваюць каштоўнымі падарункамі, пра які пішуць у газетах?

Можа, дасягнуўшы пенсійнага ўзросту, ён дажываў век у зацішку за горадам, дзе добрыя людзі даглядалі ветэрана вартавой і хатняй службы?

Можа, над ім насыпаны пачэсны курганок са стэлаю[1], як зроблена ў падзяку свайму псу за ўратаванне дзяцей на пажары ў адным з гарадкоў за акіянам?

Так пыталіся ўжо і пытаюцца зараз. Не буду даваць адказаў, не хачу ні засмучаць вас, ні ўсцешваць.

Адно скажу, дзесяткі два гадоў назад дом наш збяднеў на аднаго сямейніка. Дзікава адсутнасць спачатку адчувалася вельмі востра, але мінаў час, і адчуванне адсутнасці змянілася адчуваннем заўсёднай прысутнасці яго поруч. Магу абазвацца, паклікаць, спытаць. Адказу няма, але я адчуваю по-

---

[1] *Стэ́ла* — высокая пліта над памятнай мясцінай або пахаваннем.

зірк разумных карых вачэй, зайздросную пільнасць, тонкую чуласць, ахвярную адданасць.

На вуліцы, пры вадзе ці на выстаўцы вам можа трапіцца даўгаватая цёмна-шэрая морда з крыху абвіслым вухам. Зірніце ў вочы: яны самі, здаецца, гавораць пра вялікае сабачае сэрца, выказваюць зрыхтаванасць не даць у крыўду блізкага чалавека. І ў той жа час распытваюць: чым магу пасабіць? Збегаць па газету або па хлеб? Сплаваць у возера па кіёк? Легчы на парозе і не падпускаць нікога?

Загадвайце, будзе ўсё зроблена. Дужыя лапы могуць бегаць шпарка.

Дык вось, калі вам пашчасліўіцца ўбачыць дзе такую слаўную морду і вы адчуеце пад сэрцам цеплыню, лічыце, што сустрэліся з Дзікам. Ды, зрэшты, які сабака ні трапіць вам на вочы, будзьце ўважлівыя, кожны прадстаўнік гэтага роду мае часцінку Дзікавай істоты: за дабро плаціць дабром. Так робяць усе чыста сабакі на ўсім белым свеце...

1. Хто такі Дзік? Як апынуўся ён у доме Алеся?
2. Як выглядала сабачаня? Як пачувалася ў нязвыклых для яго абставінах? Што з першых месяцаў жыцця ў сям'і пісьменніка сведчыла пра здольнасць Дзіка добра разумець людзей і правільна ацэньваць жыццёвыя сітуацыі?
3. Як пачыналася сяброўства Дзіка са сваім Гаспадаром?
4. Раскажыце, як Дзік выратаваў Алеся ад рабаўніка. Ці мог Гаспадар у далейшым раз-

лічваць на дапамогу свайго сабакі? Абгрунтуйце свае меркаванні.
5. Узгадайце, як Дзік «пасварыўся» з рудым сабачкам. Як ён паводзіў сябе пасля гэтага здарэння? Якую ацэнку атрымалі яго паводзіны?
6. Ахарактарызуйце дзеянні Дзіка ў сітуацыі з Інінай аладкай?
7. Прыгадайце іншыя выпадкі, калі Дзік трымаў сябе як разумны, далікатны і выхаваны сябар.
8. Якую памяць пакінуў пасля сябе Дзік?
9. Падрыхтуйце вусны аповед пра Дзіка, выкажыце свае адносіны да яго.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Якія літаратурныя творы гэтага раздзела вам найбольш спадабаліся? Якія літаратурныя героі запомніліся?

**2.** Паразважайце, чаму мастацкую літаратуру называюць чалавеказнаўствам. Як звычайна раскрываюцца характары герояў у творы?

**3.** Як вызначыць тэму і асноўную думку мастацкага твора?

**4.** Што такое сюжэт літаратурнага твора? На чым ён грунтуецца? Якія этапы звычайна вылучаюць у сюжэце?

**5.** Прыгадайце мастацкі твор, які вы прачыталі самастойна і які вам вельмі спадабаўся. Уявіце, што вам трэба коратка распавесці пра яго сябрам, каб заахвоціць іх прачытаць гэты твор. Пра што раскажаце ім?



# ПРЫГОДЫ І ПАДАРОЖЖЫ

Якая асалода — жыць,
Знаць вартасць кожнае гадзіны,
Тым, што адкрыта, даражыць...
І адкрываць за дзівам дзіва.

*Васіль Вітка*

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

## Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў

*(Скарочана)*

### Пра Мішкава дзяцінства і аб тым, як ён маліну любіў

Калі б хто запытаў Мішку:

— Што ты любіш больш за ўсё на свеце?

Ён адразу б сказаў, каб умеў гаварыць:

— Што люблю? Маліну люблю... Мёд люблю... Цецеруковыя яйкі люблю...

— А яшчэ што?

— І яшчэ маліну.

Дужа любіў Мішка маліну і праз гэтую маліну вялікія непрыемнасці меў, і ўсякія праз яе няшчасці з ім здараліся і пакуты. Але цярпеў, крыўды зносіў і знявагі.

Вось і сягоння напалі на яго няўдачы. Ішоў пануры, нізка схіліўшы галаву, хістаўся троху з боку на бок і час ад часу вурчаў паціху, пад нос. Тады спынялася матка на якую хвіліну і пагрозліва касіла вокам і выскаляла зубы. Мішка таксама спыняўся, кідаў вурчаць і, схіліўшы да самай зямлі галаву, хітра сачыў за маткай, а ці не дасць часам яшчэ па загрыўку. Сачыў і быў гатовы адразу ж кінуцца наўцёкі, падалей ад матчыных пачастункаў. Ну як жа тут не быць панурым і сумным.

А пачалося ўсё раніцай. Яшчэ не паднялося сонца, яшчэ клубіўся туман над палянамі, як заварушылася Мішкава матка, грузна ўзнялася на пярэднія лапы. Потым, зяхнуўшы, стала на ўсе чатыры, шумна атрэслася ад моху, ад сухога лісця і падалася наверх з цёмнай бярлогі. Бачыў Мішка, як стаяла яна на краю бярлогі і, выцягнуўшы галаву, удыхала трапяткой[1] і гарачай наздрынай свежае паветра раніцы, потым павяла кругом галавой і замерла на якую хвіліну — прыслухоўвалася. Аднекуль здалёк прыляталі глухія гукі балабонаў[2] — відаць, пасвіліся на балоце коні. Ціха пранесліся над палянай качкі, пралапацеў крылламі цецярук — аж аблізнулася матка, уздыхнула. Тады Мішку зрабілася сумна. Мо таму,

---

[1] *Трапяткі́* — тут: дрыготкі, чуйны.

[2] *Балабо́н* — кругленькі званочак у выглядзе шарыка.

што ў бярлозе, пад вялікім яловым вываратнем, было цемнавата, мо таму, што без маткі рабілася холадна і няўтульна. І Мішка паціху заскуголіў. Матка вярнулася назад, узяла Мішку зубамі за карак і паставіла на ногі. І Мішка ведаў, што гэта значыць: «Уставай, лодар, лежабока, час ужо па снеданне ісці!» Ён паспрабаваў жартаваць, упірацца, забіраўся па карэннях аж пад самы верх бярлогі. Але, атрымаўшы некалькі лёгкіх кухталёў, пайшоў паслухмяна з бярлогі.

Наверсе было халаднавата, стаяла раса, і Мішка асцярожна пераступаў з нагі на нагу, зябка атрасаючы лапы ад сцюдзёных кропель вады, стараўся патрапіць у матчыны сляды, каб лішне не змачыцца. Але ўрэшце гэта яму надакучыла, і ён кінуўся з усіх чатырох ног, абагнаў матку і пабег, што было сілы, па кустах, па алешніку, спалохаўшы некалькі птушак, якія вылецелі з густой травы проста з-пад Мішкавага носа. Мішку хацелася сагрэцца, пабязуліць[1]. Але ці разумее ж гэта матка? Яна як заўсёды. Вось дагнала яго, злосная, узрушаная, і дала так па загрыўку, што ў Мішкі пазелянела ўваччу і ён уткнуўся носам у зямлю, балюча накалоўшыся на хваёвую шышку. І да таго ўзлаваў, аж сам сябе не помніў. Злаўчыўся ды як хопіць неўзаметку зубамі за матчыну нагу, аж зараўла старая мядзведзіха. А сам наўцёкі, аж задыхаўся бегучы, засопся. Ды дзе ты ўцячэш! Чуе Мішка, зямля дрыжыць за ім — то бяжыць, даганяе матка. Аж у пот у халодны кінула. І вось

---

[1] *Пабязу́ліць* — тут: пабегаць, пасваволіць.

дагнала. І такога чосу задала, што Мішка доўга не мог ачухацца. А ўрэшце як ударыць матка нагой, аж пакаціўся з узгорка Мішка і ніяк устаяць не мог, учапіцца нагой за што-небудзь. Ляцеў, ляцеў ды як шлёпнецца ў канаву. Ускочыў у гразь, аж па самыя вушы, ні павярнуцца, ні паварушыцца, ні з канавы гэтае выбрацца. Тырчыць пыса з вады, палахліва бегаюць вочкі, ды ціха скуголіць Мішка ад страху ды ад болю. Паважна падышла старая маці, спынілася, над Мішкам нагнулася, лізнула языком у яго халодны нос — Мішка і вочкі заплюшчыў з перапуду: а што, калі дасць яшчэ за ўсе яго штукі? Але мядзведзіха асцярожна ўзяла яго за карак, падчапіла нагой і выцягнула з канавы. Ухапіўшы яго пярэднімі лапамі, высока падняла і патрэсла, каб асыпалася з Мішкі ліпучая гразь. Потым паставіла на ногі — ідзі, моў, неслуш, ды не дурыся болей! І пайшоў Мішка мокры, брудны, цярпліва ішоў па матчыных слядах, не адступаючы ад яе ні на крок, ціха, разважна, панура[1]. Вось чаму сумны быў наш Мішка ды час ад часу пaціху бурчаў, спрабуючы агрызацца на матчыны загады.

Яны ішлі доўга. Прайшлі паўз паляну, дзе было складзена бярвенне і дровы. Матка перавярнула некалькі калод, знайшла пад імі багата чарвякоў розных і, забыўшыся на Мішкава непаслушэнства, частавала яго і ласавала. У паленніцы дроў выпарала невялічкае гняздзечка. У ім было з паўдзесятка маленькіх сіняватых яечак. Яны былі надзвычайна смачныя, і Мішка аж задзіраў

---

[1] *Пану́ра* — у кепскім настроі, з апушчанай галавой.

пысу ўгору і, звярнуўшы ў трубачку язык, высмоктваў іх і, забыўшыся, глытаў і шкарлупкі.

Пасля пайшлі праз балота, старанна абышлі месца, дзе чуваць былі конскія балабоны, з балабонамі чуваць былі і людскія галасы. І хоць Мішка ні разу чалавека не бачыў, але па тым, як ухілялася старая маці ад сустрэч з чалавекам, адчуваў, што гэта няйначай, як самы хітры вораг, магчыма, што нават горшы, чымся жаба альбо чмель, ці, скажам, вожык. З гэтымі ўсімі паспеў пазнаёміцца Мішка, і знаёмства не дало яму асаблівай прыемнасці. Паспрабаваў раз жабу лізнуць языком — пляваўся колькі, ды дні са тры язык усё саднілa, гарэніла. Добра даўся чмель у знакі, доўга ганяўся за ім Мішка. Прыгожы быў чмель, вясёлы такі, залацісты. Сам невялічкі, а голас дае — ку-у-ды там, гудзіць, аж трава калышацца. Ганяўся Мішка за чмелем і ўбачыў, як схаваўся той у невялічкую купіну. Тут і пачаў пароць яе Мішка, носам рыць. Рыў, рыў ды як зараве нечакана, аж матку перапалохаў, тая з бярлогі была выскачыла. Дні са два пух нос з таго часу, гарэў усё. Мішка і ў вадзе яго паласкаў, і аб матчыны бакі цёр, да сырой зямлі прыкладаў. Сяк-так адратаваў нос. І цяпер, калі заўважыць чмяля, дык бокам, бокам ды за куст куды, падалей ад чортавай мухі. Вось вам і чмель!

Пра вожыка і казаць не прыходзіцца, гэта ўжо такі звер, страшней якога, мусіць, няма і на свеце. Дапякалі Мішку і пчолы. Хадзілі раз з маткай у глухі бор. Лазіла матка на хвою, залезла высока-высока, ледзь відно яе ад зямлі з-за папараці, за якой прылёг Мішка. І вось як зараве раптам

маці, як затрашчыць нешта ўгары, сухія галінкі ляцяць, цярушацца, ды гуд пайшоў па ўсёй паляне. Не злезла, а саскочыла маці ды ходу, Мішка за ёй. Бяжыць, а пчолы за ім — і на галаву, і на хвост, і за пуза ўчапіліся. Лезуць сляпіцаю ў нос і ў вочы. Што ні рабіў Мішка — і аб кусты цёрся, і па зямлі качаўся — нічога не дапамагала. Пакуль з маткай у ваду ўскочылі, у рэчку, — тады толькі і ачухаліся, ад пчол адмахнуліся. І дні тры хадзіў сам не свой. Хварэў нават трохі, у бярлозе адлежваўся. Вочы так паапухалі, што нічога не бачыў. Губы апухлі, нос, ні да чаго не дакрануцца. Але ж якім потым мёдам частавала маці, еў бы, здаецца, штодня ды смакаваў бы! Вось яны якія тыя пчолы былі!

І хоць баяўся Мішка і жабы, і чмяля, і пчол, і вожыка, але бачыў, што матка на іх і вокам не кідае, зусім не баіцца. А чалавечы голас калі пачуе — баіцца. Відаць, чалавек страшней за чмяля, за жабу. Вось і цяпер матка асцярожна абнюхвае паветра і ідзе ў другі бок па глухіх балотных сцежках. «Відаць, у авёс», — думае Мішка. І сапраўды, яны хутка выйшлі на вялікую паляну ў лесе. На ёй раскінуўся малады авёс. Ён яшчэ не паспеў, быў зеленаваты, і толькі дзе-нідзе траплялiся жоўтыя, залацістыя лапікі спелага. Ад лёгкага ветрыку хадзілі па аўсу дрыготкія хвалі, і яны поўнілі паляну ціхім, супакойваючым шолахам. Нібы перашэптваліся калосікі — шу-у-у... шу-у-у... Любіў Мішка гэты шолах, гэтыя ціхія, ледзь чутныя галасы аўсяных каласоў. Ляжа ў баразёнку і прыслухоўваецца. Над ім глыбокае сіняе неба, высока-высока плывуць празрыстыя

хмурынкі, пад імі плавае каршук, праляціць крумкач, пранясецца статак качак. У іх крыллі — свістулькі, толькі чутно: ф'ю... ф'ю... ф'ю... А авёс шуміць — шу-у-у... шу-у-у... шу-у-у...

Слухае Мішка і дрэмле, зіму ўспамінае, калі шумелі дрэвы, як гэты авёс. Праўда, шум той быў куды мацнейшы і грозны, хоць і чуў яго Мішка праз сон, праз сваю зімовую спячку. Не шумела, а гуло па верхавінах, па аснежаных лапах елак — угу-гу-у-у-у... у-у-у... І было тады страшна холадна. Памятае Мішка, як курылася пара над бярлогай, і ад пары тае звісалі празрыстыя ледзяныя сасулькі — аб іх наколваў нос Мішка, калі намагаўся пад самую вясну выпаўзці з бярлогі.

Любіць Мішка слухаць аўсяныя шолахі. А яшчэ больш даспадобы яму аўсяныя калосікі. Салодкія яны, пахучыя, як матчына малако. І аскубае Мішка авёс, поўнымі жменямі заціскае ў рот, а калі прытаміўся хадзіць на задніх лапах, калі наеўся, тады прылёг і, прымяўшы лапай колькі сцяблінак, ляніва перабіраў іх губамі, смакаваў кожны колас.

На паляне яны былі не адны. Прыйшоў яшчэ адзін стары мядзведзь. Быў ён надзвычай пануры, сярдзіты. Без усякай прычыны накінуўся на Мішку і так скубануў яго зубамі, што той аж зайшоўся ад рову. Тады заступілася матка і так грозна пачала наступаць на мядзведзя, так моцна ўдарыла яго пярэдняй лапай, што стары мядзведзь бегма кінуўся ў лес, затрашчала толькі ламачча ды кусты арэшніку. Па рыжай падпаліне на баку ў мядзведзя Мішка пазнаў у ім свайго бацьку і здзівіўся: вось дык бацька, добра выхоўвае ён сына, выскаляючы на яго зубы...

Без асаблівых прыгод пайшлі яны назад. Мядзведзіха ішла побач з Мішкам, старанна залізвала яму шыю, дзе былі сляды ад бацькавых зубоў, і ціха вурчала пад нос аб нечым сваім, мядзведжым. Калі пераходзілі праз ручэй, мядзведзіха ўзяла Мішку ў пярэднія лапы і пачала купаць яго. Не асабліва паважаў Мішка гэтую аперацыю і ў другія разы з усіх сіл намагаўся наўцёкі, спрабаваў кусацца. Але цяпер, узгадаўшы матчыну абарону і клопаты, паслухмяна цялёпкаўся ў вадзе і падстаўляў пад матчыны лапы то адзін, то другі бок. Пасля купання весела бегаў па лесе, ганяўся за белымі матылямі, куляўся па зялёнай траве, каб хутчэй абсушыцца.

Калі прыйшлі ў бярлогу, матка звалілася спаць. Бярлога была прасторная і ўтульная. Хапала цёплага моху, сухога лісця. Уверсе было багата пераплеценых карэнняў ад паваленага дрэва, так што столь была добрая, шчыльная, ніколі не прапускала дажджу. Бярлога была ў дзікім гушчарніку, ніхто не парушаў спакою, хаця і праходзіла недалёка лясная дарога, але была яна глухой і непраезджай. Колькі разоў выбіралася мядзведзіха з Мішкам на гэтую дарогу, каб пагрэцца на сонцы. І ніколі не сустракалі тут чалавека. Маці адпачывала, а Мішку не было ніякай ахвоты да сну. Ён у каторы ўжо раз абследаваў бярлогу, абнюхваў кожны каменьчык, кожны корань. Праўда, цікавага ў гэтым было мала. І калі ўсё гэта надакучыла Мішку, ён выбраўся з бярлогі на волю. Там было весялей. Добра было пакуляцца ў верасках, пабегаць сярод папараці, пастаяць перад муравейнікам і, запусціўшы ў яго лапу,

разварушыўшы, хуценька адскочыць убок і пазіраць, як бягуць неўгамонныя мурашы, цягаюць сцяблінкі, перацягваюць белыя яечкі. Багата чаго ёсць у лесе і паглядзець, і паслухаць. Вунь дзяцел дзяўбе старую алешыну. Усеўся, учапіўся лапамі за кару, дзяўбе носам — тук-тук, тук-тук... Паспрабаваў раз Мішка стукнуць носам па дрэву, але ніякага туку-туку не выйшла. Адна толькі непрыемнасць была, садраў нос і болей нічога...

А там вунь вавёрка пераскоквае з галінкі на галінку. Уселася ды чапурыцца[1], не зважае на Мішку. Той і сяк, і так, і зубамі лясне, і лапай зямлю дзярэ, і голас прабуе падаць, а вавёрка нічога, хоць бы зірнула раз, матляецца толькі хвост, як мяцёлка. Узлаваўся тады Мішка, да хвойкі кінуўся, стукнуў лапай па ёй. Вавёрка пераскочыла на другую хвойку, з той — на трэцюю. Мішка — за ёй. Спрабаваў на хвойку ўзабрацца. І вось-вось, здаецца, зловіць вавёрку, але дзе ты яе возьмеш, калі яна скача, як блыха. Раз такі скочыў з дрэва і сам Мішка. Думаў, што паляціць, як матыль, услед за вавёркай. І вось-вось, здаецца, зубамі за хвост учэпіцца, раскрыў ляпу шырэй, каб хваста не ўпусціць. Дык дзе ж ты бачыў! Секунда, дзве, і повен рот зямлі, ды нагу падбіў, так ляснуўся аб зямлю. Добра яшчэ, што дрэва было нізкае, маглі б Мішкавы палёты кончыцца куды горш.

Дасталося тады Мішку парадкам ад маткі, і прыйшлося яму назаўсёды кінуць свае лётніцкія практыкаванні. Няхай яны, тыя вавёркі, лятаюць,

---

[1] *Чапу́рыцца* — тут: прыбірацца, прыхарошвацца, прыводзіць сябе ў парадак.

бы матылюшкі якія, а яму, Мішку, хопіць і па зямлі хадзіць ды на хвойкі лазіць.

Бегаў, бегаў Мішка каля бярлогі і ўспомніў, што сёння яшчэ не спрабаваў маліны. Гэта ж трэба, каб у малінніку жывучы, ды маліны не паспытаць. Успомніў і пра матчыны загады — без яе нікуды не хадзіць. «Але ж гэта зусім блізка, недалёка ад дарогі, ці я заблуджуся? Ды матка спіць цяпер і не заўважыць нічога...» — падумаў Мішка і пайшоў паціху ў маліннік, зусім не прадбачачы тых падзей, якія адбыліся з ім у гэты дзень. Але аб гэтых падзеях раскажам далей.

## Пра Вясёлую Бараду і пра чорнага Жука

Пакуль Мішка будзе ласавацца малінай, нам прыйдзецца сказаць некалькі слоў пра Вясёлую Бараду, ці, інакш, Барадатага, ды пра чорнага Жука. Сказаць, каб яны жылі ў вялікай паміж сабою згодзе — будзе няпраўдай. Заўсёды Барадаты задаваў вялікага форсу перад Жукам, важнецкі прахаджваўся перад ім, ганарыста трос барадой або, набраўшыся надзвычайнага спрыту, нечакана кідаўся на яго, каб пацэліць на рогі. Жук выскаляў зубы, пагрозліва бурчаў, і, калі Барадаты не пакідаў сваіх ганарыстых выбрыкаў, Жук адыходзіў куды-небудзь пад куст, падалей ад назолы. Лежачы там у цяньку і ляніва адганяючы мух, Жук назіраў прыжмураным вокам за Барадатым, за яго фокусамі і вывертамі. А чаго-чаго не вырабляў Барадаты! Вось ён забіраецца аж на самую верхавіну паваленага дрэва, гоцае адтуль з усіх

чатырох капыцікаў на дол, не раўнуючы, як лёгкая вавёрка ці той матыль. Вось ён убачыў высачэзны пень. Абышоў яго, панюхаў, лізнуў. Потым адышоўся назад і, павярнуўшыся, пераскочыў яго з разгону, аж захрупасцелі капыцікі па зямлі, уздымаючы пыл над палянай, над верасkамі.

І гэта не ўсё.

Вось ідзе чырвонаармеец. Барадаты ўжо тут як тут. Рожкі наперад і не дае праходу ні направа, ні налева. З дарогі не саступіць ды пагрозліва памахае галавой.

Ну што ты з ім зробіш?

Чырвонаармеец дастае з кішэні махорку, сыпле на далонь, падстаўляе Барадатаму.

— На, адчапіся, ірад, некалі мне тут з табою разгаворы разгаварваць...

А таму толькі гэта і патрэбна. Злізаў махорку, засыпаў за губу і жуе, пераживоўвае, соладка прыжмурыўшы вочы. Да чаго ж махорку любіць Барадаты, пра ўсякія фокусы тады забывае. Стаіць, не зварухнецца, толькі барада трасецца. З вялікага задавальнення раскрые часам рот ды на ўсю паляну:

— Бе-э-э-э!.. Бе-э-э!..

Глядзіць тады на яго Жук, глядзіць, уздыхае. Дужа яму недаспадобы тытунёвыя практыкаванні Барадатага: ну які там смак з махоркі! Ад дыму тытунёвага ўцякаў як мага далей. Глядзіць, глядзіць ды ў след за Барадатым на ўсю паляну, на ўвесь лес:

— Га-аў!.. гаў!.. гаў!.. Га-аў!.. гаў... гаў!

Заліваецца брэхам ды хвастом па зямлі б’е — ад злосці на Барадатага, ад вялікай да яго зняваґі.

